28 кастрычніка 2016 | № 41 (506)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Венесуэлу чакае Майдан Стар. 20

**4 МОЛАДЗЬ: ПАЛІТЫЗАЦЫЯ ЦІ АПАЛІТЫЧНАСЦЬ?**

Практыка вулічнага пратэсту ў Беларусі — у заняпадзе. Што гэта — крызіс ідэй, страх перад рэпрэсіямі, няверʼе ва ўласныя сілы?

**5 АКАДЭМІЧНЫЯ СВАБОДЫ: ПЫТАННЕ Ў МАЗГАХ**

Якая будучыня ў ВНУ Беларусі, асабліва пасля таго, як наша краіна далучылася да Балонскага працэсу? На жаль, істотнага прагрэсу пакуль няма



**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22 КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ І ДЭПАРТАЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ**

«Брат прымушаны быў застацца на месцы. Ён пражыў дома год і чатыры месяцы, а 3 лютага 1933 году яго забрала НКВД і прывезла ў Менск у падвал...»

# Проста памятаць...

## У Беларусі тэма сталінскіх рэпрэсій па-ранейшаму замоўчваецца



Сяргей ПУЛЬША

«Крывавая ноч беларускай гісторыі», «чорная ноч беларускай літаратуры», «крыштальная ноч беларускай інтэлігенцыі»... Гэта ўсё пра адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года. Пра яе чамусьці амаль не згадваюць у сучасных падручніках гісторыі.

Як вядома, у гэтую ноч у сутарэннях КДБ былі расстраляныя больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты. Гэта літаратары Алесь Дудар, Валеры Маракоў, Міхась Чарот, Ізі Харык, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Янка Нёманскі, Юлі Таўбін, Анатоль Вольны, Хацкель Дунец, Васіль Каваль, Тодар Кляшторны, Мсей Кульбак, Юрка Лявонны ды іншыя (агулам 22 чалавекі!), наркамы асветы і юстыцыі БССР Аляксандр Чарнушэвіч і Максім Ляўкоў, рэктар БДУ Ананій Дзьякаў, загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Якаў Сандамірскі, начальнік Вышэйшай школы Наркамата асветы БССР Вадзім Башкевіч, студэнт БДУ Саламон Лямперт і дзясяткі іншых.

На наступны дзень смяротныя прысуды былі выкананыя ў дачыненні яшчэ да 30 чалавек, сярод якіх былі наркам унутранага гандлю Нохім Гурэвіч, палкавы камісар 16-га стралковага корпуса Іван Паплыка, прафесар Віцебскага ветэрынарнага інстытута Іван Троіцкі, пробашч Касцёла кармелітаў у Чавусах Павел Казюнас, праваслаўны святар Аляксандр Раеўскі...

У Архіве прэзідэнта Расіі захоўваецца «Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда СССР». У беларускім раздзеле, падпісаным 15 верасня 1937 года асабіста Сталіным і Молатавым, прозвішчы 103 «ворагаў народа», асуджаных да смерці, і яшчэ шасці — да канцлагераў на 10 і болей гадоў. Тое, што спіс рэпрэсаваных значна большы, тлумачыцца проста: да «сталінскага» спісу мясцовыя камуністы дадалі «сваіх» ворагаў.

Пры ўсім гэтым, па словах даследчыка гісторыі рэпрэсій Леаніда Маракова, 90 працэнтаў следчых, якія катавалі людзей, выбівалі з іх паказанні не толькі на сябе, але і прымушалі паклёпнічаць на іншых, былі не мясцовымі. Іх, як і суддзяў — «двойкі» ды «тройкі», — дасылалі ў Мінск з Расіі вахтавым метадам. Яны прыязджалі сюды на некалькі дзён, зачытвалі пару сотняў смяротных прысудаў і зноў зʼязджалі.

Гэтая зʼява дагэтуль не атрымала належнага асэнсавання нават у тых, хто прафесійна займаецца расследаваннем сталінскіх рэпрэсій.

Толькі за тры восеньскія месяцы ў 1937-м карныя органы СССР рэпрэсавалі больш за 600 грамадскіх і культурных дзеячаў краіны, а ў перыяд са жніўня 1937 па снежань 1938, які гісторыкі называюць «крывавым тунелем смерці», забілі звыш 10 тысяч чалавек.

Дзіўна, што пасля ўсяго гэтага ў нас увогуле засталася літаратура і культура.

Між тым, тэма сталінскіх рэпрэсій па-ранейшаму замоўчваецца. Наўрад ці мы пабачым тэлеперадачы, прысвечаныя гэтай тэме. У падручніках гісторыі тэме рэпрэсій прысвечаныя лічаныя радкі — зусім несупастаўляльныя з маштабамі забойстваў. Той жа Леанід Маракоў, выдаўшы шматтомную энцыклапедыю з біяграфіямі 25 тысяч рэпрэсаваных, прыйшоў да высновы, што ў тыя часы былі расстраляныя ці высланыя ў канцлагеры 90 працэнтаў беларускіх літаратараў, 100 працэнтаў святароў, кожны трэці



**За 20 гадоў у краіне не абаранілі ніводнай дысертацыі па рэпрэсіях**

настаўнік, амаль усе дырэктары заводаў, інжынеры, эканамісты, разам — каля 5000 службоўцаў.

Бадай, гэта быў самы жахлівы час у беларускай гісторыі. Але менавіта пра гэта ўлада ўпарта спрабуе забыцца. 29 кастрычніка сімвалічным Днём памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій абвясціла грамадскасць. На дзяржаўным узроўні пра такі дзень — маўчанне. У той жа час, як ва ўсіх постсавецкіх краінах (акрамя Беларусі, зразумела), вызначаны Дні памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Нават у Расіі, дзе зараз ідзе «пераасэнсаванне» ГУЛАГу і яго ідэйная рэстаўрацыя, Дзень памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій адзначаецца з 1992 года, і акурат 30 кастрычніка.

Дарэчы, у канцэпцыі ўшанавання памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, якую прыняў расійскі ўрад, гаворыцца пра недапушчальнасць «спробаў апраўдаць рэпрэсіі асаблівасцямі часу або наогул адмаўляць іх як факт нашай гісторыі».

У Беларусі няма ані спробаў іх апраўдаць, ані спробаў іх адмовіць. Проста ў нас пра гэта апошнімі часамі не кажацца нічога. Па словах другога гісторыка, Ігара Кузняцова, пры ўсёй глыбіні тэмы за 20 гадоў у краіне не абаранілі ніводнай дысертацыі, якая б аналізавала перыяд сталінскіх рэпрэсій.

Чаму ж гэтай гісторыі выракаемся мы, тыя, хто ці не найбольш пацярпеў ад гэтых рэпрэсій? Мы ж кажам пра тое, што незалежнасць краіны адбылася. Ужо і чыноўнікі па тым жа тэлебачанні разважаюць пра магчымую «рэабілітацыю» бел-чырвона-белага сцяга як нацыянальнага. Асцярожна пакуль, з аглядкай, але ж, як кажуць, ідзя ёсць. А ў дачыненні да сталінскіх рэпрэсій яшчэ працуе інерцыя мыслення — тэма лічыцца забароненай.

Колькі часу трэба, каб пра яе пачалі казаць уголас? Кажуць, народ, які не памятае сваёй гісторыі, выраканы паражыць яе наноў. Толькі б не спазніцца з гэтай памяццю — каб гэтыя «забытыя» старонкі зноў не перажываць...

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГРОДНА. Пашпарт па-беларуску «немэтазгодны»



**Гродзенскі публіцыст і праваабаронца Уладзімір Хільмановіч атрымаў адказ на свой зварот у Гродзенскі аблвыканкам. Ён прапаноўваў надрукаваць «пашпарт турыста» на беларускай мове. Нагадаем, што 26 кастрычніка набыў моц дэкрэт аб бязвізавым рэжыме для замежнікаў на тэрыторыі Гродна і Аўгустоўскага канала. Гасцям выдаюцца адмысловыя «пашпарты турыстаў».**

Хільмановіч звяртаўся непасрэдна да начальніка ўпраўлення спорту і турызму Алега Андрэйчыка, але атрымаў адказ за подпісам яго намесніцы Тацяны Лідзяевай. Чыноўніца безапеляцыйна сцвярджае, што «управление спорта и туризма Гродненского облисполкома считает нецелесообразным издание паспорта туриста на белорусском языке».

«Адказ уражвае прасталінейным цынізмам, — каментуе Хільмановіч. — Альбо чыноўнікі ўжо не хаваюць сваёй непавагі і грэбавання дзяржаўнай мовай тытульнай нацыі, альбо не разумеюць элементарнага. Яны тлумачаць, чаму такія пашпарты будуць па-руску, па-польску і па-англійску. Сутнасць жа звароту была ў іншым: у Польшчы і ў Літве пражывае шмат этнічных беларусаў, якім было б прыемна атрымаць пашпарт турыста на роднай мове. І ў тым, што друкаванне пашпарту па-беларуску падвысіла б прэстыж беларускай мовы і цікавасць да яе замежнікаў. Але для іх усё, што па-беларуску, з'яўляецца «нецелесообразным». Тацяна Лідзяева нават не ведае, што паводле заканадаўства абавязана даваць адказ на мове звароту».

**spring96.org**

### МАГІЛЁЎ. Што рабіць з «дармаедамі»?



**Да магілёўскіх праваабаронцаў пачалі масава звяртацца людзі па пытанні «дэкрэту аб дармаедстве».**

Напрыклад, адна жанчына паведаміла, што яе дачка ўжо два гады жыве і афіцыйна працуе ў Санкт-Пецярбургу. Але па месцы прапіскі яна атрымала паперу ад падатковікоў, у якой сказана, што яна павінна прадставіць доказы, што не з'яўляецца сацыяльным утрыманцам. Інакш яна павінна сплаціць падатак. Расійскі працадаўца даваць даведкі не хоча: маўляў, яму няма справы да «разборак у Беларусі», якія патрабуюць дадатковай працы з дакументамі. Яшчэ два чалавекі выказалі абурэнне алагічнасцю падатку.

Апавяшчэнне з патрабаваннем наведаць падатковую інспекцыю для дачы тлумачэнняў, згодна з дэкрэтам «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымланства», атрымаў нават кіраўнік Магілёўскай філіі праваабарончага цэнтру «Вясна» Аляксей Колчын.

Юрыст Барыс Бухель адзначыў, што ў пытанні «падатку на дармаедства» праваабаронцы павінны выступіць агульным фронтам з юрыстамі незалежных прафсаюзаў і аказваць неабходную дапамогу.

**mspring.online**

### ГОМЕЛЬ. Штраф праз «Одноклассники»



**Гомельская журналістка-фрылансер, сябра ГА «БАЖ» Ларыса Шчыракова атрымала паведамленне ў сваім профілі ў сацыяльнай сетцы «Одноклассники» ад судовага выканаўцы Гомельскага раёна Дзмітрыя Калодзіна з прапановай неадкладна сплаціць штрафы. Інакш судовы выканаўца пагражае абмежаваць права Шчыраковай на кіраванне аўтатранспартам і забараніць выезд за мяжу.**

Гэта першы такі зварот да журналісткі. Раней Шчыракова атрымлівала падобнае папярэджанне на фірмовым бланку з пячаткай установы.

Праваабаронца Леанід Судаленка лічыць, што начальства павінна прыглядзецца да Калодзіна як да стараннага і руплівага працаўніка: «Калі б ён быў маім падначаленым, я б даў яму прэмію. Ніякага парушэння працэдуры спагнання штрафу з боку судовага выканаўцы няма. Ён мае права розным чынам спаганяць штрафы. Ён адсочвае, ці ёсць грошы на рахунку чалавека, можа накласці арышт на транспартны сродак, апісаць іншую маёмасць. Цяпер з'явілася магчымасць камунікаваць з вінаватцамі праз сацсеткі. Абразы журналісткі на старонцы ў «Одноклассниках» не было — судовы выканаўца ветліва нагадаў, што трэба разлічыцца з дзяржавай, бо інакш будуць ужытыя рэпрэсіўныя захады».

**Прэс-служба БАЖ**

# Андрэя Бандарэнку зноў пакаралі

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Перыяд спакойнага жыцця ў вязня сумлення Андрэя Бандарэнкі скончыўся. 30 верасня яму абвясцілі вымову адразу за дзве «правіны».**

Напярэдадні здачы прадукцыі (Бандарэнка ў якасці працы ў камеры склейвае канверты. — аўт.) у камеру ўвайшоў старшы інжынер па тылавым забеспячэнні. Да гэтага часу канверты забіралі праз «кармушку» (акенца для падачы ежы). Бандарэнка вельмі здзівіўся такому незапланаванаму з'яўленню і не зрабіў належны даклад. Пасля гэтага ў камеру ўвайшлі кантралёры і сталі правяраць якасць заклейвання канвертаў. Некаторыя з іх апынуліся злепленымі паміж сабой. Іх расцанілі як бракаваныя, а раней прымалі без прэтэнзій.

Бандарэнка не пагадзіўся са спагнаннем і прасіў забяспечыць магчымасць удзелу ў разглядзе прэтэнзій адваката, які павінен быў прыехаць да яго на наступны дзень. Аднак вымова была абвешчана без усялякага разбору.

Бандарэнка лічыць такія дзеянні адміністрацыі правакацыяй. Да канца тэрміну пакарання яму засталося пяць месяцаў (да 31 сакавіка 2017 года). Падобна на тое, што яго не хочуць выпускаць з турмы. Для гэтага ёсць правераны сродак — артыкул 411 КК (Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы).

У такую жорсткасць цяжка паверыць. Але наша турэмная сістэма — не для людзей са слабымі нервамі. Падобна, што яна робіць з людзей цвікі, якія не гнуцца і не выпраўляюцца. Дык для чаго тады патрэбныя «папраўчыя ўстановы», якія нікога не выпраўляюць? Няўжо толькі для таго, каб ізаляваць і выкрасліць чалавека з грамадскага жыцця?

# КДБ пагражае адлічэннем актывісту Руху «За Свабоду»

**Адлічэннем з філіялу БНТУ Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа ў выпадку працягу ўдзелу ў Руху «За Свабоду» пагражаў сябру арганізацыі Вадзіму Бабіну супрацоўнік КДБ. Размова праходзіла падчас заняткаў у кабінеце дырэктара.**

«Гэта ўсё адбылося 25 кастрычніка. У мяне была інфарматыка, мяне выклікалі ў кабінет дырэктара Мікалая Цырэльчука. Там сядзелі загадчыца механіка-тэхнічнага аддзялення Алена Мігура і чалавек, які прадставіўся супрацоўнікам КДБ», — распавёў студэнт трэцяга курсу філіялу БНТУ Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа Вадзім Бабін.

Па яго словах, супрацоўнік КДБ назваў сабе, але неразборліва, і размова пачалася з пытання пра марафон у Кіеве, дзе Вадзім з камандай прадстаўляў Рух «За Свабоду». «Як выступілі, як прабеглі, чаму так хутка? Ці пілі мы, як прыехалі, ці пілі ў дарозе», — прыгадаў пытанні актывіст. Бабін распавёў, што каманда заняла 13-е месца, што ён удзельнічаў, бо прапанаваў Рух "За Свабоду", падабаецца ідэя, ніхто не піў.

Потым супрацоўнік КДБ пачаў запытвацца пра 25 долараў, якія нібыта заплацілі назіральнікам на парламенцкіх выбарах. «Я ведаю, што табе плацілі», — сказаў. «Як што каму плацілі, то толькі за праезд і абед, болей нічога не плацілі», — сказаў я», — адказаў Бабін. Актывіст патлумачыў супрацоўніку спецслужбаў, што яму асабіста было цікава даведацца, як праводзяцца выбары.

«Я спытаў, чаму ён да мяне прыйшоў, бо я ж нічога кепскага не раблю. «Гэта зараз не робіш, можаш потым зрабіць», — пачуў у адказ», — прыгадаў Вадзім.

Супрацоўнік КДБ таксама цікавіўся перспектывы актывіста ў Руху «За Свабоду», распытваў ён, і адкуль грошы ў арганізацыі.

«Табе засталося тут да 24 красавіка вучыцца, да гэтага часу стаў сяброўства ў Руху «За Свабоду» на паўзу і атрымлівай дыплом. Бо ў цябе будуць праблемы», — сказаў супрацоўнік КДБ. «Я так разумею, што мяне адлічаць?» — спытаўся Бабін. «Так», — сказаў супрацоўнік КДБ.

«Калі ў мяне запыталіся, ці буду я нешта рабіць у Руху «За Свабоду», я сказаў: «Так». «Паўтары гучна», — сказалі. «ТАК», — прыгадаў моладзевы актывіст.

Ён назваў гэтую размову ціскам з боку КДБ, звязаным з палітыкай і яго ўдзелам у кампаніі старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча.

«Безумоўна, мы назіраем факт палітычнага ціску і прымусу да адмовы ад удзелу ў палітычным жыцці пад пагрозай адлічэння з навучальнай установы», — пракаментаваў сітуацыю Юрась Губарэвіч. Паводле яго слоў, кіраўніцтва арганізацыі трымае сітуацыю з Вадзімам Бабіным на кантролі і выкарыстае ўсе даступныя рычагі для абароны свайго сябра. «Будзе зварот да адміністрацыі навучальнай установы, якім чынам яны дапускаюць прыход нейкіх людзей і падобных размоў з іх навучэнцамі падчас заняткаў», — падкрэсліў старшыня Руху «За Свабоду».

Ён адзначыў, што з завяршэннем выбарчай кампаніі «ўлады вярнуліся да старой практыкі запалохвання актывістаў, асабліва моладзі, якая ўпершыню далучаецца да актыўнай палітычнай дзейнасці». «Рэпрэсіі і запалохванне — адзінае, на чым можа трымацца беларускі рэжым, які не знаходзіць падтрымкі грамадства», — заключыў Губарэвіч.

**Паводле pyx.by**

# 10 000 подпісаў за бел-чырвона-белы

**За наданне бел-чырвона-беламу сцягу статуса нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці за месяц фізічна падпісалася 10 500 чалавек.**



27 кастрычніка актывісты перадалі ўсе падпісныя аркушы ў Міністэрства культуры. Гэтыя подпісы, па словах Зміцера Дашкевіча, апрацаваныя і правераныя: «Некаторыя з падпісных лістоў давялося адкласці: недзе яны былі няправільна запоўненыя, таму мы вырашылі такія палічыць несапраўднымі».

Таксама ў Міністэрства культуры і Нацыянальную акадэмію навук Беларусі з анлайн-сервіса «Зручны горад» была дасланая электронная петыцыя за бел-чырвона-белы сцяг. Пад электроннай формай звароту падпісаліся 2300 беларусаў.

Аднак што вырашыць накont такой прапановы Мінкульт, прагназаваць складана.

«Тут бессэнсоўна нешта загадваць. Мы проста зрабілі сваю справу, а значыцца ўжо дасягнулі пэўнага выніку», — лічыць Дашкевіч.

**Паводле Беларускага Радыё Рацыя**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Рабіце моўчкі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Будзьце хітрэйшымі — маўчыце». Прыкладна так можна тлумачыць апошнія разважанні і дзеянні беларускай улады.**



На тыдні Аляксандр Лукашэнка прызначыў некаторых кіраўнікоў мясцовай улады, і пры гэтым запатрабаваў спыніць размовы пра рэформы.

«Без навядзення парадку і дысцыпліны мы далёка не рванём. Спыніце ўсялякія размовы з нагоды нейкага рэфармавання, яшчэ чагосьці. Трэба працаваць з тым, што ёсць. А рэфармаванне — гэта ўдасканаленне. Бачыце, нешта не так, — рабіце лепей, рабіце, але нічога не ламайце», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

«У крызіс ніхто нічога не ламае, дый ламаць няма чаго. Ёсць прадпрыемствы — яны павінны працаваць, — казаў Лукашэнка. — Выкіньце з галавы, што сёння трэба ўсё падзяліць, прыватызаваць, і ўсё само сабой пойдзе. Нікуды нічога не пойдзе, калі працаваць не будзем».

Лукашэнка запатрабаваў ад кіраўнікоў раёнаў надаць прыярытэтную ўвагу праблемным прадпрыемствам у сферы сельскай гаспадаркі. «Трэба вельмі сур'ёзна рыхтавацца да наступнага года. Ён будзе асаблівым. Ніхто ні за кім хадзіць і ўгаворваць не будзе. І вам не варта ехаць туды, куды не трэба (я маю на ўвазе на сельгаспрадпрыемствы, у сельскія раёны). Ездзьце туды, дзе дрэнна», — сказаў ён.

З гэтага можна зрабіць некалькі цікавых высноў. Першую зробяць тыя, хто яшчэ памятае часы прэзідэнцкай гонкі 1994 года. Рыторыка Аляксандра Рыгоравіча цалкам нагадвае пазіцыю Вячаслава Францавіча Кебіча тых часоў. Той таксама выступаў за «захаванне таго, што ёсць», а малады палітык Лукашэнка абяцаў «запусціць заводы».

Другое: нам ужо «няма чаго ламаць». Ці трэба разумець гэта так, што ўсё, што маглі, мы ўжо зламалі? Зразумела, трэба працаваць, і рэфармаванне — гэта ўдасканаленне. Але што ўдасканальваць, калі ўсё зламана?

Трэцяе: наступны год будзе асаблівым. Было б зразумела, калі б у 2017-м былі нейкія выбары ці іншыя палітычныя кампаніі. Аднак у гэтым плане — цішыня. Хіба што напрыканцы будучага года пачнуцца мясцовыя выбары. Але гэта ў беларускіх умовах настолькі «прахадная» кампанія, што такой маштабнай увагі не вартая. У чым жа асаблівасць наступнага года? Верагодна, чуткі пра магчымы рэферэндум маюць пад сабой нейкі грунт. Апроч гэтага на розум нічога не прыходзіць. Ці кіраўнік дзяржавы ведае больш, чым кажа.

Але, хутчэй за ўсё, заклік «спыніць размовы пра рэформы» ў сапраўднасці азначае: «Хопіць базарыць, рабіць трэба!» Не размаўляйце пра рэформы, проста рабіце іх. У гэтым сэнсе становяцца зразумелымі і заклікі працаваць, і «ламаць няма чаго», і пра асаблівасць наступнага года. То бок, трэба рэфармавацца, але моўчкі.

Падобна на тое, што наш правадыр узяў на ўзбраенне тактыку свайго былога дарадцы па эканамічных пытаннях, а зараз пасла ў КНР Кірыла Рудага. Той таксама казаў: «Мы не называем гэта рэформамі, але многія мерапрыемствы, якія былі праведзены ў краіне, дэ-факта з'яўляюцца непапулярнымі рэформамі, пра якія шмат гавораць».

Пра такія непапулярныя рэформы сведчыць статыстыка. Напрыклад, працягваецца падзенне заробкаў. Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у параўнанні са жніўнем зарплата ў верасні ўсохла на 17,4 рубля. Альбо на 174000 недэнамінаваных. Падаецца, самае вялікае падзенне за апошнія часы.

Дэ-факта гэта азначае, што заробак сапраўды набліжаецца да залежнасці ад узроўню працы і прадаваемасці нашай прадукцыі. Яе ніхто не набывае — няма і заробку. Скончыліся тыя часы, калі можна было «рабіць на склад», і атрымліваць грошы за вытворчасць нікому не патрэбнай прадукцыі. Тым больш, што ў верасні «на піку» быў газавы канфлікт з Расіяй, у выніку чаго «старэйшы брат» скараціў нам пастаўкі нафты. Няма нафты — няма экспарту — няма грошай.

Зараз гэты канфлікт мы ўрэгулявалі, аднак, высвятляецца, толькі «на паперы». Мінск, які павінен быў разлічыцца з газавымі пазыкамі да 20 кастрычніка, гледзячы па ўсім, гэтага так і не зрабіў. Прынамсі, намеснік міністра фінансаў РФ Сяргей Сторчак 25 кастрычніка казаў Reuters, што Расія перавядзе Беларусі абяцаны перш грант для аплаты газу, «але толькі пасля таго, як яны заплацяць і будуць урэгуляваныя ўсе пытанні па газавай спрэчцы».

Значыць, беларускія ўлады не спяшаюцца. І зразумела, чаму. Мы дамагліся таго, што за газ плацім расійскімі рублямі. А эксперты расійскіх банкаў — БКС, банка Nordea, Рафайзенбанка, Альфа-банка і Прамсувязьбанка, — прагназуюць, што да канца года расійскі рубель абрынецца да 65–69 рублёў за долар. Вось мы і чакаем, каб заплаціць танней.

Праўда, трэба чухаць патыліцу, як нам потым жыць далей. Бо з падзеннем расійскага рубля на нашым асноўным рынку збыту падаражэе беларуская прадукцыя. Яе не будуць купляць яшчэ больш, чым зараз. Так што тут трэба моцна думаць.

І яшчэ адна цікавая навіна прыйшла з ураду. Міліцыянты шляхам доўгіх перамоў і кампрамісаў амаль дамагліся свайго. Ва ўрад накіраваны праект указа, які абмяжоўвае гандаль алкаголем. Дакумент прадугледжвае, што спіртныя напоі не будуць прадавацца з 22:00 да 9:00. А вось адасобленыя віна-гарэлачныя аддзелы з'явяцца не ва ўсіх крамах, як меркавалася раней, а толькі ў тых, плошча якіх перавышае 400 квадратных метраў.

МУС краіны, відавочна, удала скарыстаўся лозунгам «левакоў» 1960-х гадоў: «Будзьце рэалістамі — патрабуйце немагчымага!». Пабачыўшы патрабаванне ўвесці асобныя алкагольныя аддзелы ва ўсіх крамах, найбуйнейшыя рознічныя сеткі ўзвылі. Рэзка супраць выступілі «Постгандаль» і «Еўраопт», кажучы, што ў невялікіх крамах стварыць алкааддзелы проста немагчыма. І ў выніку, падаецца, пагадзіліся на «кампраміс».

Ёсць яшчэ адзін цікавы момант. Усе навокал кажуць: «Апазіцыя слабая, нічога не можа» і гэтак далей. Між тым, менавіта гэтага — абмежавання часу продажу алкаголю і асобных алкааддзелаў у крамах — дамагаліся актывісты незарэгістраванай дасюль «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» ў межах кампаній «За моцную сям'ю» і «Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю». Яны нават сабралі 20 000 подпісаў за гэтыя прапановы, што, напэўна, таксама было адным з козыраў МУС у «гарэлкавай» спрэчцы. І дамагліся ж, каб іх пачулі! Калі ўказ будзе прыняты — гэта будзе перамога не толькі МУС, але і БХД. А вы кажаце, слабая апазіцыя…

**Наш правадыр узяў на ўзбраенне тактыку Кірыла Рудага. Той таксама казаў: «Мы не называем гэта рэформамі, але гэта дэ-факта рэформы»**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Эдуард Пальчыс



**Стваральнік сайта 1863x.com, суд над якім праходзіць за зачыненымі дзвярыма, здолеў перадаць на волю тэкст свайго апошняга слова. Частку яго ў сваім Facebook апублікаваў Павел Севярынец.**

«У сваім апошнім слове я хачу расказаць пра твор Дантэ «Боская камедыя». Сутнасць яго ў тым, што людзі, якія праходзяць усе колы пекла, падыходзяць да апошняй мяжы, і гэтай мяжой з'яўляецца страшная пачвара. Пачвара перамолвае сваімі жорнамі здраднікаў і хлусаў. Усіх, хто абвінавачвае мяне ў тым, што я люблю Беларусь, — я лічу здраднікамі. Усіх, хто лічыць, што я распаўсюджваў парнаграфію, — я лічу хлусам. Я шкадую, што цяпер побач са мной няма маёй жонкі, маёй сям'і, журналістаў, якім я вельмі ўдзячны. Я ўдзячны тым людзям, якія цяпер стаяць на вуліцы, бо чуеце іх голас, і я з імі. Усё, што я магу сказаць — Жыве Беларусь!»

Пальчыс абвінавачваецца ў экстрэмізме і распаўсюдзе парнаграфіі. Ён быў затрыманы ў студзені 2016 года ў Расіі, а ў маі блогера экстрадавалі ў Беларусь. 25 жніўня суд Цэнтральнага раёна Мінска на закрытым пасяджэнні прызнаў 9 артыкулаў, размешчаных на сайце 1863x.com, экстрэмісцкімі. Працэс прайшоў без удзелу Пальчыса.

Міжнародная праваабарончая арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» заклікала вызваліць Пальчыса «неадкладна і без усялякіх умоваў». Праваабаронцы лічаць Пальчыса вязнем сумлення.

## Алена Танкачова



**Праваабаронцы, кіраўніцы Цэнтра прававой трансфармацыі Алене Танкачовай у чарговы раз адмоўлена ў вяртанні ў Беларусь.**

Гэта другая адмова на яе зварот пра магчымасць вяртання ў краіну. Першы раз такое хадайніцтва яна падала ў студзені 2016 года, па заканчэнні года з моманту высылкі. Атрымала адмову і папярэджанне аб крымінальнай адказнасці, калі яна ўсё ж паспрабуе праехаць на тэрыторыю краіны. Праз паўгода яна вырашыла паўтарыць хадайніцтва, але зноў атрымала адмову ў скарачэнні тэрміну забароны на ўезд.

У сваім хадайніцтве на імя міністра ўнутраных спраў Танкачова паказала, што ў Беларусі жыве яе дачка, сама яна мае тут кватэру. Не дапамагло.

Нагадаем, рашэнне аб высылцы беларускай праваабаронцы з расійскім грамадзянствам тэрмінам на тры гады было прынята 5 лістапада 2014 года. Фармальнай падставай для такога рашэння сталі перавышэнні хуткасці аўтамабілем Танкачовай, зафіксаваныя камерамі відэаназірання. З-за дробязнасці правапарушэння шмат хто лічыць яе высылку палітычна матываванай.

Напярэдадні атрымання адказу з МУС Танкачову абралі каардынатарам працоўнай групы Нацыянальнай платформы грамадзянскай супольнасці «Усходняе партнёрства». Гэта азначае, што яна будзе каардынаваць працу грамадскіх арганізацый Беларусі ў сферы правоў чалавека і сачыць за тым, як праходзіць дыялог па правах чалавека паміж Беларуссю і ЕС.

## Віктар Каліна



**«Кароль беларускага шансона» трапіў у непрыемную гісторыю. У Бярозе пасля канцэрту яму прыляцела шклянка ў галаву ад сваіх жа калегаў.**

Каліна кажа, што «гісторыя банальная і простая». «Двое з расійскіх артыстаў, як я падазраю, ужываюць наркотыкі. Яны запыталіся ў мяне: ці можна купіць тут нейкую дозу? Я растлумачыў, што ў нашай краіне гэта злачынства», — кажа спявак.

Каліна даў зразумець калегам: наркаманы з ім ездзіць не будуць. Маўляў, ён не хоча губляць сваіх гледачоў і рэпутацыю. «Адна з артыстак запатрабавала выплаты кампенсацыі за страчаны час і ганарар. Я сказаў, што ўсё рэгулюецца дамовамі, і папрасіў выйсці з нумару», — кажа Каліна. У адказ яму і шпурнулі шклянку ў галаву. У выніку шансанье наклалі шэсць швоў і дыягнаставалі страсенне галаўнога мозгу.

Каліна не называе імя артысткі, хоць усім вядома, што гастраляваў ён з лаўрэатам прэміі «Шансон года» Уладзімірам Асмолавым і выканаўцай эстраднага шансона Евай Амуравай.




Фота Юрыя Дзядзінкіна



# Моладзь: палітызацыя ці апалітычнасць?

Мікалай ДЗЯДОК

**Калі параўнаць вулічныя выступы апазіцыі ў 2006–2010 гадах і ў нашы дні, становіцца відавочна — апазіцыйныя лідары не ў стане мабілізаваць пратэстоўцаў, перш за ўсё моладзь, на свае акцыі. Практыка вулічнага пратэсту ў Беларусі — у заняпадзе. Што гэта — крызіс ідэй, застарэлы страх перад рэпрэсіямі, невер'е ва ўласныя сілы? Ці боязь «расхістаць лодку», каб не выклікаць Майдан і жахлівыя наступствы, аналагічныя ўкраінскім?**

## Бізун без перніка

Прычын масавай дэпалітызацыі моладзі хапае. Паспрабуем іх вызначыць і прааналізаваць.

Ці не галоўнай можна лічыць упартую і старанную працу дзяржаўнага апарату са свядомасцю людзей. БРСМ, МУС, КДБ і БТРК сумеснымі высілкамі ўсё ж дамагліся таго, каб у моладзі знік інтарэс да палітыкі. У навучальных установах скарачаецца вывучэнне гуманітарных дысцыплін, у школьных курсах грамадазнаўства амаль не закранаюцца палітычныя пытанні. Тое ж тычыцца і гісторыі, якая непарыўна звязаная з палітыкай. Сістэма адукацыі завостраная на тое, каб пазбегнуць палітызацыі моладзі і з'яўлення ў яе крытычнага мыслення.

З іншага боку, выдатна працуе бізун. Моладзь разумее, што «лезці ў палітыку» не проста нецікава, але і небяспечна. Прыкладамі гэтага для іх служыць адміністрацыйны ціск у інтэрнатах падчас выбараў, тлумачальная праца педагогаў падчас апазіцыйных акцый. Ды і гісторыямі аб збіцці і зняволенні грамадскіх актывістаў поўныя не толькі апазіцыйныя СМІ.

Калі 10 гадоў таму я вучыўся ў юрыдычным каледжы БДУ, то найменш 4 чалавекі з маёй групы (у якой агулам было каля 25) былі сталымі наведвальнікамі апазіцыйных акцый і культурных мерапрыемстваў — і гэта пры тым, што ўжо тады пасля затрымання, звычайна, адлічвалі з навучальнай установы. Многія мае мінскія сябры аднаго са мной узросту хадзілі на ўсе апазіцыйныя мітынгі, бо іх туды вадзілі бацькі, што стала наведвалі іх з года ў год. Сёння, калі на Чарнобыльскі шлях прыходзіць па 200–300 чалавек, пра гэта казаць не даводзіцца. Канешне, гэта мае суб'ектыўныя назіранні, але яны цалкам карэлююць з лічбамі ўдзельнікаў акцый пратэсту ў той час.

Сёння ўжо вырасла пакаленне, якое не толькі не ўдзельнічае ў грамадскай актыўнасці, але і, верагодна, не мае ніякіх кантактаў з тымі, хто ў ёй удзельнічаў.

Свой унёсак робяць дэмаграфія і міграцыя: моладзі ў Беларусі штогод робіцца менш, старых — больш. Моладзь актыўна з'язджае з краіны за лепшай доляй.

Але ўсё ж галоўнай прычынай няўдзелу моладзі ў масавых акцыях з'яўляецца яе дэпалітызацыя ў выніку мэтанакіраванага ўздзеяння дзяржавы, што ажыццяўляецца праз сістэму адукацыі і дзяржаўныя СМІ. Гэта ўздзеянне ўзмацняецца з кожным годам і з кожным новым пакаленнем моладзі прыносіць свае плады.

Для абсалютнай большасці маладзёнаў перыяд актыўнага ўдзелу ў пратэстным руху прыпадае на ўзрост 16–25 гадоў. Далей сацыяльныя абавязкі (асабліва наяўнасць сям'і і дзяцей) і побыт прымушаюць шматкроць зніжаць актыўнасць ці ўвогуле спыняць яе. Звычайна на змену гэтай катэгорыі прыходзілі новыя людзі — і колькасць пратэстна настроенай моладзі, як і актывістаў увогуле, доўгія гады заставалася прыблізна аднолькавай. Аднак сёння гэтага не назіраецца. Большасць тых, хто некалькі гадоў удзельнічаў у акцыях, сыходзіць, але на змену ім не прыходзяць новыя — гэта можна бачыць, зноў жа, па колькасці людзей на мітынгах.

Актывісты, што хацелі б і маглі нешта мяняць у краіне, аглядваючыся назад, перастаюць верыць ва ўласныя сілы. У 1996-м маладафронтаўцы біліся з АМАПам, у 2006-м беспартыйная моладзь дні і ночы мерзла ў намётавым лагеры, за 22 гады дыктатуры тысячы трапілі пад каток рэпрэсій: адсядзелі на сутках, былі выгнаныя з вучобы ці вымушаныя эміграваць. Але рэальнага выніку барацьбы не бачна — і гэта не можа не дэматываваць новых патэнцыйных барацьбітоў. Беларускае палітычнае жыццё з яго нязменным дэжавю кожную пяцігодку не ўнушае аптымізму і падштурхоўвае моладзь да заканамернай высновы: «Тут няма чаго лавіць».

Такім чынам, пратэстная сфера, і ўвогуле палітыка ў Беларусі, — гэта месца, дзе маладзёну цяжка самарэалізавацца. Пасля шматлікіх расчараванняў ці рэпрэсій маладыя хлопцы і дзяўчаты ўсё часцей накіроўваюць сваю пасіянарнасць у іншым напрамку: здабыванне грошай, стартапы, мастацтва, навуковая і культурная дзейнасць, вандроўкі — усё што заўгодна, толькі не гэтае няспынне біццё галавой аб сцяну...

## «Адсюль трэба валіць»

Не дзіва, што ў такой сітуацыі вялізная колькасць моладзі — асабліва тыя, хто ўжо паспрабаваў і міліцэйскага дручка, і акрэсцінскія нары — выбіраюць міграцыю. Сотні былых актывістаў з'ехалі па праграме Каліноўскага, альбо адвучыўшыся ў ЕГУ, альбо папрасіўшы палітычнага прытулку за мяжой. Знаходзяцца і тыя, хто іх за гэта асуджае.

Падымаюцца на шчыт і адзінкавыя выпадкі ашуканства, калі спрытныя хлопцы ці дзяўчаты выкарыстоўвалі зрабіць пратэстны рух трамплінам у еўрапейскую будучыню (сваю асабістую, вядома, а не Беларусі), і сфатаграфаваўшыся на фоне апазіцыйнага мітынгу, прад'яўлялі фота як доказ свайго ўдзелу ў грамадскім жыцці, каб атрымаць палітычны прытулак у краінах Еўропы. Дарэчы, пастаноўка спажывецкіх памкненняў у цэнтр светапогляду — таксама рыса чалавека, вырашчанага лукашызмам.

Але ці няма зерня ісціны ў словах тых, хто кажа, што сапраўднаму барацьбіту з'язджаць за мяжу не варта, а варта жыць і працягваць змаганне там, дзе ты яго пачаў? Можа, сапраўды, калі б маладзёны не іміграваллі пасля першых сутак на Акрэсціна і, адвучыўшыся ў Польшчы ці ў Літве, вярталіся ў Беларусь, то рэжым бы не вытрымаў атакі такой колькасці адукаваных і дасведчаных змагароў? І так, і не.

З аднаго боку, безумоўна, калі б усе палітычныя актывісты, хто з'ехаў з краіны па палітычных прычынах за 22 гады кіравання Лукашэнкі, нейкім міфічным чынам зноў апынуліся б у Беларусі і занялі тут актыўную грамадзянскую пазіцыю, не вядома б, што было б з гэтым рэжымам. Толькі ў 2010–2011 гадах палітычны прытулак папрасілі 2382 грамадзяніна Беларусі, і гэта не лічачы тых, хто ўладкаваўся самастойна.

**Сітуацыя патавая: грамадзянская супольнасць не можа абараніць маладзёна ад рэпрэсій, але і не можа падтрымаць яго як падпольшчыка — бо сама дэкларуе прыхільнасць легальнаму змаганню**

З іншага боку, трэба выразна разумець — у грамадзянскай супольнасці Беларусі няма здольнасці абараніць чалавека, які трапляе пад усебаковы адміністрацыйны прэс дзяржавы. Рэпрэсіўныя органы да дасканаласці адпрацавалі схему выцяснення чалавека з краіны нават без выкарыстання крымінальнага пераследу. Непажаданага, як воўка на паляванні, абкладваюць з усіх бакоў: выключэнне з ВНУ, звальненне з працы з перспектывай уладкавацца толькі на самую нізкааплатную, цкаванне сацыяльных службаў з пагрозай адабраць дзяцей (выпадак Алесі Садоўскай), няспынная псіхалагічная атака на родных праз званкі і павесткі з міліцыі, рэгулярныя адміністратыўныя арышты за «дробнае хуліганства» (як неаднаразова было з былымі палітвязнямі Аляксандрам Францкевічам і Паўлам Вінаградавым) і цэлы шэраг правакацый большага ці меншага маштабу: ад лістоў з пагрозамі да негалосных вобшукаў у кватэры.

Калі магутная дзяржаўная машына робіць усё, каб зрабіць тваё жыццё невыносным, але ты хочаш працягваць барацьбу, застаецца толькі адзін выхад — перайсці на нелегальнае становішча, як гэта рабілі рэвалюцыянеры мінулага. Але ці здольны сённяшні дэмакратычны рух утрымліваць такіх падпольшчыкаў, і ці патрэбныя яны яму ўвогуле? Дыскурс дэмакратычнай рэвалюцыі ў апазіцыйных колах відавочна заціх, ды і лідары ўсё часцей выказваюцца за эвалюцыйныя перамены.

Сітуацыя патавая: грамадзянская супольнасць не можа абараніць маладзёна ад рэпрэсій, але і не можа падтрымаць яго як падпольшчыка — бо сама дэкларуе прыхільнасць публічнаму і легальнаму змаганню. Што ж у такім выпадку рабіць нашаму ўмоўнаму пасіянарыю, акрамя як шукаць свайму імпэту іншае прымяненне?

## Культурны фронт

Усё гэта, аднак, не азначае, што колькасць беларускай моладзі, што стаіць за перамены, знізілася да некалькіх соцень удзельнікаў акцый, што ладзяць «Малады фронт» і Статкевіч. Разам з трэндам на змяншэнне ўдзельнікаў вулічных акцый у апошнія гады выразна азначыўся трэнд на беларусізацыю моладзевых субкультур і пратэст у культурным асяроддзі.

Павышэнне цікаўнасці да беларускай гісторыі і культуры (што ў нашых умовах само па сабе з'яўляецца пратэстам) можна назваць своеасаблівай рэакцыяй на выцісканне палітыкі з публічнага поля. Калі нельга хадзіць на мітынгі — будзем хадзіць на «Дзень вышыванкі». Калі нельга ўчыніць Майдан — мы хаця б падпяем «Воіны святла» на канцэрце «Brutto». Моладзь удзельнічае ў дабрачынных ці экалагічных акцыях кшталту «Ежа замест бомбаў» ці «Крытычная маса», выразна беларусізуецца асяроддзе футбольных фанатаў.

Эфектыўнасць такога «культурнага змагання» і яго небяспека для ўлады — пытанне дыскусійнае, але ўжо сёння відавочна, што і нават спробы вырасціць альтэрнатыву на субкультурным полі не застаюцца пакінутымі ўладай без увагі. Пра гэта сведчаць хаця б шматлікія крымінальныя справы супраць антыфашыстаў і справа Змітра Паліенкі, што атрымаў 2 гады калоніі з адтэрміноўкай за ўдзел у «Крытычнай масе».

Але гэта, як кажуць, ужо зусім іншая гісторыя...

# Акадэмічныя свабоды: пытанне ў мазгах

Фаіна НАКАНЕЧНАЯ

**На гэтым тыдні маштабна — аж да ўрачыстага малебна ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы — адзначае сваё 95-годдзе галоўная ВНУ краіны — Белдзяржуніверсітэт. Але якая будучыня ў яго ды іншых ВНУ Беларусі, асабліва пасля таго, як наша краіна далучылася да Балонскага працэсу? На жаль, істотнага прагрэсу пакуль няма.**



**Многія рэчы ва ўніверсітэтах гранічна фармалізаваныя. Фіктыўна-адміністрацыйны падыход будзе прымяняцца пры доказе, што Беларусь усё ж прытрымліваецца Балонскіх прынцыпаў**

## Замежная мова як рухавік

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у Беларусі навучаюцца больш за 16 тысяч замежных студэнтаў з 92 дзяржаў. Міжнародным мовай для навучання прызнаная англійская. Тым не менш, праграмы замежных моваў у ВНУ Беларусі скарачаюцца.

У тым жа БДУ англійскую, нямецкую і французскую для няпрофільных спецыяльнасцяў вырашылі скараціць амаль удвая. Што ж рабіць студэнтам, якія хочуць мець зносіны з замежнымі калегамі, падарожнічаць і вучыцца ў Балонскай сістэме?

Выйсце знайшлі цяпер ужо былыя студэнты фізічнага факультэта БДУ. Яны арганізавалі «Student English Club».

«Ідэя пачала зараджацца, калі я і два маіх сябра вырашылі, што нам трэба больш практыкі на замежнай мове. Мы да гэтага доўга вывучалі англійскую мову ў школе, універсітэце, на курсах, але гутарковай практыкі катастрафічна не хапала», — распавёў адзін з заснавальнікаў клуба Ілля Карусейчык.

За год працы клубу ўдалося не толькі правесці дзясяткі заняткаў з выкладчыкамі англійскай, але і запрасіць на адкрытую лекцыю ў БДУ экс-пасла Вялікабрытаніі Бруса Бакнела, правесці конкурс эсэ на тэму Балонскай сістэмы і акадэмічнай свабоды студэнтаў, а таксама адправіцца ў Віленскі дзяржаўны ўніверсітэт, дзе гэтую свабоду ўбачыць на практыцы.

«Важная ідэя, якая ляжыць у аснове клуба — спроба актывізаваць студэнтаў, прымусіць іх перастаць плыць па плыні, узяць уласную адукацыю ў свае рукі. Задумацца над адукацыяй у цэлым, над адукацыйнымі працэсамі ў Беларусі. Інфармаваць студэнтаў, распавядаць ім пра Балонскі працэс, праграмы абмену», — падкрэслівае Карусейчык.

## Самакіраванне дэкаратыўнае

Эксперты ў сферы адукацыі не лічаць «Student English Club» праявай студэнцкай волі, а толькі падкрэсліваюць паказную лаяльнасць ВНУ ў дачыненні да студэнцкіх ініцыятыў. Што да сапраўднага самакіравання, то яны прыгадваюць рух «#студентыпротив» і акцыю «Марш студэнтаў», калі ў 2015 годзе студэнты БДУ пратэставалі супраць увядзення платных пераздач.

«Дазвол на студэнцкія ініцыятывы можа давацца толькі пры адной умове: калі гэта істотна не змяняе палітыку ва ўніверсітэце. Калі студэнты хочуць прымаць рашэнні ў студэнцкім самакіраванні, універсітэт гэта ўсяляк забараняе. Патрэбны нейкі клуб па інтарэсах — калі ласка. Гэта не структура самакіравання. Таму не трэба падмяняць гэтыя рэчы. У аснове структуры самакіравання ляжыць кіраванне. Гэта значыць, магчымасць уключацца ў сістэму прыняцця рашэнняў пра лёс універсітэта. На жаль, нават асобны студэнт цяпер не можа на гэта ўплываць», — распавядае загадчыца кафедры сацыяльнай работы, кіравання і сацыяльнага права РГСУ ў Мінску Святлана Мацкевіч.

Гэтаму ёсць некалькі прычын: у большасці студэнтаў слаба выяўлена цікавасць да акадэмічных свабодаў і магчымасць аб'ядноўвацца, каб вырашаць праблемы навучання. Ці здольныя студэнты сапраўды мяняць адукацыйную палітыку?

«Самі студэнты кажуць аб праблеме артыкулявання сваіх інтарэсаў у ВНУ. Самакіраванне адыгрывае, хутчэй, дэкаратыўную ролю, яго задача — КВЗ і конкурсы прыгажосці (на фоне велізарнай колькасці гендэрных стэрэатыпаў у грамадстве). Структуры самакіравання, калі яны ёсць, не могуць уплываць на адукацыйную палітыку ва ўніверсітэтах. Тыя, хто прымае актыўны ўдзел у самакіраванні, з аднаго боку, праяўляюць актывізм, з другога — гэты актывізм часцяком падобны на канфармізм у негатыўным сэнсе», — адзначае эксперт і аўтар даследавання «Праблемы мадэрнізацыі вышэйшай адукацыі ў Беларусі: сацыяльныя і гуманітарныя навукі» Аляксей Братачкін.

## Erasmus — фандрайзінг беларускіх ВНУ

У БДУ пачала дзейнічаць праграма некрэдытнай мабільнасці «Erasmus плюс». Акадэмічная мабільнасць адбываецца ў рамках двухбаковых пагадненняў з партнёрскімі ўніверсітэтамі. Таксама дзейнічае міжнародная крэдытная мабільнасць, міжурадавыя і міжведамасныя пагадненні, і разнастайныя міжнародныя стыпендыяльныя праграмы.

«Для таго, каб было выдзелена фінансаванне, еўрапейская ВНУ, што зацікаўлена ў супрацоўніцтве з БДУ, падае заяву на фінансаванне гэтага супрацоўніцтва ў сваёй краіне. Калі ВНУ атрымлівае грант — мы пачынаем сумесную працу», — распавядае галоўны спецыяліст па «Erasmus + Individual Mobility», начальнік аддзела міжвузаўскага супрацоўніцтва ўпраўлення міжнародных сувязяў БДУ Людміла Ганчар.

Эксперты ж адзначаюць, што мабільнасць студэнтаў складае толькі частку Балонскага працэсу — абмен і мабільнасць. Падобныя праграмы ў цэлым з'яўляюцца сродкам дадатковага фінансавання беларускіх ВНУ.

«Мабільнасць — гэта сродак, а не мэта. У Беларусі пад «Erasmus» працуюць пэўныя структуры ва ўніверсітэтах з вызначаным фінансаваннем. Там ідзе спецыфічны фандрайзінг. Любы ўніверсітэт зацікаўлены ва ўключэнні ў гэтыя праграмы з пункту гледжання фінансавага складніку. Мабільнасць — гэта ўсяго толькі інструмент для дасягнення вызначаных мэтаў. Хочацца крычаць: «Зразумейце саму мэту, а не захапляйцеся сродкамі», — адзначае Святлана Мацкевіч.

Але нават пабыўшы на стажыроўцы за мяжой і пабачыўшы, як ідуць справы са студэнцкімі свабодамі ў Еўропе, не ўсе студэнты разумеюць, што такое Балонская сістэма.

## Балонская прастора: што насамрэч?

Экс-пасол Вялікабрытаніі Брус Бакнел у мінулым годзе падзяліўся са студэнтамі БДУ бачаннем Балонскай сістэмы, у якой вучацца яго сыны. І распавёў, што думаюць еўрапейцы, калі чуць пра Балонскі працэс.

Першае — гэта акадэмічныя свабоды. Наяўнасць акадэмічнага братэрства і студэнцкай асамблеі. Другое — інстытуцыянальная аўтаномія. Гэта значыць, што кожны ўніверсітэт можа валодаць сваім статутам, наборам правоў і свабод, а таксама вядзе ўласнае развіццё.

У еўрапейскіх універсітэтах дзейнічае правіла: «Вучоба, выкладанне і даследчая дзейнасць». Гэта значыць, кожная з гэтых трох частак прымяняецца да ўсіх удзельнікаў працэсу: як да студэнтаў, так і да выкладчыкаў.

Трэцяе — эфект спаборніцтваў. Паколькі Балонскі працэс уяўляе сабой адкрытае навучанне для людзей з усіх краін, то і спецыялістаў, якія прэтэндуюць на пэўную працу, становіцца больш і больш з кожным годам. «Яшчэ трэба памятаць: вышэйшая адукацыя — гэта не толькі тэарэтычныя веды, але і практыка», — адзначаў Брус Бакнел.

Пра недахоп практыкі беларускіх студэнтаў кажуць і шматлікія эксперты. А практыка на натуральных спецыяльнасцях — матэматыка, фізіка і гэтак далей — адсутнічае з-за немагчымасці арганізаваць новую скарочаную праграму і адсутнасць студэнцкай матывацыі да змены.

«У студэнтаў зараз «спажывецкі» інтарэс. Яны атрымліваюць адукацыйную паслугу, уключаюцца ў сістэму рынкавых адносін. Кіраўніцтва справы — гэта палітыка. Гэта адукацыйная палітыка, а не рынак і грошы», — распавядае Святлана Мацкевіч.

## Містыфікацыя Балонскага працэсу

Яшчэ адна неабходная ўмова выканання акадэмічных свабод і самакіравання студэнтаў адлюстравана ў Дарожнай карце Балонскай сістэмы, якую Беларусь павінна выканаць да 2018 года. Эксперты сышліся ў меркаваннях, што асобныя пункты карты Беларусі давядзецца выканаць.

«Дарожная карта — нядрэнны дакумент, і да 2018 года Беларусь, хутчэй за ўсё, выканае некаторыя пункты (напрыклад, створыць нацыянальную рамку кваліфікацый і пачне выдаваць дадаткі да дыпломаў еўрапейскага ўзору). Пры гэтым многія істотныя пункты — напрыклад, выбары рэктараў, павага да акадэмічных свабодаў, незалежнае студэнцкае самакіраванне — будуць праігнараваныя. У беларускіх умовах і немагчыма ўявіць сабе іх паўнавартасную рэалізацыю», — адзначае эксперт «Ліберальнага клуба» Вадзім Мажэйка.

Іншыя эксперты дадаюць, што вымушаныя саступкі будуць рабіцца ў фармальным варыянце.

«Многія рэчы ва ўніверсітэтах гранічна фармалізаваныя. Гэта і вучоныя саветы, якія не прымаюць рашэнняў. Фіктыўна-адміністрацыйны падыход, хутчэй за ўсё, будзе прымяняцца ў далейшым пры доказе таго, што Беларусь усё ж такі прытрымліваецца Балонскіх прынцыпаў. Але ў такім выпадку задача Балонскага камітэта — «агаляць» гэтую фіктыўнасць, рабіць гэтыя рэчы публічнымі. Не даваць магчымасць моцна загульваць беларускім ВНУ, а прымушаць перыядычна думаць пра стан адукацыі. А не апраўдвацца і не спісваць на Балонскі працэс многія няўдачы былых рэформаў», — робіць выснову Святлана Мацкевіч.

Рэфармаваць сістэму студэнцкага самакіравання радыкальнымі метадамі не атрымаецца. Для гэтага кожнаму асобнаму студэнту, выкладчыку, навуковаму супрацоўніку неабходна шмат часу і цярпення. Перш за ўсё, акрамя вучобы ва ўніверсітэце, трэба яшчэ і вучыцца самому. Інтэлектуальны застой у сістэме адукацыі вырашаецца самімі студэнтамі, якія павінны знайсці адказ на пытанне: «Што такое акадэмічныя свабоды, і што я хачу ад іх атрымаць?»

# Сапраўдны плявок у вечнасць



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Дзяржава і грамадства прайграюць змаганне з алкаголем. Ён занадта глыбока інтэграваны ў паўсядзённае жыццё. Эксперты ацэньваюць сітуацыю вельмі песімістычна.**

### Непераможны змей

Прэс-канферэнцыя «Прафілактыка алкагалізму сярод насельніцтва Беларусі» стала ў пэўным сэнсе знакавай. Два службоўцы — Іван Канаразаў, галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя, і Сяргей Красуцкі, намначальніка ўпраўлення прафілактыкі ГУГП Міліцыі грамадскай бяспекі МУС — фактычна прызналі, што іх ведамствы, нават працуючы сумесна, не могуць пераламіць сітуацыю з хуткай алкагалізацыяй беларусаў. Вядома, яны будуць спрабаваць нешта рабіць. Медыкі — развіваць сістэму рэабілітацыйных цэнтраў і падтрымліваць эфектыўны рух «Ананімныя алкаголікі». Міліцыянты — ціснуць на ўлады, каб тыя абмяжоўвалі продаж алкаголю. Але стратэгічных змен чакаць не варта.

Паводле экспертных ацэнак, каля 1 мільёна чалавек у Беларусі злоўжываюць алкагольнымі напоямі. 263 тысячы беларусаў знаходзяцца на ўліку ў наркалагічных дыспансерах, з іх — 55 950 жанчын і 15 700 непаўналетніх. Гэта амаль насельніцтва сярэдняга гораду.

Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ААН (СААЗ), у Беларусі на душу насельніцтва, уключаючы немаўлят і старых, прыходзіцца 15 літраў чыстага алкаголю ў год — гэта дадзеныя 2014-га. Пры гэтым, паводле СААЗ, паказчык звыш пяці літраў алкаголю лічыцца пагрозай для нацыі. Летась нават заяўлялася, што па спажыванні алкаголю Беларусь выйшла на першае месца ў свеце. Зрэшты, беларускія ўлады спрабуюць аспрэчыць дадзеныя СААЗ. Як заяўляе віцэ-прэм'ер Наталля Качанова, у 2015 годзе ў краіне прадалі 10,63 літра абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва (у 2010 годзе гэты паказчык склаў 12,22 літра).

«Сітуацыя катастрафічная. Дастаткова ў любым беларускім горадзе ў другой палове дня выйсці на вуліцу і проста прайсціся. Цвярозага чалавека сустрэць цяжка, асноўнае баўленне часу нашых людзей — гэта ўжыванне псіхаактыўных рэчываў. Іншых людзей неяк нават і не відаць. Прынамсі, у мяне такое ўражанне», — кажа святар Аляксандр Папоў, прадстаўнік Навагрудскай епархіі па процідзеянні алкагалізму і наркаманіі.

Праблема ў тым, што дзяржаве не выгадна, каб людзі перасталі піць. І хаця такое ўжыванне алкаголю моцна б'е па эканоміцы краіны, найперш з-за паніжэння прадукцыйнасці працы, росту злачыннасці і сацыяльнай нядолі, спароджаных алкаголем захворванняў, ёсць і важная процівага — паступленні ў бюджэт. Негатыўныя наступствы — яны адкладзеныя ў часе, а вось грошы ў бюджэт традыцыйна патрэбныя ўжо сёння.



Можна прыгадаць, як паўтара гады таму ў Мінску продаж спіртнога ў крамах быў забаронены з 22.00 да 9.00. Гэтае абмежаванне пратрымалася ўсяго некалькі месяцаў. Міліцыя цешылася падзенню ўзроўню вулічнай злачыннасці, але гарадскія ўлады крычалі, што ім няма чым напаўняць бюджэт. І інтарэсы бюджэту перамаглі — абмежаванні былі адмененыя. Зараз зноў вырашылі да гэтага вярнуцца. Цікава, ці надоўга?

Сёння мінскія рытэйлеры скардзяцца на нізкую (каля 1,5%) рэнтабельнасць свайго бізнесу. І ў штыкі ўспрымаюць спробы грамадства і дзяржавы абмяжаваць продаж алкагольных вырабаў — аднаго з самых прыбытковых для гандлю тавараў.

Але справа не толькі ў тым, што дзяржава добра зарабляе, кантралюючы вытворчасць, увоз і продаж алкаголю. Вядома, што нецвярозымі людзьмі працей кіраваць. Абавязковы атрыбут кожных беларускіх выбараў — буфет, у якім прысутнічае танная гарэлка на разліў. Чалавек, які не п'е, думае, забяспечаны і самадастатковы — заўсёды крытычна ставіцца да дзеючай улады. А той, хто п'е, залежыць ад сваёй зарплаты на немадэрнізаваным заводзе, не ўяўляе сабе іншага жыцця, — заўсёды зробіць, што трэба.

### Пра што не кажуць

Як правіла, і дзяржаўныя, і грамадскія барацьбіты з алкагалізмам і наркаманіяй у сваіх выступах старанна абыходзяць адзін момант: гэтыя хімічныя залежнасці — невылечныя.

«У наркалогіі наогул няма паняцця «вылячэнне» ад залежнасці — ад алкаголю або наркотыкаў, усё роўна. Ёсць паняцце «ўстойлівая рэмісія». Гэта калі чалавек устрымліваецца ад ужывання псіхатропнага рэчыва тры гады і больш, — тлумачыць Рыгор Небажэнка, галоўны ўрач-нарколаг Гродзенскай вобласці. — Але гэта не значыць, што ён здаровы, гэта значыць, што ён выконвае прад'яўленыя да яго патрабаванні — у прыватнасці, наведвае нарколага. І тады яго здымаюць з уліку ў наркадыспансеры. Але нарколагі ведаюць, што гэтая хвароба невылечная. Таму яны аперуюць не паняццем «вылячэнне», а паняццем «зняцце з уліку».

Пры гэтым толькі 8 працэнтаў тых, хто злоўжываў алкаголем або ўжываў наркотыкі, сапраўды кідаюць гэта на доўгі тэрмін — пяць гадоў і больш. У тых, хто прайшоў праз рэабілітацыйныя цэнтры (іх у Беларусі мала), гэты працэнт вышэйшы, але не нашмат.

«Сітуацыя з ужываннем алкаголю сумная. З наркотыкамі — так, у нас лепей, чым у суседніх рэгіёнах, але і ў Беларусі гэта вялікая праблема. А ўзровень алкагалізацыі — ён яшчэ і маладзее, асабліва на тле паўсюднага продажу спіртнога. У развітых краінах такога няма. Ёсць выразная рэкамендацыя СААЗ: калі мы жадаем перадолець алкагалізацыю насельніцтва, продаж спіртнога павінен быць строга рэгламентаваны, абмежаваны дзяржавай, — распавёў НЧ Анатоль Фінскі, урач-псіхатэрапеўт вышэйшай катэгорыі, які працуе з залежнымі людзьмі. — Цяперашняя сітуацыя — гэта плявок у вечнасць, у наступныя пакаленні. Калі нічога не зменіцца, то ўжо праз сто гадоў на гэтай тэрыторыі будуць жыць іншыя людзі — не беларусы».

У 2016 годзе гэтая тэма ўздымалася неадназова. Некалькі семінараў па барацьбе з алкагалізмам і наркаманіяй прайшлі ў кляштары ў Жыровічах — праваслаўная царква імкнецца нарасціць свой уплыў, выкарыстоўваючы вострую для грамадства тэму. Таксама ў жніўні ў Слоніме адбылося выязное пасяджэнне Міжведамаснага савета пры Савеце міністраў па фармаванні здаровага ладу жыцця, папярэджанні і прафілактыцы п'янства, алкагалізму і наркаманіі. Яго вяла віцэ-прэм'ер Наталля Качанава. Яна, як высветлілася, бачыць рашэнне праблемы ў стварэнні цэнтраў рэабілітацыі нарка- і алказалежных. Сёння яны ёсць у кожным абласным цэнтры. У планах — стварэнне падобных цэнтраў у гарадах з насельніцтвам больш за 100 тысяч чалавек.

«У медыцынскім плане дапамога пры алкагольных і наркатычных атручваннях у нас пастаўленая нядрэнна. Чалавека кропельніцамі выводзяць з цяжкага стану, ратуюць яму жыццё. Але з рэабілітацыяй алка- і нарказалежных — бяда. У Мінску ёсць РНПЦ псіхічнага здароўя, гарадскі наркадыспансер з аддзяленнем, якое займаецца рэабілітацыяй, ёсць яшчэ нешта ў Гродна... І ўсё. Астатнія рэабілітацыйныя цэнтры — альбо прыватныя, камерцыйныя, альбо рэлігійныя. І гэта — кропля ў моры, — сведчыць Анатоль Фінскі. — Дзяржава бярэ абавязак аказваць неадкладную дапамогу, а вось на паўнавартасную рэабілітацыю грошай няма. На дзяржаўным узроўні пераважае ўспрыманне, што алкаголік, наркаман, — гэта адкіды грамадства. Пры тым адзін алкаголік або наркаман стварае праблемы як мінімум пяці людзям навокал. Але сёння добрай, мэтанакіраванай праграмы рэабілітацыі ў Беларусі не існуе. Яна ёсць для хворых на інсульт, хворых з кардыялогіяй, з траўматалогіяй. Але ў плане наркалогіі такой праграмы няма. Ёсць эпізадычныя спробы нешта зрабіць, але няма сістэмы».

### Час сурагатаў

Яшчэ адна рэч, пра якую не любяць казаць афіцыйныя асобы, — хуткае распаўсюджванне ў Беларусі алкагольных сурагатаў. У суседняй Расіі ўлады перыядычна падвышаюць мінімальны рознічны кошт на гарэлку і іншыя алкагольныя напоі — апошняе такое падаражанне было не так даўно. Але ў Беларусі падобнае сэнсу не мае — айчынныя алкаголікі даўно знайшлі замену бутэльцы з крамы.

Я, напрыклад, жыву недалёка ад Трактарнага заводу, у вельмі «пралетарскім» раёне, і назіраю змены ў дынаміцы. Прыкладна да 2014 года кампаніі ў дварах аддавалі перавагу гарэлцы, хаця і пладова-ягаднае карысталася павагай. З 2015-га бутэлькі з-пад гарэлкі сустракаюцца ўжо рэдка, у асноўным валяюцца з-пад чарнілаў. Але пры гэтым сметнікі ў скверыках запоўненыя пустымі ўпакоўкамі з-пад аптэчнага асартыменту — настойкі глогу, «Ламівіту» і бальзаму «Масковія».

Эканоміка простая: бутэлечка «Ламівіту» (100 мл) утрымлівае 95% спірту і каштуе каля 14 тысяч рублёў. У той час як бутэлька самай таннай гарэлкі ў краме — ад 65 тысяч рублёў. У выніку аптэка выйграе спаборніцтва з крамай.

А прадаўцы гастраномаў у гутарках прызнаюць тое, што пакуль адмаўляе афіцыйная статыстыка: хутка растуць продажы цукру і дрожджаў. Беларусы ўспамінаюць, як выраблялі самагонку.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (122)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# Высокае неба ідэала

## Анатолю Вярцінскаму хутка — 85!

**У той час, як многія яго равеснікі і маладзейшыя спрытнякі рваліся з толькі што спечанымі, а то і недапечанымі вершыкамі на старонкі друку, Анатоль Вярцінскі не спяшаўся паказвацца са сваімі творамі на чытацкія вочы.**

Было яму ўжо за трыццаць, калі ён пусціў у людзі свой першы паэтычны зборнік — «Песню пра хлеб». Зборнік невялічкі, але ўсе ўбачылі, што ў беларускую літаратуру прыйшоў паэт з Божай ласкі.

*Кружыцца ў скверы кляновае лісце,*
*Як быццам шукае яно сабе выйсце...*

Такімі простымі словамі пачынае А. Вярцінскі сваю паэму, якая дала назву ўсяму зборніку. Гэтае ўбачанае ў горадзе пазалочанае восенню кляновае лісце адразу павяло паэта ў свет яго маленства, у родную вёску на Лепельшчыне, дзе здавён у сялянскай печы хлеб выпякаўся не ў адмысловых формах, а проста на лапушных кляновых лістах, збіраць якія было прыемным абавязкам дзяцей...

Услед за першай кніжкай пайшлі ў паэта адна за адной новыя: «Тры цішыні», «Чалавечы знак», «З'яўленне», «Час першых зорак», «Ветрана», «Святло зямное», «Высокае неба ідэала»... Распісаўся А. Вярцінскі. Распісаўся, бо не мог не пісаць: вельмі ж блізка да сэрца прымаў ён усё, што рабілася ў краіне — спярша ў «Краіне Саветаў», а потым у «незалежнай» Беларусі.

Як сапраўдны рыцар, з адкрытым забралам ішоў ён у бой за сваю Бацькаўшчыну, за яе праўдзівую, а не паказную волю, за праўду і справядлівасць. «Поезд справядлівасці» — назваў ён і адзін з вершаў, прысвечаны гонару нацыі Васілю Быкаву, на якога абрынулася была за праўду ўся «каралеўская раць» савецкіх ідэалагічных цэрбераў. Паэта вельмі непакоіла, што надта марудна ідзе гэты поезд. Ды не ідзе — «паўзе чарапахаю», увесь час спазняючыся «то на паўмінуты, то на паўстагоддзе»:

*Я стаю на станцыі, я білет трымаю.*
*Семафор зялёны насцеж адкрываю.*
*Я з тых пасажыраў, хто ў асаблівасці*
*чакае той поезд,*
*поезд справядлівасці.*
*Хто ім проста трызніць,*
*для каго ён — шчасце,*
*Хто сябе гатовы*
*шпалаю пакласці*
*пад поезд жаданы —*
*абы толькі йшоў ён,*
*абы явай быў ён...*

Вершы такога грамадскага гучання пераважаюць у кнігах А. Вярцінскага. Адметная іх асаблівасць: каб выказацца пра нейкую падзею ў сваёй краіне, паэт часта ідзе шукаць аналогію ў сусветнай гісторыі.



Фота В. Дубоўскага

Многія помняць, як закаранелыя крамлёўскія артадоксы спіхнулі з высокага седала непрадказальнага «Мікіту-кукурузніка» і ўзнеслі на трон новага Ільіча, вельмі адыёзную асобу, паклаўшы гэтым канец адноснай «хрушчоўскай адлізе». Прама выказацца ў падцэнзурным друку пра гэты «дворцовый переворот» не было магчымасці. Але каб адгукнуцца на яго, А. Вярцінскі бярэ аналагічны прыклад з гісторыі Францыі, калі Вялікая французская рэвалюцыя, якая страсянула троны многіх еўрапейскіх краін, закончылася тым, што да ўлады зноў прыйшлі Бурбоны — старая каралеўская дынастыя. «Бурбоны вяртаюцца ў Парыж» — так назваў беларускі паэт свой верш. Чытач добра разумеў, пра якіх «Бурбонаў» тут ішла гаворка...

Пра ачмураны «просты люд», які дапамагаў уладам бэсціць самаахвярных змагароў за яго ж правы ці ў лепшым выпадку глядзець праз пальцы на тое, як распраўляюцца з імі, і верш Анатоля Вярцінскага пра Спартака, пра тое, як людзі спакойненька спалі, калі яго распіналі на крыжы.

*Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох!*
*Ці не такі ваш лёс быў у фінале?*
*Як нехта моцна спаў, вас распіналі,*
*вы ціха на крыжы сваім канаді,*
*і білася жанчына каля ног.*

«Уцёкі» ў гісторыю давалі А. Вярцінскаму мажлівасць выказваць свой пратэст супраць гвалту і несправядлівасці і ў вершах «Хунвэйбіны», «Размова з Ду Фу», «Каментарый да Карана», «Варыяцыі на тэму «Гефэст — друг Праметэя»». Гэта была своеасаблівая «эзопава мова» А. Вярцінскага.

У новым часе, калі была адменена цэнзура, для пісьменнікаў адкрылася магчымасць гаварыць пра ўсё адкрыта, без прыхоўвання сваіх думак «у падтэкст». Як цяпер гаворыць А. Вярцінскі ў сваіх творах, паказвае яго новая паэтычная кніга «Жыцьмем», выдадзеная ў 2012 годзе ў серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» (выдавецтва «Кнігазбор»).

Не мог прайсці міма ўвагі А. Вярцінскага выхад, мусіць, самай балючай у нашай літаратуры кнігі ў серыі «Беларускі кнігазбор» — важкі том твораў загубленых бальшавіцкімі ўладамі беларускіх пісьменнікаў «Расстраляная літаратура». На гэтую падзею А. Вярцінскі адгукнуўся вершам «Замест рэцэнзіі» з такім прысвячэннем: «Кастусю Цвірку — ініцыятару выдання, аднаму з укладальнікаў і рэдактару кнігі «Расстраляная літаратура»:

*...Не, браце, гэта не кніга...*
*Ты толькі яе крані:*
*На вокладцы цёмна-барвовай*
*Адбітак застылай крыві.*

Вельмі прыцягальная ў А. Вярцінскага і лірыка. Ці пісаў яшчэ хто пра каханне гэтак во ярка, з такой душэўнай аддачай:

*Было так радасна і хораша!*
*Ты, як агонь, ахапляла горача.*
*Было так дзіўна і цікава!*
*Ты, як вада, мяне абцякала.*
*Ты, нібы вецер, мяне абвявала.*
*Ты, нібы вецце, мяне абвівала.*
*Ты, нібы лісце, шаптала нешта.*
*Ты, як зямля, стагнала грэшна.*
*Потым гучала музыка ціхая:*
*тайну вялікую спасціг я...*

А. Вярцінскі ў «эпапеі кахання» шчасліва знаходзіць такі момант, які яркім пражэктарам высвечвае ўсю душу «лірычнага героя». Гэтакі момант у вершы «Жаночыя рукі» — звычайнае рассціланне пасцелі каханай жанчынай.

*Сведчылі месяц, ноч і я:*
*Сцелюць пасцель рукі жаночыя...*
*Узлятаюць з падушкамі белымі,*
*Белымі птушкамі снуюць...*

Дарэчы прыгадваецца яму тут і даўно запомненая простая песенька:

*Я пасцель сцялю,*
*Я пасцель сцялю,*
*Падзялю яе*
*З тым, каго люблю...*

Пры гэтым рассціланні пасцелі звычайная працівна каханаму «лісцем зашапоча», яго хвалюе і робіцца значнай любая драбніца, якая ў іншым выпадку і не заўважалася б. «Лірычны герой» цвярозай галавою разумее, што разаслаць пасцель «няма нічога працей», што гэта «справа звычайная, не цуд», але ўсе эпітэты верша, усе словы, інтанацыя кажуць зусім адваротнае — цуд!

У другім вершы («Элегія кахання») А. Вярцінскі згадаў момант чакання заканым прыходу на сустрэчу яго любай. Ён даўно прыйшоў, даўно чакае, а «яна ўсё не ідзе, яна ўсё спазняецца...». Чаго толькі не перадумае тут закаханы хлопец, што толькі яму не прымроіцца!.. Ён чакае і не ведае, «колькі хвілін прайшло, колькі гадзін, колькі дзён, колькі год». Яму ўжо на плечы «падае снег, падае нейкі пух, падае пыл, лісце і зоркі», падае на скроні сівізна, «а яе ўсё няма...».

А колькі самага шчырага пачуцця ў вершах «Мора, сонца, я і наша каханне», «Пайшло яно — незваротнае...», «Эдзіт Піаф хоча любві», «Самы светлы сон», «Мы жывём, каб вяртацца», «Як дружна мы вострай свой абжывалі», «Як мы жылі, як любілі»!

Блізкія мне і паэмы А. Вярцінскага, яны вельмі сугучныя маім думам і настроям. У бальшыні з іх аўтар адштурхоўваецца ад нейкага жыццёвага факта і праз яго выказвае ўсё, што на душы. Ён нечым важным забаўляе чытача і вядзе за сабой, не адпускаючы. Такія — «Начны бераг», «Даруйце!», «Заазер'е», «Дажынкі»...

У А. Вярцінскага мне цікава чытаць усё. Апроч вершаў і паэм, сваё важкае слова сказаў ён і ў вельмі адметных драматычных творах, а таксама ў баявой публіцыстыцы, у грунтоўных літаратурна-крытычных артыкулах.

Са студэнцкіх гадоў лучаць мяне з А. Вярцінскім прыяцельскія (ад слова прыязь) стасункі. З ім добра параіцца па любых творчых пытаннях, у тым ліку па выданні тамоў «Беларускага кнігазбору». Словы яго заўсёды важкае, выверанае жыццём, па-праўдзе мудрае.

Яго асаблівасць — разважлівасць, немітуслівасць. Павольны ў рухах, ураўнаважаны, спакойны — такі ён у жыцці. Такі і ў творчасці. Ён «не скача галопам па радках», як бальшыня паэтаў, ніколі не спяшаецца. Паставіць у радок нейкае ключавое слова — і тут жа спыняецца на ім, аглядвае з усіх бакоў, можа, нават абхуквае, каб выявіць яго глыбінны сэнс, і толькі тады ідзе далей, моцна трымаючы, не адпускаючы ад сябе чытача. І яшчэ такое ў мяне назіранне. Ідучы, Анатоль Ільіч павольна, трохі раскачваючыся, ступае па зямлі. Гэтакі ж запаволены, разняволены і рытм яго вершаў. Вершаў, якімі ён нязменна кліча чытача да «высокага неба ідэала».

**Кастусь Цвірка**

# Школа маладога пісьменніка адкрыла пяты навучальны год

**Школа маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў, адзначае сваё чатырохгоддзе. У кастрычніку 2012 года прайшлі першыя заняткі на аддзяленнях «Прозы» і «Паэзіі».**

Школа маладога пісьменніка

За гэтыя чатыры гады Школа змянялася і рэфармавалася, зрабіўшыся ўнікальнай нефармальнай навучальнай установай у Беларусі.

1 кастрычніка 2016 года ў Школе маладога пісьменніка пачаліся заняткі з новым курсам. 20 маладых аўтараў і аўтарак з Мінска, Гомеля, Віцебска сабраліся разам, каб чытаць, пісаць, думаць і камунікаваць. Ужо традыцыйна тэмай заняткаў быў сэнс творчасці.

Ганна Бутырчык, Людміла Рублеўская і Наталля Паваляева абмяркоўвалі са студэнтамі тыя прынцыпы, якімі кіруюцца падчас стварэння мастацкай прозы не толькі беларускія і замежныя пісьменнікі ды пісьменніцы, але і яны самі. У канцы практычна-лекцыйных заняткаў студэнты атрымалі першыя пісьмовыя хатнія заданні.

**Прэс-служба СБП**

## «Снежны чалавек у Мінску»

**Журы на чале з аўтаркай кнігі, шведскай пісьменніцай Эвай Суса, выбрала сярод трынаццаці канкурсантаў мастачку, якая будзе афармляць яе казку «Снежны чалавек у Мінску». Віншуем ілюстратарку Кацярыну Дубовік!**

Выхад кнігі ў серыі «Каляровы ровар» і яе прэзентацыі запланаваныя на другую палову лістапада 2016 года, калі Эва Суса наведае нашую краіну і разам з Кацярынай Дубовік возьме ўдзел у мерапрыемствах, арганізаваных Саюзам беларускіх пісьменнікаў пры ўдзеле Амбасады Каралеўства Швецыя ў Рэспубліцы Беларусь. На імпрэзу будуць запрошаныя ўсе мастакі, якія падавалі заяўкі на конкурс.

Нагадаем, што прыгоды Снежнага чалавека ў Мінску найперш пабачаць свет менавіта ў беларускім перакладзе, здзейсненым Дзмітрыем Плаксам. Потым кніга папулярнай шведскай аўтаркі будзе рыхтавацца да выдання ў Швецыі, а таксама, магчыма, у перастварэнні на іншыя еўрапейскія мовы.



# Ступаючы ў ягоныя сляды: 85-годдзе з дня нараджэння Ніла Гілевіча

**4 кастрычніка ў мінскім Літаратурным музеі Максіма Багдановіча не тое, што яблыку ўпасці, а не было куды ўставіць іголку, нібыта паміж цаглінамі ў пірамідзе Хеопса.**

Некалькі сотняў чалавек шчыльна сядзелі і сталі ў маленькай залі, па-за залай, у праходах і ў калідорах. Часам па шэрагах праходзіла глухое нараканне, што «вось ужо й няма дзе сабрацца»...

Гледачы прыйшлі ўшанаваць памяць народнага паэта Беларусі Ніла Сымонавіча Гілевіча, які сёлета адышоў у лепшы свет, а пры жыцці аб'ядноўваў без перабольшання тысячы чалавек, што да апошніх дзён звярталіся да паэта па дапамогу і мудрую параду.

Першым выступіў сябра Гілевіча, аднакурснік і аднагодак, супольнік па філалагічным пакаленні, паэт Анатоль Вярцінскі. Ён прадэманстраваў старыя фотаздымкі Гілевіча, яшчэ студэнцкіх часоў, рукапісы ананімных бурлескных паэм, напісаных у студэнцкім інтэрнаце ў 1950-я гады. Зразумела, было і шкадаванне, якое не раз яшчэ будзе ўзнікаць у прамовах — што няма Ніла Сымонавіча сярод жывых і не дажыў ён да свайго 85-годдзя. Аднак, як падкрэсліў Анатоль Вярцінскі, працягваюць выходзіць кнігі, выйшаў новы том збора твораў, падрыхтаваны ўжо сынам паэта, Сяргеем Нілавічам.

Барыс Пятровіч успомніў у сваім выступе, якім актыўным і дзейсным быў Ніл Гілевіч да канца сваіх дзён: «У нас была добрая традыцыя хаця б раз на месяц заходзіць да Ніла Сымонавіча, расказваць пра Саюз пісьменнікаў, прэзентаваць новыя выданні. Ён вельмі цікавіўся справамі Саюза, ведаў усё, што адбывалася. Вакол яго заўжды былі свежыя кнігі, газеты, побач, каля канапы, стаяла радыё... Успамінаюцца і нашы сумесныя паездкі на сустрэчы з чытачамі. Аднойчы мы выехалі ў Гомель выступаць ва ўніверсітэт, але ў дарозе нам патэлефанавалі і сказалі, што сустрэча адмяняецца. З паўдарогі вырашылі не вяртацца: пад універсітэцкімі каштанамі, на вуліцы, адбылася гэтая сустрэча... Цяпер нам выконваць яго запаветы, якія ён пакінуў у вершах і публіцыстыцы. Доўга нам яшчэ да Беларусі, але мы пройдзем гэты шлях».

Выдатным апавядальнікам выявіў сябе брат Ніла Гілевіча, вядомы літаратар Мікола Гіль, які дзесяцігоддзі свайго жыцця аддаў працы ў журналістыцы, а менавіта — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Расповеды Міколы Гіля, якія былі адчувальна толькі фрагментамі магчымых шырокіх успамінаў, зачаравалі публіку: «Я памятаю адзін дзень 1956 года, калі мы ішлі са сваёй Слабады зімой пешшу ў Мінск. Ён — паперадзе, затуляючы мяне сваёй спіной, я за ім, ступаючы ў яго сляды. Па вяртанні ён моцна захварэў, а я не. Цяпер яго спіна мяне не затуляе. Сумоўе з ім стала для мяне найлепшымі лекамі ў апошнія гады. Бачыў я, што ён траціць сілы, але неяк не думалася пра горшае. Смерць заўсёды прыходзіць неспадзявана. Цяпер жа востра адчуваеш пустату вакол сябе».

Паміж выступамі сваякоў, сяброў і калег Ніла Гілевіча вядоўцы з Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры паказалі ўрыўкі з дакументальнага фільма пра народнага паэта. Гучала музыка: Таццяна Грыневіч-Матафонава праспявала некалькі песняў на вершы Ніла Гілевіча і падаравала ягонаму сыну, Сяргею Нілавічу, дыск «Галасы паэтаў», куды ўвайшлі і запісы аўтарскага чытання вершаў.

Пра навукоўца-Гілевіча распавёў прафесар БДУ, тэарэтык літаратуры Вячаслаў Рагойша: «Талент без адукацыі не зусім варты таго, на што разлічвае Бог. Дзякуючы таму, што Ніл Сымонавіч сустрэўся з літаратуразнаўствам, з тэорыяй літаратуры — ён стаў самым культурным паэтам Беларусі канца XX стагоддзя. Ён дбаў пра мастацтва паэзіі, развіваў яго... Пакуль што, на жаль, недаацэньваецца яго педагагічная дзейнасць. Некалі вялікія людзі казалі, што не толькі свабода вядзе да развіцця культуры, але і развіццё культуры вядзе да свабоды. Сваім выкладаннем Ніл Гілевіч дбаў і пра свабоду, і пра будучую незалежнасць».

Шмат хто хацеў узяць слова і прыгадаць Ніла Сымонавіча. Акадэмік Радзім Гарэцкі распавёў пра сваю працу з Нілам Гілевічам у часы паўставання Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Васіль Зуёнак — гісторыю, як яны разам чыталі вершы са святой кафедры ў Чырвоным касцёле імя святых Сымона і Алены.

«Шкада, канечне, што над музеем Багдановіча няма амбона, — сказаў Міхась Скобла. — Тады мы маглі б яшчэ вышэй прамаўляць свае словы да Гілевіча...».

Напрыканцы вечарыны Сяргей Нілавіч Гілевіч падзякаваў усім гледачам за тое, што змаглі знайсці час, каб ушанаваць памяць паэта. Кропку паставіў народны хор імя Рашчынскага, які праспяваў песні на вершы Ніла Гілевіча. Скончылася імпрэза калектыўным спяваннем а-капэла галоўнага хіта ансамбля «Сябры» «А я лягу-прылягу». І доўга яшчэ ўдзельнікі і гледачы не маглі развітацца — наракаючы, што юбілей народнага паэта не можа быць праведзены ў больш прасторнай залі, на іншым узроўні, і выказваючы спадзяванне, каб хаця ў 90-годдзе паэта ўсім ахвотным патрапіць на вечарыну хапіла месца. Як яно будзе — убачым праз пяць гадоў...

# 26 000 тамоў: новыя кнігі выдавецтва «Папуры»

**Не паспелі яшчэ ахаладзіцца сцены Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ад дыхання прыхільнікаў творчасці Ніла Гілевіча, як на наступны дзень у той жа зале зноў было шмат народу.**

Выдаўцы, літаратары і неабыякавыя людзі сабраліся адсвяткаваць выхад адразу трынаццаці новых кніг серыі «Мая беларуская кніга» выдавецтва «Папуры». Як сказаў вядоўца імпрэзы Уладзімір Сіўчыкаў, «двадцаць шэсць тысяч кніг на беларускай мове пабачылі свет — не кожны дзень здараецца такая падзея».

Публіка, якая запоўніла музей, выразна падзялялася на акадэмічна-выдавецкую і тых, хто «чакаў Лявона» — у афішы быў дэклараваны выступ вядомага музыкі і паэта Лявона Вольскага.

Кнігі беларускіх класікаў прадстаўлялі сябры рэдакцыйнай калегіі серыі «Мая беларуская кніга». У кожнага знаходзілася пэўная гісторыя, прысвечаная кнізе. Так, Пятро Васючэнка, прадстаўляючы новыя выданні Уладзіміра Караткевіча, прыгадаў пацешныя выказванні студэнтаў на іспытах па беларускай літаратуры, а да таго і свае ўласныя адчуванні, калі ў 1970-я ў школе выкладалі ледзь не выключна «Гісторыю СССР», а гісторыя БССР дарэвалюцыйнага перыяду укладалася ў дваццаць старонак. Караткевіч жа вярнуў беларусам гісторыю, «раманты-заваў і белетрызаваў яе».

Жанна Некрашэвіч-Кароткая, працягваючы студэнцкую тэму, успомніла, што паводле адной з версій, «Кірыла Тураўскі даваў абед, зачыніўшыся ў стаўбе». Гісторыя ейнага перакладу аповесці Вайніслава Савіч-Заблоцкага «Полацкая шляхта» пачалася ў Варшаве, калі на адным з мікрафільмаў, побач з патрэбным артыкулам, апынуўся тэкст графа-скандаліста.

Пра гісторыю няпростых дачыненняў літаратараў XIX стагоддзя з Беларуссю распавёў і наступны перакладчык — Міхась Кенька, які з сямі твораў Крашэўскага пра Вялікае Княства Літоўскае пераклаў ужо чатыры, але спыніцца на дасягнутым не збіраецца.

Прадстаўляючы кнігі Янкі Брыля і Алеся Адамовіча, Міхась Тычына распавёў пра сваё знаёмства з літаратарамі, засяродзіўшыся на асэнсаванні іх творчага лёсу: «Чым яны блізкія? Яны паспелі за сваё жыццё зрабіць усё, завершыць усе свае творчыя задумы. Гэта рэдкасць і для нашай літаратуры, і для гісторыі літаратуры наогул».

Ганна Кісліцына прадставіла лірыку Янкі Купалы і «казкі жыцця» Якуба Коласа. Выступілі таксама дзеці і сваякі беларускіх класікаў — аўтараў прэзентаваных кніг: Сяргей Гілевіч (сын Ніла Гілевіча), Алена Сінькевіч (пляменніца Уладзіміра Караткевіча), Андрэй Фёдараў (унук Янкі Маўра). У прыватнасці, Сяргей Гілевіч нямала ўспомніў цікавага пра тое, як працаваў ягоны бацька над раманам «Родныя дзеці» і паэмай «Сказ пра Лысую гару».

Завершыў вечарыну доўгачаканы выступ Лявона Вольскага, які збольшага сканцэнтраваўся на песнях з праекта «Народны альбом», нядаўна прадстаўленых у Беластоку ў аднойленым складзе легендарнага музычнага праекта 1990-х.

**ЦЧ**

# З'ЯВА. АСОБА
## Успаміны пра настаўнікаў

**Мне пашанцавала ў Дзераўнянскай СШ Стаўбцоўскага раёна: тады, на пачатку 1960-х, нам беларускую літаратуру выкладаў А. Каменка.**

Ён асабіста ведаў многіх тагачасных пісьменнікаў і, галоўнае, які пераказваў не сцісла і звышідэалагічнае са школьнага падручніка, а са сваіх студэнцкіх канспектаў, самых новых публікацый у часопісах, а заадно далучаў да чытання часопісы «Бярозка» і «Маладосць», асобныя новыя кнігі са сваёй бібліятэкі.

Затым нам, ужо студэнтам беларускага аддзялення філфака БДУ, пашчасціла, што чыталі лекцыі не толькі дзядулі і бабулі, не адрываючыся ад пажаўцелых паперак, дзе былі выкраслены словы «Сталін», «па-сталінску», а пасвячалі ў мова- і літаратуразнаўства маладыя высокаадукаваныя навукоўцы, якія мыслілі ў духу хрушчоўскай адлігі (і нават больш) і, да ўсяго, самі былі ўжо вядомыя паэты, празаікі, крытыкі і літаратуразнаўцы. Яны «выходзілі» за межы ўніверсітэцкіх праграм, уважліва назіралі за намі і падтрымлівалі тых, хто сам яшчэ ў школе, а цяпер студэнтам меў цягу да літаратурнай творчасці.

Сёння радасна і ўдзячна ўспомніць, што на першым курсе Ніл Гілевіч забавіў разуменнем, усведамленнем духоўнасці, філасофскасці і эстэтычнасці, моўнага багацця фальклору; што Алег Лойка падкрэсліваў асаблівую значнасць для адраджэння беларускай мовы, літаратуры, а з гэтым і нацыі разумовых і творчых асобаў XIX ст. (пры гэтым рабіў экскурсы і ў XV—XVIII стст., адкрываў для нас зусім невядомыя імёны і творы, тым самым ілюструючы, што наш люд не быў суцэльна непісьменны, а сярод яго было нямала светачаў, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў лепшых еўрапейскіх універсітэтах і нямала чаго зрабілі для асветы, навукі і культуры ВКЛ); што Дзмітрый Бугаёў дзёрзкай палемікай з многімі схільнымі да неаджылай яшчэ вульгарнай крытыкі навучаў самастойна спасцігаць як даўніну, так і новую літаратуру, не асцерагацца выказваць свае думкі, калі трэба, то і палемізаваць. Па яго і Барыса Сачанкі з тагачаснага «Полымя» парадзе я захапіўся прозай тады яшчэ не толькі не ўведзенага ў праграмы, але і яшчэ паўзабароненага Максіма Гарэцкага. Каб прачытаць яго творы са сховішчаў, «Нашу Ніву» ды іншую дарэвалюцыйную забароненую літаратуру 1920–30 гадоў крыху старэйшы за мяне Рыгор Семашкевіч паспрыяў патрапіць чытачом у беларускі аддзел тагачаснай «Ленінкі», дзе папаўнялі свае веды, пісалі новыя даследаванні і нашы выкладчыкі.

З «Маладосці» ў старэйшых класах я ўведаў, што ёсць і такі пісьменнік, як Іван Навуменка, што ён — выкладчык філфака БДУ. Прачытаў некаторыя яго надрукаваныя ў той час апавяданні, раман «Сасна пры дарозе». Зразумела, вучань тады яшчэ не мог належна зразумець, ацаніць уклад гэтага аўтара ў распрацоўку нашай прозай тэматыкі твораў пра Другую сусветную вайну, пра вялікую трагедыю нашага народа. Калі ўжо студэнтам набыў раней выдадзеныя яго кнігі апавяданняў і аповесцяў, то мне вельмі спадабалася, як проста, але і як змястоўна, маляўніча ён піша пра вясковы побыт, духоўныя абсягі, памкненні ў падлеткавым, юначым узросце («Сямнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Вайна каля Цітавай копанкі» і інш.). А новай кнігай апавяданняў «Таполі юнацтва» (1966) Іван Навуменка ярка засведчыў сваё творчае крэда: ён не проста напісаў яшчэ шэраг твораў на ўпадабаную тэму на моцнай біяграфічнай аснове, а засяродзіўся на адлюстраванні лёсу, светапоглядзе і высокамаральных учынках тых, хто заканчваў перад вайной школу, каго ва ўмовах сталінізму тады «сурова вучылі» (П. Панчанка). Няма ніякага перабольшвання: Навуменка ў гэтай справе — адзін з самых выдатных выказнікаў светапогляду, духу, паводзінаў, драмы ўсяго свайго пакалення, якое разам са старэйшымі прыняло актыўны ўдзел у барацьбе з ворагам, шмат выцерпела, панесла вялікія страты і сталася ў шэрагах пераможцаў над фашызмам, а пасля вучылася замацавацца і ў мірным, вельмі складаным жыцці. Пасля дэмабілізацыі з арміі ў 1945-м Навуменку, каб стаць аўтарам першай кнігі прозы і выкладчыкам БДУ, давялося болей дзесяці гадоў зарабляць на хлеб, творча сцвярджвацца рознай працай і набываць вышэйшую адукацыю завочна. А разам з прозай значна загучала і слова Навуменкі-літаратуразнаўцы.



І. Я. Навуменка, Л. Д. Сінькова і А. А. Лойка (колішнія загадчыкі кафедры беларускай літаратуры БДУ)

Маё блізкае знаёмства з Іванам Якаўлевічам адбылося толькі на апошнім курсе, калі ён пачаў чытаць у нас лекцыі па сучаснай літаратуры. У гэты час да яго рэпутацыі вядомага пісьменніка дадалася і рэпутацыя выдатнага даследчыка творчасці пісьменнікаў XIX ст., аўтара дзвюх арыгінальных кніг пра Янку Купалу і Якуба Коласа ў святле вызначэння духоўнага вобліку герояў іхніх твораў. Гэта не магло не абумовіць змест яго лекцый, схільнасці і асабістыя сімпатыі. Асабліва ў аналізе творчасці сучасных празаікаў: ён, зразумела, выступаў тут як іхні калега і варты супернік. Значыць, быў нароўні з самымі значнымі.

Не буду настойліва сцвярджаць, але мне падалося, што ён з асаблівай пашанотай вылучаў прозу Якуба Коласа, якога лічыў сваім настаўнікам (як прызнаваўся, люблю «Коласаў гумарок», некаторыя літаратурныя прыёмы пераказу тэксту твора), паважліва ставіўся да празаікаў, якія фармаваліся ў 1920-ыя і сталелі, дасягнулі значных здабыткаў у 1930-ыя, з сучаснікаў ухваляў раманы Івана Мележа, Івана Шамякіна, а вось пра творчасць Янкі Брыля і Васіля Быкава штосьці недагаворваў, даволі стрымана ацэньваў самабытныя набыткі Аляксея Кулакоўскага, Аркадзя Чарнышэвіча, Міколы Лупсякова, Міколы Лобана, а ў поглядзе на апавяданні, аповесці маладзейшых пісьменнікаў, якія прысвячалі творы свайму дзяцінству, якое апаліла вайна, а таксама паказу лёсу спаленых вёсак, адчувалася некаторая паблажлівасць.

Алег Лойка, Дзмітрый Бугаёў ахвотна дазвалялі не толькі траціць іхні каштоўны час на паслялекцыйную размову з намі, але і часамі на дыспут з імі. Таму я асмеліўся выказаць некаторыя свае сумненні і Івану Якаўлевічу, хоць, прызнаюся, пабойваўся яго аўтарытэту і перакананасці поглядаў, а таксама, як казалі, ягонага строгага нораву. У прыватнасці, зазначаў: пісьменнікі, якія ўступілі ў літаратуру з сярэдзіны 1950-х, ужо (на 1968 год) зусім не пачаткоўцы. Яны абагацілі нашу прозу новымі тэмамі і пластамі мовы, у лепшых традыцыях ранейшай прозы развілі жанр апавядання, а Іван Пташнікаў яшчэ стварыў выдатныя аповесці «Лонва» і «Тартак», Барыс Сачанка — аповесці «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя», Міхась Стральцоў — аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь». Адпаведна, іхняе лепшае — належнае папаўненне і ўзбагачэнне нашай літаратуры, і гэтага дзеля справядлівасці неразумна недацэньваць. Так, гэты выкладчык не быў цярплівы слухач і не ўцягваўся ў дыскусію, прытрымліваўся сваёй пазіцыі. І ўзяў мяне на заметку: калі ты такі заўзяты абаронца творчасці Івана Пташнікава, Вячаслава Адамчыка, Барыса Сачанкі, Міхася Стральцова, Івана Чыгрынава, то, калі ласка, як кажуць, усе карты табе ў рукі: пішы дыпломную на тэму «Маладая беларуская проза», даказвай і абгрунтоўвай сваё. Ён не мае лішняга вольнага часу, карпее над доктарскай, але згодзен стаць навуковым кіраўніком такой дыпломнай. Я загарэўся гэтай прапановай, хоць хутка і астудзіўся: аднакурснікі выбралі тэмы, на якія было ўжо шмат даследаванняў, а вось я сабе ў падмогу не мог знайсці сур'ёзных асобных артыкулаў: у друку на кнігі названых пісьменнікаў былі толькі рэцэнзіі, мясціны ў калектыўных аглядах. Іван Якаўлевіч спакойна суцешыў: перапісаныя з гатовага дыпломныя мо і не застануцца нават у архіве, а вось мне, як і Рыгору Семашкевічу, ёсць шанец напісаную самастойна дыпломную пераўтварыць у кандыдацкую.

Што ж, засеў за працу. Кіраўнік уважліва чытаў раздзел за раздзелам, стрымліваў маё захапленне і пахвалу, заклікаў «развіваць крытычны аналіз». У прыватнасці, за «пэўную замкнёнасць тэматыкі, за празмерныя апісальніцтва і дэталізацыю, ужыванне дыялектызмаў» амаль ва ўсіх аўтараў (апроч Стральцова). Карацей, урэшце Іван Якаўлевіч ухваліў канчатковы варыянт і нават падмеўся прапанаваць яго ў аддзел крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя», каб там выбралі ўрывак для публікацыі.

Рукапісная копія дыпломнай апынулася ў «Полымі» (там яе прачыталі, калі я ўжо настаўнічаў на Барысаўшчыне, і, сапраўды, азначылі, што мне выбраць і дапрацаваць), абарона прайшла паспяхова, хоць старшыня камісіі трохі бурчэў не столькі на мяне, колькі на «марудны рост маладых пісьменнікаў», за «непашырэнне тэматыкі іхніх твораў».

Але мой шлях у навукоўцы не адбыўся. Сустрэліся мы з Іванам Навуменкам праз гады два ў «Маладосці», і ён мяне агаломшыў: «Ну што — прасвістаў універсітэт? Табе ж сказалі ў «Полымі» што выбраць для публікацыі, а ты і пальцам не паварушыў для гэтага. Лайдак! Была б публікацыя ў салідным выданні — мо была б і аспірантура для цябе. Тым больш, што кандыдацкая была амаль гатовая». Супакоіўся і адказаў зычліўцу, што не мог падрыхтаваць урывак па той прычыне, што мяне прыклікалі служыць у войска, і там мне не было ніякіх умоў для такой працы». «Гэта — іншая справа, — палагоднеў ён. — І цяпер можна вярнуцца да таго. І апавяданні, аповесці пішы. Асіпенка (тады галоўны рэдактар часопіса «Маладосць») ускладае на цябе вялікія надзеі». Не вярнуўся я «да таго», толькі пазней з дыпломнай надрукаваў некалькі артыкулаў амаль пра ўсіх пісьменнікаў, якіх мне хацелася падтрымаць.

У 1973-м я пакінуў настаўніцтва і пачаў працаваць у аддзеле прозы часопіса «Полымя» разам з Барысам Сачанкам, Іванам Пташнікавым. Першы блаславіў рукапіс майго зборніка апавяданняў да друку, другі даў рэкамендацыю для паступлення ў Саюз пісьменнікаў, а кіраўнік маёй дыпломнай, ужо член-карэспандэнт АН БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, узначаліў Інстытут літаратуры. Час ад часу мы сустракаліся ў палымянскай рэдакцыі як аўтар і супрацоўнік выдання, у Саюзе пісьменнікаў на розных сходах. Зрэдзь спатыкаліся выпадкова. Калі ён ішоў пешшу, то праводзіў настаўніка за Купалаўскі тэатр, дзе была ягоная кватэра. Чуў ад яго думку пра мой новы твор, мог удзельнічаць з ім у шчырай, душэўнай гутарцы. І тады мне адкрываўся новы Навуменка — не толькі ўжо яшчэ больш масціты, акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН, але і як грамадзянін-патрыёт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Ён прасіў час ад часу званіць яму, расказваць, што новае значнае будзе друкавацца і ў яго любімай «Маладосці», чым увогуле жыве наша творчая моладзь. Я глыбока ўдзячны яму і за тое, што ён, услаўлены рознымі ўзнагародамі, спрыяў, каб і я, грэшны, атрымаў Дзяржаўную прэмію ў галіне літаратуры, а затым, з прысуджэннем яе, адзін з першых павіншаваў і сказаў вельмі цёплыя словы. Такое пачуццё ад мэтра — не толькі прыемна, але і незабыўна.

Выпала так, што з маёй сям'і не адзін я знаўся і знаюся з сям'ёй Івана Навуменкі. Лекцыі на гістфаку яго жонкі Ядвігі Паўлаўны слухала мая жонка, а на філфаку яго сына Паўла Іванавіча — наша дачка. Мы ў прыязных адносінах з дачкой Валерыяй Іванаўнай — абаяльнай, высокаадукаванай у медыцыне і культуры, а яе муж Віктар Пятровіч спрыяў нам падмацоўваць здароўе ў адной з нашых паліклінік. Словам, сям'я Івана Навуменкі, як яшчэ нядаўна пісалі, не проста ячэйка грамадства, а сямейная, інтэлігентная, інтэлектуальная супольнасць, з якой кожны па-свойму прысвяціў сваю працу на карысць народу, асобнаму чалавеку.

**Генрых Далідовіч**

## «Экслібрыс» імя Антона Луцкевіча

**Сябры журы абралі пераможцаў штогадовага літаратурнага конкурсу «Экслібрыс», які ладзіцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў і сёлета быў прысвечаны крытыцы і літаратуразнаўству.**

Першае месца атрымаў Антось Уласенка з рэцэнзіяй «Faerie Вялікае Літвы» на кнігу Антона Францішка Брыля «Ян Ялмужна». Другое месца заняў артыкул Алены Карп «All you need is love, або Чалавек мусіць быць абнятым» пра кнігу паэзіі Таццяны Светашовай «Разные вещи». Трэцяе месца падзялілі паміж сабой Дар'я Латышава (з рэцэнзіяй на кнігу «Возера радасці» Віктара Марціновіча) і Паліна Піткевіч (з рэцэнзіяй на зборнік прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца»).

Фіналісты будуць урачыста ўганараваныя на святочнай імпрэзе, якая пройдзе ў другой палове лістапада. Работы, дасланыя на конкурс, знойдуць сваіх чытачоў на старонках «Літаратурнай Беларусі» і часопіса «Дзеяслоў».

**Прэс-служба СБП**

# Сымонка-верхалаз

**Апавяданне-быль**



Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ



**Напрыканцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў адной з беларускіх вёсак жыхары з непрыхаванай трывогай чакалі, калі будзе выкананы прысуд невялікай драўлянай царкве, вынесены мясцовым бальшавіцкім начальствам.**

Царкаўку мусілі не толькі зачыніць, але і з падказкі нейкага пільнага апалагета новага ладу яшчэ і «абяззброіць» — скінуць з яе макаўкі крыж, які годна ўзвышаўся над ваколіцай ужо больш за сотню гадоў і, зразумела, моцна калоў вочы новым уладам. Ачоліць адказную аперацыю меўся сам валасны начальнік ГПУ, які ў адзін з верасянеўскіх дзён і наведаўся ў вёску. Падзівіцца на нечуваную падзею хутка сабраўся цэлы натоўп...

Аднак скінуць крыж з царквы аказалася зусім не простай справай. Для гэтага нехта павінен быў узлезці на макаўку, мокрую і слізкую пасля нядаўняга дажджу, і зачапіць крыж вяроўкай. Але ніхто з мясцовых актывістаў у схільнасці да самагубства не быў заўважаны, і справа застапарылася. Натоўп пачаў шумна абмяркоўваць пікантную сітуацыю. Гучалі розныя, нават самыя эксцэнтрычныя прапановы. Да прыкладу, нехта раіў папрасіць вайскоўцаў, якія стаялі непадалёк ад вёскі, пальнуць па царкве з гарматы. Але ад гэтага рашуча адмовіліся, бо, па-першае, непадалёку праходзіла мяжа з Польшчаю — і гарматны стрэл мог моцна сапсаваць міжнародныя стасункі, а па-другое, гэтак можна было няўзнак нарабіць шкоды і ў самой вёсцы.

Нагаманіўшыся ўволю, людзі ўрэшце ўціхамірыліся. Месцічы засяроджана стаялі ля царквы, дружна задраўшы галовы ўгору, усведамляючы, што задача стаіць амаль невырашальная. Мокрыя сцены царквы пабліскалі на сонейку, нібы пасміхаліся з няўдалых крыжаздымальнікаў. Здавалася, што сам Гасподзь бароніць храм ад прыніжэння, а вяскоўцаў — ад вялікага граху. Пачасаўшы патыліцы, памяркоўныя беларусы ўжо хацелі было разыходзіцца, але тут нехта раптам успомніў, што ўлетку на макаўку царквы, на спрэчку, паспяхова ўзбіраўся адзін з мясцовых падлеткаў.

Адчайнага «верхалаза» хутка знайшлі і падвялі да кіраўніка «аперацыі», таго самага строгага ГПУ-шнага начальніка. Але цяпер ён быў зусім не строгі, ён прыязна ўсміхнуўся падлетку, паляпаўшы па плячы, і пяшчотна спытаў, ці не змог бы ён паўтарыць свой ранейшы летні манеўр. Начальнік не стаў утойваць, што на гэты раз пасля дажджу задача стаіць куды больш складаная. Да таго ж ускараскавацца трэба было з цяжкай вяроўкай на поясе, каб зачапіць яе за крыж.

Дванаццацігадовы Сымонка — так звалі падлетка — доўга вагаўся. Зразумела, яго цешыла, што важны начальнік не загадвае, а перад усёй вёскай просіць яго, хоць ён яшчэ недарослага, — і ўсё ж быццам нейкая сіла ў тую хвіліну перашкаджала даць згоду.

Гэта потым, праз шмат гадоў, ужо ў самым канцы жыцця, згадваючы тыя падзеі, Сымон усвядоміў, што вагаўся ў тое імгненне паміж асцярогаю свайго добрага анёла-ахоўніка і спакусай зусім не Боскай сілы, што падбівала яго на адзін з самых вялікіх, хоць і міжвольных, грахоў. Але ў той восеньскі сонечны дзень такія думкі хлапчуку ў галаву, вядома ж, прыйсці не маглі...

Скончылася размова ўрэшце тым, што падлетак, які ўпершыню ў сваім жыцці апынуўся ў цэнтры ўвагі не купкі аднагодкаў, а цэлай вёскі, усё-ткі згадзіўся. І сапраўды, на Сымонку ў той адказны момант ва ўсе вочы глядзела амаль уся вясковая грамада, у тым ліку і прыгожанькая суседская Анэлька, якая раней нават галаву ў ягоны бок не паварочвала...

Не глядзела на Сымонку ў той момант толькі родная матуля ды яшчэ некалькі вяскоўцаў, якія катэгарычна адмовіліся ў той дзень ісці на «сатанінскае відовішча». Эх, каб ведала маці, што там адбудзецца, то, напэўна, на крылах паляцела б, каб спыніць свайго малодшанькага ад бяды... Але яна ў той дзень засталася-такі дома і толькі старанна малілася ў куце каля іконы, каб пашкадаваў Гасподзь роднае сяло...

А вось Сымонкаў бацька разам з натоўпам панура стаяў ля царквы. І хоць усім сэрцам быў супраць таго, каб сын улазіў у такую нядобрую справу, але запярэчыць начальству не наважыўся. Ведаў, чым могуць тыя пярэчанні скончыцца...

Да свайго чарговага «ўзыходжання» на макаўку Сымонка рыхтаваўся не дужа. Не было ў яго, зразумела, і ніякіх прыстасаванняў, і страхоўкі для будучага пад'ёму, апроч уласных рук і ног. Гэта цяпер верхалазы, каб залезці на які-небудзь занядбаны ўзгорак, прывозяць ледзь не паўтоны абсталявання і поўгода рыхтуюцца. А ў той дзень мясцовыя актывісты ў радасным узбуджэнні жваваенька прывязалі Сымонку на пояс вяроўку, якую трэба было прычапіць да крыжа, і ён па мокрых сценах паціху пачаў караскацца ўгару... Кожны рух падлетка выклікаў гучныя ахі ў натоўпе — усе выдатна разумелі, што ён можа ў любую хвіліну зваліцца...

Але спрытны, як вуюн, Сымонка неўзабаве дабраўся да крыжа. Там ён асцярожна прывязаў да яго вяроўку, а потым таксама вельмі асцярожна спусціўся ўніз. Важны начальнік ГПУ, як даросламу, паціснуў яму руку і нават расшчодрыўся на два словы: «Дзякуй, таварыш!» Болей за тое, ён раптам зняў з галавы фуражку і, адчапіўшы ад яе чырвоную зорку, працягнуў Сымонку. У той момант хлапчук і насамрэч стаў ледзь не героем у вачах аднавяскоўцаў — як жа, сам грозны начальнік ГПУ, перад якім дрыжэла ўся акруга, з ім парукаўся і адшкадаваў зорку са сваёй фуражкі! У той момант Сымонка з задавальненнем злавіў на сабе і захоплены погляд Анэлькі...

А аперацыя па ліквідацыі крыжа працягвалася... Далей усё было, як кажуць, справай тэхнікі. За прывязаную Сымонкам вяроўку дружна ўчапіліся дзясяткі чалавечых рук і з нейкай адчайнай заліхвацкасцю пацягнулі крыж долу. Праз колькі імгненняў ён з дзіўным, амаль чалавечым стогнам абрынуўся, ледзь не прыбіўшы таго самага ГПУ-шнага начальніка. Некалькі чалавек адзначылі падзенне крыжа крыкамі «Ура!», але большасць вяскоўцаў цяжка маўчала. Людзі быццам адчувалі нейкую амаль фатальную бездапаможнасць перад няўхільнай і страшнай сілай, якая невядома адкуль з'явілася на іхных землях. Гэтая сіла без малых сумненняў пачала брутальна перайначваць адвечны лад вясковага жыцця, пасягаючы на тое, што раней было самым важным.

Скінуты крыж пагрузілі на вазок і некуды павезлі. І ён, як і крыж Еўфрасінні, як і дзясяткі тысячаў іншых беларускіх крыжоў, беззваротна знік у віхурах часу. У той дзень яшчэ адна беларуская вёска аказалася назаўсёды пазбаўленай апекі і абароны сваёй даўняй святыні...

Той-сёй з вяскоўцаў падумаў, што цяпер бальшавікі адчэпяцца... Але ўсё толькі пачыналася...

Галоўны герой — «верхалаз» Сымонка, які, вядома ж, мала разумеў тады, што нарабіў, паціху паплёўся разам з бацькам дадому. Калі маці даведалася пра ягоны «подзвіг», на нейкі час нават страціла прытомнасць ад невыноснага жаху за будучыню свайго малодшанькага...

***

Трэба сказаць, што ў той драматычны дзень ейнае сэрца не памылілася. Ох сколькі нягодаў потым зведаў Сымон!.. Іх хапіла б, бадай, на некалькі чалавечых жыццяў. І каб на ягоным асабістым жыцці ўсё і скончылася!.. Не!.. Быццам нейкі цень уладна навіс і над лёсамі ўсіх Сымонавых нашчадкаў. Ні ў аднаго з яго дзяцей, а потым і ўнукаў, жыццё ніяк не ладзілася... Зрэшты, Сымон, па шыю загружаны паўсядзённай сялянскай працай, стараўся менш думаць і пра свае былыя грахі, і пра няўдалы лёс нашчадкаў, дзесьці ў глыбіні душы разумеючы, што ёсць рэчы, якія паправіць немагчыма.... Зусім па іншаму да гэтага ставілася ягоная жонка Настуля, якая кожную нядзельку наведвалася ў царкву і малілася за сваіх няўдалых дзяцей і ўнукаў.

Сам Сымон пасля таго даўняга выпадку з крыжам неяк інстынктыўна трымаўся ад царквы як мага далей. Жонцы хадзіць туды не перашкаджаў, а сам — ні нагой, колькі яна яго ні запрашала. Быццам бы той самы падлеткавы грэх не пускаў яго наблізіцца да храма!.. Да таго ж і час быў такі, калі ў жыцці большасці людзей Богу месца не было. Праўда, узамен ім актыўна пранюхваліся іншыя багі, бажкі, адмысловыя рытуалы. Сымон і да іх ставіўся паблажліва, таму і жыў у нейкай сваёй асабістай веры, у якой галоўным быў ён сам.

***

Аднойчы восенню дзеці з унукамі ў чарговы раз наведаліся да Сымона на капанне бульбы. Ён хоць і быў ужо не ў той сіле, як раней, але, як заўсёды, узяў у тут бадай самай адказнай у годзе працы самы актыўны ўдзел. Але акурат у тыя дні моцна занепагодзілася, і Сымон няўзнак моцна застудзіўся. Ён доўга ляжаў у лякарні, а калі яго выпісалі дахаты, так і не ачомаўся.

У тыя ж месяцы ён нечакана для самога сябе зразумеў, што ў адным яму ўсё ж пашанцавала — з жонкай. Ягоная Настуля, значна маладзейшая за яго, некалі пасля вайны, ратуючыся ад чарговага жахлівага галадамору, прыехала на даху вагона з Украіны ў Беларусь і з таго часу ўжо каля паўстотні гадоў была з ім побач. Усе гэтыя гады яна заставалася Сымону бясконца адданай і вернай жонкай ды памочніцай ва ўсіх ягоных справах. Доўгі час ён прымаў усё гэта як нейкую дадзенасць, як мы прымаем сонца, паветра, дождж... А цяпер зразумеў, што гэта і было ягонае галоўнае шчасце. За ўсе гады сумеснага жыцця ў яго не было нават дробнай падставы, каб хоць у нечым папракнуць сваю Настулю...

У апошнія дні жыцця ўспомніўся Сымону нечакана і вельмі празрыста — быццам учора было — абрынуты з царквы крыж... Успомніў да самых малых падрабязнасцей — і ўрэшце неяк ёмка ўсвядоміў, што тады насамрэч адбылося. Зразумеў, што груз таго граху вісеў цяжкім каменем у яго на шыі...

А за дзень да смерці Сымон раптам паклікаў жонку і нейкім нязвыкла цёплым голасам сказаў: «Мусіць, жоначка, я сваё ўжо аджыў... Хутка застанешся адна...» І далей сказаў словы, якіх яна ад яго зусім не чакала: «Пакліч на заўтра бацюшку, хачу паспавядацца!»

Жонка ўжо не раз за час хваробы казала яму пра гэты абавязковы для кожнага хрысціяніна рытуал, але Сымон заўсёды з нейкай незразумелай злосцю абрываў яе: «Хопіць мне пра сваіх папоў, хай лепей самі сябе спавядаюць, праведнікі знайшліся!..» І вось цяпер здзівіў...

Пад вечар таго ж дня, калі хворы паспавядаўся і, як належыць, атрымаў ад старэнькага бацюшкі мясцовай царквы прычасце, загадаў, каб вячэру яму падалі не ў ложак, як было апошнім часам, а накрылі стол. Здзіўленыя жонка і ўнучка дапамаглі Сымону апрануцца, і з цяжкасцю дакульгаў да стала, за які ўжо даўно не садзіўся. Потым стары нечакана папрасіў унучку прынесці з каморкі бутэльку настоенай на нейкіх адмысловых травах гарэлкі, што некалі прывёз у падарунак са сталіцы старэйшы сын. Сымон, пасля таго, як захварэў, да гарэлкі не дакранаўся ўвогуле, а тут раптам наліў сабе чарку, са смакам выпіў і гэтаксама са смакам павячэраў. Жонка з унучкай нават з радасцю падумалі, што дзед пайшоў на папраўку.

Але назаўтра раніцай Сымон не прачнуўся...

***

На пахаванне да дзядзькі Сымона, як яго называлі ў вёсцы, сабралася нямала народу. Пасля завяршэння памінальнай службы, бацюшка падышоў да старэйшага Сымонавага сына, які прыехаў са сталіцы і цяпер нерухома стаяў каля толькі што засыпанай бацькавай магілы. «Не перажывайце, дзякуй Богу, ягоная душа пайшла да Бога падрыхтаванай і супакоенай, паспеў і пакаяцца, і прычасціцца... А пакаяцца яму было ў чым!..».

Сын зірнуў на святара, затым на пастаўлены на магіле бацькі крыж. Што ж, падумалася яму ў той момант, — кола жыцця рана ці позна замыкаецца...

# Вечнасць



Барыс ПЯТРОВІЧ

### Апа-калі?...

**1.**
*пралётам, пералётам*
*з Марса на Венеру*
*яно спынілася ў нас*
*жоўтыя вочы*
*блукалі*
*па дрэвах і кустах*
*спапяляючы ўсё*
*на чым спыняўся позірк*
*прагныя вушы ўцягвалі ў сябе*
*ўсе гукі*
*і рабілі звыклую цішыню — магільнай*
*шырокія ноздры*
*забіралі ўсе пахі*
*там, дзе яно прайшло —*
*заставалася пустэльня*
*такая ж, як на Марсе,*
*такая ж, як на Венеры*

*а кажуць — Бога няма…*

**2.**
*і вось стаіць чалавек*
*рукі — усе шэсць — узнятыя*
*у просьбе да нябачнага Бога*
*зміласцівіцца*
*і не адымаць у яго мову*
*бо гэта апошняе*
*што засталося ў чалавека*
*чалавечае*

**3.**
*пра гэта распавёў мне вецер*
*які ўзнялі крылы апошняй птушкі…*
*ён праляцеў праз вокны без шыбаў*
*праз галіны дрэваў без лісця*
*крутнуўся на лузе без травы*
*на рэчышчы без вады*
*і вярнуўся, каб пагуляць*
*з пер'ем птушкі, якая яго нарадзіла*
*расказаў і сам памёр*
*бо няма на гэтай зямлі*
*нічога вечнага*
*і нішто не нараджаецца з нічога*

**4.**
*стралялі?*
*не, у нас даўно ўжо не страляюць*
*ад гэтае заўсёднае цішыні*
*звон у вушах, які не звон, а сама цішыня*
*і нам тут жыць?*
*сярод пяску ды камянёў*
*і нам тут быць*
*да скону нямымі…*

*о, як я хачу прытуліцца да цябе шчакой*
*адчуць тваю цеплыню сваім холадам*
*пэўна, я памятаю нешта іншае*
*за тое, што ёсць сёння вакол нас*
*пэўна… і я быў некалі іншым*
*так, мы, камяні, станем пяском*
*але кім мы былі да гэтага?*
*не памятаю… не памятаю… не памятаю…*

*стралялі?*
*не, гэта на аднаго з нас стала меней*

**5.**
*усё ўжо некалі было*
*і будзе яшчэ не раз*
*смерці няма, як няма і вечнага жыцця*
*ёсць толькі нешта, што не мае назвы*

*не пытайцеся: «Навошта?»*
*пытайцеся: «Дзеля чаго?»*

**6.**
*іду*
*хаджу —*
*шукаю*
*і не знаходжу*
*еду*
*плыву*
*лячу —*
*шукаю*
*і не знаходжу*

*няўжо і праўда*
*я проста прысніў*
*што нехта быў*
*што сам я быў*

**7.**
*сонца ўзыходзіць роўна і трошкі ўправа*
*на яго яшчэ можна глядзець*
*не прымружыўшы вочы*
*эротыкі аж зашмат у гэтым нараджэнні*
*новага дня*
*але хутка ўсё стане звыклым — звычайным*
*сонца возьмецца за працу і расцепліць*
*замерзлыя з ночы лужыны*
*ажывіць жабак і вужоў*
*і вожык выйдзе на паляванне*
*лес захлынецца спевам птушак…*
*і толькі тваю адзіноту нішто не прагоніць*
*ніхто не сагрэе і не растопіць*
*ты будзеш сядзець ля вакна, глядзець*
*на ранішняе сонца*
*згадваць тое, што было тысячу гадоў таму*
*не разумеючы: навошта яно забрала ўсіх,*
*але пакінула цябе*
*ты будзеш размаўляць з жабкамі, вужамі*
*і вожыкам*
*аднак ім будзе не да цябе, бо жыццё для*
*іх — праца*

*заўтра зноў сонца падымецца роўна і*
*трошкі ўправа*
*з таго часу, як прыляцела яно, нічога не*
*змяняецца вакол*
*аднастайнасць адзіноты катуе, але не забівае*
*хочацца верыць, што недзе цяпер*
*нараджаецца новае жыццё*
*што ты пакінуты не дарэмна*
*і слова «праца» яшчэ будзе ўсвядомлена*

**8.**
*Бог ёсць*
*Бог у табе*
*ты не адзін*
*ты не апошні*
*ты — першы*
*ты і Адам і Ева*
*табою не скончаецца ўсё*
*а — пачынаецца*
*пачынаецца*
*пачынаецца*
*толькі пачынаецца…*

*проста, каб пачаць*
*трэба скончыць*
*проста без канца*
*не бывае пачатку*

*Бог ёсць*
*Бог будзе…*
*і не верце тым, хто кажа*
*што Бога няма*

### Вечнасць

**1.**
*урэшце рэшт*
*тут*
*усё зарасце травой*
*і нават птушкі*
*будуць маўчаць бы намаляваныя…*

*так ужо сталася:*
*людзі кожны дзень п'юць ваду*
*з таго возера, якое штогод*
*забірае з вёскі*
*то аднаго хлопца*
*то адную дзяўчыну*
*а бывае і адразу некалькі*
*і вязе на сабе ў блізкі горад*

*сонца, звычайна, свеціць ім услед*
*і доўгія цені ранку*
*першымі кранаюцца берага*
*першымі ўваходзяць у горад*



*ніхто не лічыць гэта сімвалічным*
*нікому не карціць*
*напіцца з возера*
*да якога яны больш*
*ніколі не вернуцца*
*і човен згніе, чакаючы іх назад*

*гэта не горад мёртвых*
*і не мёртвы горад*
*таму ён іх і не адпускае*
*зачароўвае сваімі спакусамі*

*часам, нейкі гараджанін*
*нядаўні вясковец*
*выйдзе да возера*
*і, зірнуўшы на чырвонае кола сонца над*
*вёскай*
*павернецца да свайго ценю*
*і цень павядзе яго назад*
*у горад…*
*а калі ўсё ж нехта адважыцца*
*пераплыве возера*
*і ўвойдзе ў вёску*
*цягнучы за сабой цень свой*
*яго там ніхто не сустрэне*
*а тыя, хто будзе сачыць за ім з вокнаў*
*яго не пазнаюць*
*не выйдуць, не прымуць, не абдымуць…*
*і ён пройдзе скрозь вёску*
*спыніцца на могілках*
*ля магілаў, якіх ён не капаў*
*ля крыжоў з прозвішчамі тых, каго ведаў*
*вачыма будзе шукаць*
*сваю магілу і крыж з надпісам*
*і ўбачыць адразу некалькі*
*але ўсё гэта будуць ягоныя поўныя цёзкі*
*бо людзі ў вёсках так любяць паўтарацца*
*ва ўсім, але найперш у прозвішчах ды*
*імёнах*
*аднак на ніводнай з магілаў*
*не супадзе пачатковая дата жыцця з ягонай*
*а што ўжо казаць пра канцавую*
*калі ён стаіць тут*

*па дарозе назад*
*на ўскрайку вёскі*
*ён у полі сарве і пажуе каласок*
*тры васількі возьме ў жыце жонцы*
*і вернецца да возера…*
*а ўсе, хто глядзеў яму ўслед з вокнаў*
*выйдуць да веснічак*
*пакладуць рукі на платы*
*а галовы на рукі*
*і будуць назіраць*
*як цень ягоны кранаецца процілеглага*
*берага*
*як выходзіць ён стомлены і знясілены*
*ды брыдзе туды —*
*у той горад*
*адкуль не вяртаюцца*
*нават на могілкі*

**2.**
*што ёсць у горадзе тым?*
*першым просіць згадаць яго*
*дым*
*не таму, што ў рыфму*
*а таму, што вакол, усюды ён, ён, ён*
*толькі ён*
*ім дыхаюць, з ім спяць, з ім ідуць на працу*
*ён заўсёдны прысмак да хлеба*
*ды іншай ежы…*

*вядома, ёсць у тым горадзе трава і дрэвы*
*ёсць асфальт і будынкі:*
*крамы, аптэкі*
*цырульні, бальніца*
*ёсць нават могілкі —*
*словам, усё, што трэба*
*для жыцця і смерці*
*але найперш ёсць — дым*
*фабрык, заводаў, машынаў*
*і няма жыцця без дыму*
*нават пасля смерці*

*спачатку тут паміраў кожны пяты*
*потым кожны трэці*
*цяпер — кожны кожны*
*адмераўшы ад прыплыцця з вёскі*
*да скanання*
*хто сорак, хто трыццаць*
*а нехта дваццаць*
*доўгіх ды нудотных гадоў*
*прасякнутых адным жаданнем*
*вярнуцца туды, адкуль прыплыў*
*дзе няма гэтага*
*паўсюдна-заўсёднага дыму*
*але з гадамі труна замяняе човен*
*і плыве на могілкі*
*на руках і плячах тых,*
*хто даўно ўжо сам*
*пачаў свой шлях туды ж*
*і каму засталося*
*мо год, мо два, мо дзесяць…*
*і ўсе скарыліся гэтай наканаванасці*
*зусім не думаючы пра яе*
*і не шукаючы ратавання*
*хоць бы там — за возерам*
*адкуль некалі прыплылі*
*і куды так хочацца вярнуцца*
*але зрабіць гэта ніхто*
*ці — мала хто! — не адважваецца,*
*бо там яшчэ ні адзін з вяртанцаў*
*не застаўся*
*бо адтуль усе вяртаюцца сюды*
*адкуль не вяртаюцца*

*што такое гэты горад?*
*што такое тая вёска?*
*што такое тое возера?*
*адкуль і куды адплываем мы —*
*і адкуль вяртаючыся не вяртаемся?*
*хто мне адкажа?*
*каму адкажу я?*
*і ці трэба чакаць той адказ?*

**3.**
*і вось ляціць хмарка высока ў небе*
*і глядзіць на хмарку глыбока ўнізе*
*што зачапілася за адзін з хмарачосаў*
*горада*
*і не можа зрушыць, адарвацца ад яго і*
*ляцець далей*
*так бывае і сярод людзей*
*прыстане нехта да аднаго месца*
*і нават калі хоча, не можа пакінуць яго*
*а іншыя вандруюць па свеце*
*як тая вышэйшая хмарка*
*і не думаюць нават*
*шукаць сабе адзінага прыстанішча*

*«шчаслівыя…» — думаюць першыя пра другіх*
*«дурныя…» — думаюць другія пра першых*
*другія спачуваюць першым*
*першыя зайздросцяць другім*
*«чаму сталася ў свеце так,*
*а не наадварот?», — думае нехта*
*гледзячы з вакна суседняга хмарачоса*
*на хмарку, што вольна блукае па небе*
*і не зважаючы на тую*
*што зачапілася і жыве побач з ім*
*а мог бы ступіць на яе, адштурхнуцца*
*ад дома*

Працяг на стар. 14 (8) »

# Нашых дзён крыгаход



Ірына ЖАРНАСЕК

## Дачка «дэзерціра»

Быць дачкой дэзерціра — гэта зусім не тое, што быць дачкой, напрыклад, эскадрона, пра якую мы чыталі ў Эдуарда Самуйлёнка... Ніякай табе тут рамантыкі, не кажучы ўжо пра гераізм, апеты ў песнях ды гімнах. Пра дэзерцірства песень не спяваюць. Пра яго найбольш маўчаць. А мой тата гаварыў! І мне тады думалася, што лепш бы ні мне і нікому іншаму не чуць, як ён спакойна так, разважліва мог успамінаць: «Калі я хаваўся...», альбо: «Калі я быў дэзерцірам...» Ох жа, і рэзала мне гэта вушы! Бо як было мне, піянерцы, а потым і камсамолцы, выхаванай у школе на піянерах-героях ды на подзвігу Зоі Касмадзям'янскай, як мне было чуць пра баязлівасць майго бацькі?! Мне ж таксама хацелася (тады, вядома, а не цяпер) адчуваць сябе дачкой героя, ці хоць бы проста патрыёта, ці ўжо хоць бы не дэзерціра. І не скажаш жа яму нічога! Хто ведаў майго тату, той згодзіцца — не скажаш яму што-кольвечы насуперак.

А самае цікавае, што ўсё гэтае татава дэзерцірства было няпраўдай! Гэта я зразумела значна пазней. Бо здраджваць магчыма таму, што маеш, да чаго належыш, перад кім у цябе ёсць абавязак. Ён жа ўсяго гэтага проста не паспеў займець. А яшчэ я зразумела пазней, што калі б тата быў сапраўдным дэзерцірам, то не гаварыў бы ён уголас ажно так смела пра гэта.

Напярэдадні другой сусветнай вайны тата быў прызваны ў Войска Польскае. Усё лагічна: грамадзянін Рэчы Паспалітай з Заходняй Беларусі павінен быў служыць у войску сваёй дзяржавы. Ды толькі гэты грамадзянін цяжка захварэў у войску на малярыю, а потым на пляўрыт, і калі распачалася сусветная бойня, мой бацька змагаўся са смерцю, што вісела над ім, на шпітальным ложку, а не ў бітвах.

Праз усё жыццё ён з удзячнасцю ўспамінаў медсястру польку, якая прыносіла яму з хаты вараныя буракі — для падмацавання аслабелага ўшчэнт арганізму. Давер да буракоў ён захаваў і потым, наказваў нам часта есці, бо «яны даюць крэпасць». Дык наеўся ён тых польскіх буракоў і вырашыў, што час пераходзіць на свае. Схуднелы — скура ды косткі — самаходзь дабіраўся тата з далёкай Познані ў нашы Чаранкі. Дабраўся. А ў Чаранках за гэты час паспела ўжо пабыць новая, савецкая ўлада. Калі ж тата прыйшоў, то яе і новай ужо не было. Улады не было, а навокал грымела вайна. Дык і не прызнаўся да тае нябачнае ўлады, а тым болей да нямецкага парадку. А можа й не ў галаве тое было — сілы б сабраць ды дзяцей гадаваць. Ды малады мужчына вайной выклікае падазронасць ва ўсіх. Бо чаму іншыя б'юцца, а ён — не? Што ён — лепшы? І каму цікава слухаць, што пляўрыт знясіліў яго дашчэнту? Дык і зрабіўся мой тата жыхаром не толькі чаранкоўскай хаты, але й нашай імшарыны — невялічкага ляска пры самай хаце. То ў імшарыне, то ў большым лесе, заўжды загадкавай для мяне Віншоўшчыне, часам на гарышчы сваёй жа хаты, часам у пуні — пакуль не мінулася ліхалецце...

Але было ў тым ягоным туленні штосьці й светлае. Тата тымі даўжэзнымі днямі-начамі вывучыў напамяць усе спевы з малітоўніка, усе літаніі, шмат малітваў. Так моцна вывучыў, што да канца дзён ягоных яму не вельмі й патрэбны былі малітоўнікі. Думаю цяпер пра гэта і нібы бачу, як змучаны малады мужчына, які не можа дазволіць сабе ўвайсці ў сваю хату гаспадаром, але вымушаны туляцца вакол яе, як ён... спявае калядкі... Gloria! Gloria! In ecselsis Deo!* Тата ўсё жыццё вельмі любіў калядкі. Ды і велікодныя таксама... Спеў «Дзень поўны радасці настаў» у нас называлі проста — «Алелюя». І спявалі мы яго ўсёй нашай вялізнай сям'ёй, разгавеўшыся, на першы дзень Вялікадня ў нашай хаце. Спявалі ўвесь, не тое, што ў сучасных малітоўніках — тры куплеты.

Памятаю, як пасля татавай смерці мы сабраліся ў нашай хаце ўжо прыкметна парадзелай за гэты час сям'ёй і швагра Пятро разгублена запытаў ва ўсіх нас: «А як «Алелюя» без таты спяваць?». Не змаглі без яго... Варта і цяпер мне пачуць гэты спеў — чую ў ім татаў голас.

Тыя спевы дапамаглі яму выжыць — так ён казаў. Ён ратаваўся імі ад самоты, сцюжы, ад нежадання змірыцца са сваім становішчам, ад немагчымасці на той час жыць адкрыта на сваёй зямлі. Дык і спяваў. Людзі яго не чулі. Ён спяваў Богу. In ecselsis Deo! Гаварыў з Ім у тых бясконцых літаніях, спяваў іх. Сярод сцюжы, змроку, невядомасці... Кірые, элейсон!**

**Думаю цяпер пра гэта і нібы бачу, як змучаны малады мужчына, які не можа дазволіць сабе ўвайсці ў сваю хату гаспадаром, але вымушаны туляцца вакол яе, як ён... спявае калядкі... Gloria! Gloria!**

Тады гэта й здарылася. Тата начаваў на гарышчы хаты, а на Чаранкі наляцелі гэтак званыя «партызаны». Было ж іх, апроч змагароў, яшчэ і такіх, што лепш з імі нідзе не сустракацца: ні ў лесе, ні ў полі, ні дома. Калі і як яны ваявалі з ворагамі, гэтага ніхто з мясцовых не чуў-не ведаў, а вось што прыйсці могуць сярод ночы ды абрабаваць, напужаць да паўсмерці, а то й пазабіваць — гэта было. Вось і завіталі такія няпрошаныя госці ў Чаранкі ды не спыталі дазволу, выгналі з хлява кормніка, забілі проста ў двары, асвяжылі пад мамін роспачны плач, пагрузілі на сані дый паехалі, а маме на развітанне прыгразілі. Тата ўсё гэта чуў.

Калі нязваныя госці былі ўжо далёка, тата злез з гарышча і ўпершыню... ударыў маму ды закрычаў: «Ты па свінні галосіш? Дзяцей мусіш гадаваць, а не падліваць масла ў агонь перад гэтымі вылюдкамі! А каб яны на тваё галашэнне па табе стрэлілі?!»

...Мама з татам расказалі мне гэтую гісторыю праз шмат гадоў, калі я ўжо была дарослая і ў мяне самой ужо раслі дзеці. А можа, я і раней яе чула, ды ў маладосці ўсё ж яно неяк з большым аптымізмам успрымаецца... А пачула, калі ўжо сама была маці, і скаланулася. Гэтак жа, як і цяпер, калі пішу гэтыя радкі. Бо той стрэл быў бы не толькі па маме, але і па маіх старэйшых сёстрах — Герці і Марыі, якіх тады яшчэ не было на свеце, па мне, самай малодшай, а значыць, і па маіх дзецях...

...Сяджу на чаранкоўскім валуне, што ацалеў ад падмурка нашай хаты. Неяк у дзяцінстве мой меншы сын Вітаўт аднойчы запытаў: «Як гэта — каб мяне ды не было на свеце?» На мой асцярожлівы напамін пра тое, што ўсе мы будзем вымушаныя некалі пакінуць гэты свет, Вітак адно махнуў рукой: «Памрэм, вядома. Ведаю. Але каб не нарадзіцца? Не! Гэта немагчыма!»

## Мой першы клас

У першы клас я пайшла, калі мне было пяць гадоў. Бо як было не пайсці, калі сама школа літаральна прыехала пад бок? Раней наша пачатковая школка была ў Лісіцах, за пару кіламетраў ад Гойдышава. У той жа год яна якраз пераехала ў дом дзядзькі Эдварда, татавага стрыечнага брата, які кінуў-рынуў і сваю гаспадарку, і сваю шэрую хату, у якой жыў, і свой звонкі, прасторны дом, які не паспеў дабудаваць, і з'ехаў за няблізкі свет. Ягоны недабудаваны дом застаўся стаяць насупраць нашай толькі што перавезенай з Чаранкоў хаты, а дзядзька разам з жонкай і сынам даў лататы ў Польшчу з калгаса «Рассвет», ад якога, як ён зразумеў, нічога добрага чакаць не даводзілася. Тады шмат хто з нашых мясцінаў выехаў у Польшчу. Быў на гэта дазвол уладаў. Ужо дарослая, я была бясконца ўдзячная майму тату, які не пажадаў выехаць. Дык з'ехаў дзядзька Эдвард, а калгас, вядома, не стаў раскідвацца такім кавалкам — дабудаваў ягоны дом, і цяпер у ім месціліся калгасная кантора, кабінет самога старшыні і школа, якая патрыятычна захавала сваю назву — Лісіцкая. Школа была ў Гойдышаве, а называлася Лісіцкай. Праз год яе перанеслі з дому дзядзькі Эдварда ў новы, знарок збудаваны дом, вызваліўшы месца для калгаснага клуба, у якім адбівалі абцасы ў вальсах ды польках нашы Аля з Герцяй. Школа ж так і засталася Лісіцкай ажно да таго дня, калі напрыканцы мінулага стагоддзя з яе вывезлі апошнія парты, дошкі ды пакінулі апусцелы будынак на радасць ды на захламаджванне тым, хто не меў ні кала ні двара. Але ў той час і мяне ўжо ў Гойдышаве таксама не было, і мой боль за маю школу быў вельмі кароткі, на долю тых хвілінаў, калі мы зрэдзьчас праязджалі паўз яе на машыне да нашай гэтаксама апусцелай хаты...

Але мяне занесла занадта далёка ад таго шчаслівага дня, калі на татава пытанне: «Што ж рабіць з гэтай дзеўчынёхай (чытай — са мной)» ён пачуў радасны для дзеўчынёхі адказ: «Ну што рабіць: раз ужо так хочацца ёй вучыцца — хай сабе пачне, а там будзе відаць». Як жа я была ўдзячная настаўніцы Рыце Іванаўне за гэтыя яе словы! Праўда, па сваёй наіўнасці я не звярнула ўвагі на «там будзе відаць».

Скончылася ж мая нечуваная радасць праз некалькі месяцаў горкім плачам у канаве, пры нашым плоце. Ветраным веснавым днём тая ж самая Рыта Іванаўна прыйшла да таты і сказала, што ўжо досыць маёй вучобы, бо едзе інспектар! «Пагулялі ў школу — і хопіць!» — сказала настаўніца. У той дзень я знелюбіла Рыту Іванаўну, бо, аказваецца, мы ў школу гулялі, а значыць, і ўсе мае «пяцёркі», якія я з такім гонарам прыносіла дахаты, і ўсе мае сшыткі, у якіх я, высунуўшы язык, так старанна выводзіла палачкі, кручочкі, а потым і літары ды нават словы, — усё гэта было гульнёй?!.

Таму праз год, калі я зноў пайшла ў першы клас, бо чакаць яшчэ цэлы год да майго сямігоддзя было вышэй усялякіх сілаў, я была шчаслівая, бо Рыта Іванаўна вучыла цяпер другакласнікаў, а Паліна Іванаўна — нас, першакоў. Я тады думала, што ўсе настаўніцы ў школах — Іванаўны.

## Гаваркія мае гусі

Як я іх ненавідзела, гэтых мілых жоўтых істотаў, што кожнае лета спраўна вылупліваліся са сваіх шкарлупінаў, амаль адразу пачыналі азірацца на бакі ды амаль адразу ж зюзюкаць! Мама цешылася іхняму з'яўленню, а я гатовая была плакаць над сваёй горкай доляй. Не, я разумела і разумею цяпер, што ўвогуле гэта вельмі нават сімпатычныя стварэнні. Вельмі нават мілыя, калі ты бачыш іх на карцінках у інтэрнэце. Тады нават у фэйсбуку пацягнецца рука ціскануць «падабайку». Але гэта калі ты не прадчуваеш, у якіх монстраў неўзабаве ператворацца гэтыя мілыя зюзюкалы для цябе, бо менавіта табе, самай меншай, давядзецца іх пасвіць. А гэта азначае, што калі Толік прыпрэцца на сваім ровары, а следам за ім прыбяжыць Рэня і калі нават Норбэрт выйдзе з хаты, то ты не сіганеш разам з імі па вёсцы...

Пасвіць гэтых жоўтых, а праз некалькі тыдняў зеленавата-шэрых істотаў цікава нейкіх першых пяць-дзесяць хвілінаў. Калі мама іх вытрасе з кошыка і яны пачнуць няўмела куляцца ў траве. А то ўхопіцца каторы за травіну і цягне на сябе. А сілачак жа малавата, дык і распластаецца — лапы ўраскідку, выпусціць спажыву з дзюбы... Калі ж ты не хочаш, каб яны соўгаліся туды-сюды і каб табе не даводзілася часта перасоўваць услед за імі сваю посцілку пастушкі, трэба з імі размаўляць. Менавіта: не гаварыць, а размаўляць, бо гусі вельмі добрыя суразмоўцы. Пачнеш з імі зюзюкаць — і яны штосілачкі таксама ў гамонку кідаюцца: і на траву, і на піццё, і на яйка для іх пакрышанае забудуцца. Шыі павыцягваюць і штосілачкі: «Зю-зю-зю, зю-зю-зю...». Мама пасмяецца з нашых размоў, а потым прыкрыкне на пастушку: «Дай ты ім паесці! Што ты іх усё займаеш!».

Ды не будзеш жа ты з імі ўвесь час гавэндзіць. Тым болей, што на посцілцы абавязкова цябе чакае чарговая кніжка. І тады, між іншым, можа падсцерагчы пастушку бяда. Два варыянты гэтай бяды: альбо зачытаешся і заснеш з кніжкай у руках, альбо можаш і не заснуць, але так зачытацца, што й не ў памяці табе пра тваю першасную місію пастушкі. А дзе там памятаць пра гусей, калі ты, напрыклад, разам з палескімі рабінзонамі прабіраешся цераз балоты, падпільноўваеш ворагаў, кумекаеш, як іх абдурыць ды вывесці на чыстую ваду. І менавіта на самым цікавым месцы цябе можа падсцерагчы небяспека ў асобе сарокі, вароны ці галкі. Каршуны таксама часам наведваліся, але мой дробны статак іх мала цікавіў. Яны ўсё больш палявалі на дарослых курэй. А яшчэ кот які мог таксама паласавацца жоўценькай гусяцінкай. Словам, ворагаў у маіх гусей, а, значыць, таксама і ў мяне хапала. І ў выніку часам добра перападала пастушцы ад мамы.

З таго часу я знелюбіла гусей ды качак. А яны, падросшы, адплочвалі мне тым жа. Па-першае, калі ў гаспадарцы ёсць гэтыя істоты, то панадворак трэба месці амаль як гарадскім дворнікам — штодня. А прапусціш, то ўжо ў мячык аніяк з вядомых прычынаў не пагуляеш на сваім жа ўласным панадворку...

А яшчэ гэтыя гусі калі вырастуць — любяць шчыпацца, заразы! Аднойчы ўзімку, калі я прыйшла са школы ды ў сянёх абтрасала снег з валёнак, адзін з гэтых зухаў з усяго лёту скочыў мне проста на плечы. А ён жа ўжо не жоўты камячок, што летам блытаўся ў траве, а белы герой з доўгай шыяй, з чырвонымі лапамі — го-го-го!.. Адно шчасце — на галаве пяньчоўка была. А тут і мама на наш гвалт падаспела: схапіла гусака за шыю, выйшла з ім у двор да я-я-як запусці-іла ў гурбу!.. А так яму й трэба!

Такія яны, мае крыўдзіцелі, гэтыя гусі... І чаму пра іх столькі песень ды вершаў складаюць? Пэўна, тыя, што складаюць, ніколі іх не пасвілі, не гадавалі, панадворак за імі не падмяталі ды на галаву яны ім не ўзляталі.

### Вяселле

Вельмі гэта нават зручна — быць самай малодшай, пятай у сям'і. Вядома, да таго часу цешышся, пакуль не пачнеш заўважаць, што большасць тваіх абновак зусім ніякія і не абноўкі, а вынятыя мамай з куфра сукенкі, спадніцы ды блюзкі Ядвігі Марыі, з якіх яна вырасла. Неяк не памятаю, каб Марыя даношвала за Герцяй і Аляй... Мо таму, што яны рана выскачылі замуж і пазабіралі ўсё сваё?

А зручна таму, што Аліны і Герціны кавалеры, калі прыходзілі да нас у хату, то не з пустымі ж рукамі. Завядзёнка тады гэткая была: хлапец да дзяўчыны мусіў прыходзіць з цукеркамі. Ідзе такі мясцовы зух на вечарыну ў клуб, і калі ён збіраецца дзяўчыну карагодзіць, то ў кішэні абавязкова мусяць быць цукеркі. А калі ўжо дахаты ідзе, тут без цукерак мала каторы наважыцца пераступіць парог. Няшмат, вядома, хай сабе і сто грамаў нейкіх там карамелек, але на той час гэта было — о-го-го!

Аліных не надта памятаю кавалераў. Хіба што адзін Уладак, яе будучы муж, і хадзіў. І не памятаю, каб мяне частаваў цукеркамі — малая яшчэ зусім была. А вось Герціных то добра памятаю — трох. Вельмі я была ўпадабала Рэнюся, больш за Любаміра, бо ён неяк прынёс цэлы кулёк «Залатога ключыка». Доўга я іх смактала потым і на Герцю злавалася, бо яна чамусьці нос корчыла, калі хто Рэнюся пры ёй успамінаў. Не тое, што Петрака. Гэты каб і ніводнай цукерчыны не прынёс, то ўсё роўна мілы, мабыць, быў бы ёй. Дык і пайшла за яго замуж. Стукнула васямнаццаць — і пайшла. Я сказала б нават — пабегла.

Самы пачатак вясны быў, 4 сакавіка. А снегу той год было-о-о!.. Гурбы — упоравень з вокнамі. Я ў школу, вядома ж, не пайшла. А мой аднакласнік Колька пайшоў, але пасля ўрокаў да нас завітаў, на вяселле. Мы з ім на адной парце сядзелі. Сябравалі. Ну і прыйшоў праведаць аднакласніцу. А там і пачалося: во, яшчэ адзін шафер, Ірцы — па́ра! Нам з Колькам нават марш, памятаю, гралі. Пасадзілі на крэслы ды захмялелыя хлопцы ўгору ўзнімалі, гарманіст рэзаў марш, а ўся грамада пляскала ў ладкі. Весела было. Здымак застаўся з тае падзеі.

Праўда, для Колькі тыя гулі скончыліся зусім не весела — матчынай лупцоўкай. Але не будзем пра сумнае.

Лепш пра вясёлае. Вяселлі ж тады на маёй Глыбоччыне гулялі па тры дні: спачатку ў маладой, потым у маладога. А калі ад'язджалі ад маладой, то адразу ж забіралі і пасаг: пярыну, падушкі ў прыгожых наўлечках, дамаканыя коўдры. Памятаю, як сядзела я на ложку сярод тых падушак і не аддавала іх сватам, патрабавала выкуп. Дык і назбірала ладную жменю капеек.

А калі вяселле на конях, упрыгожаных каляровымі стужкамі ды звонкімі бомамі на хамутах, вырушыла ад нас да жаніха, дык першыя сані, на якіх маладыя сядзелі, занесла, і яны з размаху ку-у-ульнуліся ў снег! Добра яшчэ, што тады маладухі не фарбаваліся. Дык падняў Пятрок нашу Герцю, абтрос ды зноў пасадзіў на сані, далёй павёз, дзе яе свякроўка са свёкрам чакалі.



**Вяселлі ж тады на маёй Глыбоччыне гулялі па тры дні: спачатку ў маладой, потым у маладога. А калі ад'язджалі ад маладой, то адразу ж забіралі і пасаг**

### «Собор Парижской Богоматери»

Я прачытала гэтую кнігу, калі мне было-о-о... 10 гадоў. І ніякай памылкі тут няма — такая была з мяне тады чытачка. А ва ўсім вінаватая зноў жа мая старэйшая сястра Ягуся (не магу яе называць тут Марыяй — хоць плач, бо ў той час яна была для ўсіх нас толькі Ягусяй, праўда, вельмі хутка настаўнікі раскапаюць, што ў савецкіх дакументах яна Марыя, а не Ядвіга, і маёй сястры, як і ўсім нам, давядзецца прывыкаць да яшчэ аднаго яе імя). Дык Ягуся прынесла кнігу з бібліятэкі, паказала мне і неасцярожна пахвалілася, што гэта вельмі цікавая і сур'ёзная кніга, настолькі сур'ёзная, што першыя сорак старонак проста немагчыма чытаць ды штосьці ў іх зразумець. Але затое, сказала, калі яна ўсё ж адолела гэтыя сорак старонак, там пачалося такое цікавае, што й адарвацца цяжка. У мяне, мабыць, загарэліся вочы, бо Ягуся адразу ж патушыла той агонь: «Але табе чытаць яе яшчэ рана! Малая ты яшчэ!». Не памятаю, ці пярэчыла я, ці пратэставала. Хутчэй за ўсё, абурылася. Бо назаўтра, калі Ягуся пайшла ў школу (а вучылася яна тады ў Задарожскай школе, за пяць км, калі наўпрост, праз лес, і гэта зусім не тое, што дзвесце метраў да маёй Лісіцкай пачатковай), я аблёдзела па ўсіх, здавалася, магчымых месцах схованаў і не знайшла загадкавай кнігі. Калі ж пачала шукаць па немагчымых, то адшукала вельмі нават хутка. У пузатым кубле з пер'ем на прымурку нашай печы. Ну і хітруха ж мая сястра! Але я аказалася ўсё ж хітрэйшай!

І пачалося чытанне. Першыя сорак старонак я, зразумелая рэч, адразу ж прапусціла і пачала чытаць ужо там, дзе скончылася апісанне знакамітай святыні, а пачаліся дыялогі. Прызнаюся, я да гэтага часу найбольш люблю чытаць кнігі, дзе шмат дыялогаў.

Але што рабіць, калі вернецца Ягуся і зловіць мяне за чытвом кніжкі, якой мне яшчэ нельга чытаць? Як аказалася, выйсце са складанага становішча заўсёды можна знайсці. Я чытала ў першай палове дня, вярнуўшыся са школы, калі мая суровая сястра яшчэ грызла навуку ў сваёй васьмігодцы. Калі ж надыходзіў час ёй вяртацца, я апускала кнігу ў пухнатае пер'е і бегла сабе на двор. А мая бедачына сястра прыходзіла са школы, потым мы ішлі з ёй збіраць ахрап'е свінням, увечары беглі па нашу карову Сівуху, потым яшчэ з гадзінку пасвілі яе па канавах, бо пасля агульнага папару (пра які мама казала: «як стол гэты папар») у нашай Сівухі былі праваленыя бакі, а пасля нашай папаскі яны хоць трохі круглелі. І толькі позна ўвечары, зрабіўшы ўрокі, Ягуся цішком (каб жа гэтая Ірка, гэта значыць, я, не ўбачыла!) даставала кнігу з кубла, чытала некалькі старонак і пачынала пазяхаць. Мама гнала нас спаць, бо «заўтра вас не дабудзішся», і мы паслухмяна ўкладваліся...

У выніку я прачытала «Собор Парижской Богоматери» раней за Ягусю. Трэба было бачыць яе твар, калі я ёй гэта абвесціла! Паверыла яна мне толькі тады, калі я дэталёва апісала ёй мой працэс чытання ды выпаліла пра Эсмеральду, Квазімоду, Феба... Прыкладна ў той жа час я чытала «Васёк Трубачоў і яго таварышы», «Атаву», «Дзяўчынка шукае бацьку», усё, што было ў калгаснай бібліятэцы з кніг Янкі Маўра. Але большай ад той асалоды, якую я зведала, чытаючы кнігу слыннага француза, бадай і не было. Забаронены плод заўсёды салодкі? Альбо ўсё ж моц таленту? Але калі ўжо прызнавацца, то мушу адкрыць і яшчэ адну таямніцу. Я тыя першыя сорак старонак так і не прачытала... Нават тады, калі мне гэта трэба было па праграме па замежнай літаратуры ўжо ў інстытуце. А ўсё гэтая Ягуся! І навошта сказала мне тады, што яны нецікавыя?

### «Дзень Канстытуцыі»

Ох, і даўся ж ён мне ў знакі, гэты дзень сталінскай канстытуцыі!.. На ўсё жыццё запомніла.

...4 снежня. Дзень канстытуцыі будзе заўтра, але паколькі гэта выхадны, то ўрачыстая вечарына прызначана ў клубе сёння. Я — дзевяцікласніца. Пасля пачатковай Лісіцкай, потым Задарожскай васьмігодкі, нарэшце — трэці этап — сярэдняя школа ў Плісе, за сем кіламетраў ад майго Гойдышава.

Пліса — колішняе мястэчка. І хоць на той час, калі я там вучылася, яно лічылася ўжо вёскай, але плішане не здаваліся — яны па-ранейшаму адчувалі сябе местачкоўцамі. І нам, хто прыходзіў у дзявяты клас з вёсак, яшчэ трэба было даказваць, што мы таксама чагосьці вартыя. А паколькі я найбольш любіла літаратуру, то й выпадала даказваць менавіта ў ёй.

Гэта заўважылі настаўніцы літаратураў — беларускай і рускай, і мне даручылі такое важнае заданне: распачаць вершам Янкі Купалы «Дзень Канстытуцыі» ўрачысты канцэрт у гонар яе ж, гэтай самай канстытуцыі. Вершы я любіла. Гэта праўда. Да канстытуцыі ж свайго стаўлення як след яшчэ не вызначыла, а таму, мабыць, і верш як след не вывучыла. Дый ці ж лёгка яго было вывучыць...

*Дзень Канстытуцыі сягоння,*
*вялікі дзень, святочны дзень,*
*народ, што быў у вякі ў прыгоне*
*і блукаў без пуцця, як цень, —*
*ён ВОЛЬНЫ ГАСПАДАР СЯГОННЯ...*

Гэта пачатак. Яго я памятаю і цяпер. А цалкам верш — не. Не палюбіўся ён мне, мабыць, сваім цяжказапамінальным складам. Я ж самаўпэўнена паспадзявалася на сваю памяць, дык і адкладвала да апошняга. А зранку 4 снежня агледзелася я, бедачына, што забылася ўзяць з дому белую блюзку і чорную спадніцу, без якіх і вечарына — не вечарына. Дык адпрасілася з апошняга ўрока, села на ровар і націснула на педалі — у Гойдышава.

Зіма ў той год выдалася нейкая дзіўная, нібыта не з тых завейных зімаў, калі снег ляжаў гурбамі пад самыя стрэхі хатаў. А ў той год, нібы цяперашняй зімою, 4 снежня я магла ехаць на ровары. Лядок, памятаю, патрэсквае, сняжок пацярушаны, але ехаць так-сяк можна. Спадзявалася па дарозе падвучыць. Мне было не прывыкаць — шмат вершаў гэтак вывучыла. Ды не разлічыла, што ехаць у снежні на ровары — зусім не тое, што ўвесну ці ўлетку. Туды і назад, усяго 14 км. У снежні агораць такую дарожку — якія ўжо там вершы! Ды яшчэ пра канстытуцыю!

Словам, не вывучыла. А адкрываць вечарыну трэба было. Пайшла на сцэну, нібы на той эшафот, зірнула праз шчыліну заслоны ў залу і прымлела — паўнюткая зала! У першым радзе — мясцовае начальства разам з дырэктарам ды завучам... Было чаго прымлець.

Сяброўка прапанавала падказваць. Згадзілася. Дык і выйшла на сцэну, на саменькі яе бераг, перад чырвонай плюшавай заслонай, за якой зусім побач стаяла са скамечанай паперкай сяброўка Зоя.

Пачала я бадзёра, гучна, камсамольскім голасам... І прадэкламавала тыя пяць радкоў, потым штосьці перахапіла глотку, а верная Зоя гучна так, амаль як і я, працягвала:

*Смяюцца з сонцам побач людзі,*
*А сонца — госць штодзённы іх...*

Па зале пранёсся смяшок. І зразумела, што не з вясёлых людзей, якія чамусьці побач з сонцам, быў той смяшок. Я паспрабавала паўтарыць, але Зоя не здавалася, а бадзёра так лупіла далей:

*Бо што было, ўжо больш*
*не будзе...*

Што заставалася мне рабіць? Пайшла, нібы мыла з'еўшы, са сцэны...

Распавядалі пазней, як у школьных кулуарах абмяркоўваўся мой «апалітычны» ўчынак. Адны казалі, што я проста гультайка, і гэтае меркаванне было наймякчэйшае. Другія, што я не дараджу аўтарытэтам школы. І гэта ўжо сур'ёзней. Яшчэ адно меркаванне: яна ж дачка былога кулака — што вы ад яе хочаце!.. На маё шчасце, мне распавялі пра гэта значна пазней, калі я ўжо скончыла школу. Ну а пра «кулацтва» майго таты іншая будзе гаворка. Як ён любіў казаць: «Будзе новы дзень, будуць і новыя песні».

Пасля майго няўдалага дэбюту мне яшчэ доўга не даручалі чытаць на вечарынах вершаў. Выручыў Максім Горкі са сваёй «Песняй пра Сокала». Пасля працяглага перапынку мне ўсё ж асмеліліся даручыць прачытаць ягоную «Песню» на чарговай школьнай вечарыне. Сокал — не канстытуцыя 1936 года. Там я ні слоўца не забылася.

А той верш Янкі Купалы я так і не вывучыла. І цяпер у памяці маю толькі першыя пяць радкоў, якія тады сказала са сцэны. Мабыць таму, што яго, як па мне, нібы й не той Купала напісаў, якога люблю...

---

* Хвала! Хвала! На вышынях Богу! (лац.).
** Пане, выслухай! (лац.).

# Некалькі месяцаў суму



Алесь ЗАМКОЎСКІ

***

*мандарынавы новы год*
*праз калючыя гурбы снегу*
*разарваўшы людскі карагод*
*расхінуўшы крылы*
*да неба*
*у глухі мандарынавы сад*
*дзе трава супакойвае цела*
*дзе пяшчотай агністых прысад*
*птушка шчасця ў лістоце трымцела*
*і нікога вакол, пакуль*
*не захочаш сама*
*не паклічаш*
*толькі ціхі чмяліны гул*
*асцярожна вушы казыча...*
*невядома*
*на яве ці ў сне*
*адплываеш у тую краіну*
*дзе самотныя вусны кране*
*навагодні смак мандарынаў*



***

*Ганарлівы і спакойны,*
*знікну ціха ў белы дзень.*
*Ты з нянавісцю і болем*
*праклянеш мяне і цень,*
*што прыйшоў за мною следам*
*на заснежаны парог,*
*за якім віном і хлебам*
*мы вячэралі утрох.*
*Потым нас ужо чацвёра —*
*я і ты, цень твой і мой —*
*ноччу думалі пра мора*
*і глядзелі, як прыбой*
*лашчыць стомленыя ногі,*
*абдымаючы сляды*
*тых самотных і нямногіх,*
*што сядзелі ля вады.*
*А пасля праз шамаценне*
*коўдры, вуснаў, ліхтароў*
*я, пачуўшы голас ценю,*
*знік туды, адкуль пяро*
*з крылаў нейкай чорнай птушкі*
*прыляцела ў гэты зман,*
*што хацеў мяне загушкаць,*
*што хацеў мяне стрымаць.*

***

*за нямытай шыбай іншасвет*
*казка без шчаслівага пачатку*
*голы клён — задумлівы брунет*
*апранае белыя пальчаткі*

*стукае настойліва ў вакно*
*бы чакае да сябе увагі*
*завірухі белае віно*
*не спатоліць сакавіцкай смагі*

*поўня ад марозу і тугі*
*у абдымкі ціснецца да клёна*
*і абодвум сняцца берагі*
*коўдрай ахінутыя зялёнай*

***

*пад коўдрай адной*
*нябеснай*
*на прасціне адной*
*марской*
*мне ніколі не будзе цесна*
*з Табой*

***

*Мой голас для цябе —*
*Шматкроп'е.*
*Мой голас для цябе —*
*маўчанне.*
*Шмат намі паламана коп'яў...*
*Пра думкі, словы, адчуванні*
*мы гаварылі безліч часу.*
*Праз коскі, клічнікі і дужкі*
*не можам даць адзінай назвы*
*таму, чым мы з табою разам*
*ўжо колькі дзён*
*нядужым...*

***

*спі спакойна*
*нібы заплаціўшы падаткі*
*я цябе не крану*
*ані пацалункам ні словам*
*пад зялёнаю лямпай*
*на аркушы ў дробныя краткі*
*намалюю сляды*
*толькі нам зразумелае мовы*
*спі не бойся*
*не прыйдуць у госці суседзі*
*бо зачынены дзверы*
*надзейна на тры абароты*
*як прачнешся*
*на воблаку белым паедзем*
*і не скажам куды*
*і навошта*
*паедзем употай*

*а пакуль не турбуйся*
*я твой рамантычны ахоўнік*
*буду ціха сядзець*
*у чаканні шчаслівага ранку*
*што агорне шляхі*
*цеплынёю і ззяннем чароўным*
*блаславіць у дарогу*
*трымценнем крылатай фіранкі*

***

*восень без нас —*
*толькі некалькі месяцаў суму.*
*адваротная частка вясны.*
*успамін пра лета.*
*восень без нас —*
*празрысты стамлёны ветах.*
*правінцыйны праспект,*
*напоўнены сном і тлумам.*
*восень без нас*
*губляе сваё значэнне,*
*і крылы клёнаў*
*знікаюць у гурбах снегу...*

*наша восень*
*шукае сабе начлег*
*у нашых сэрцах,*
*напоеных блаславеннем.*

***

*абдымаючы дні*
*незлічоныя*
*ціха думаю ціха мару*
*як сплыве гэта лета*
*чоўнамі*
*як завея ўздыме чару*

*як засну на гарышчы*
*ўраніцу*
*і прысню як сабака грэе*
*левым бокам сваю*
*абранніцу*
*закаханую бель завеі*

***

*я памру*
*закажыце салют*
*раскладзіце стары пасьянс*
*і агулам гаворачы good*
*піце піва сівуху ці квас*
*цела шэрым слупом ляжыць*
*напамінам пра лёгкі лёс*
*снег навокал імжыць ды імжыць*
*сталагмітам сівее нос*
*прыйдзе час і пакліча вясну*
*рэкі сыдуць за межы палёў*
*не будзіце*
*я толькі засну*
*пад аблокамі ў форме нулёў*

***

*у бездані сну —*
*рыбы.*
*у рыбаў —*
*зіхоткія німбы*
*і чорныя акуляры,*
*каб неба было ў хмарах,*
*каб сонца раптоўна знікла.*
*у рыбаў —*
*моцныя іклы*
*і белыя лёзы-зубы.*
*рыбы плывуць у клубы*
*глядзець,*
*як віхляюцца клубы*
*і дрыгаюцца галовы.*
*рыбам зайздросна й нова.*
*рыбам хочацца танчыць,*
*ды мроі не перайначыць.*

***

*Мяжа.*
*Лістапад і снежань.*
*Два крокі —*
*і Новы год*
*папросіць пітва і ежы,*
*нібы згаладнелы кот.*
*Ноч ціхая.*
*Знічкі подых.*
*Жаданне —*
*шукаць аднаму*
*да летняга ранку*
*броду.*
*Праз боль,*
*адзіноту,*
*зіму...*

# Вечнасць

**« Заканчэнне. Пачатак на стар 11 (5).**

*і паплыць па бяскрайнім моры неба*
*у белы свет:*
*куды вочы глядзяць,*
*куды вецер нясе*
*куды лёс завядзе*
*але — нідзе больш не спыніцца*
*нікому не быць нечым абавязаным*
*нікога не любіць і не чакаць любові ад кагосьці*
*забыць пра каханне і пра каханую*
*плысці ды плысці —*
*ляжаць на хмарцы, як на ложку (не — як на лузе!)*
*закінуўшы нага на нагу, паклаўшы рукі пад галаву*
*заплюшчыўшы вочы*
*і думаць: я адзін гэтакі разумны*
*ці нехта плыве і на верхняй хмарцы?*

**4.**
*я таксама некалі сеў у човен і пераплыў тое возера*
*я таксама некалі прыйшоў у гэты горад з той вёскі*
*і гэта менавіта я гляджу цяпер на хмаркі з вакна хмарачоса*
*і зайздрошчу не ім, хмаркам, а тым*
*хто адважваецца вярнуцца ў сваю вёску на могілкі да сваіх родных і блізкіх, да маці і бацькі*
*да тых, з кім некалі пачынаў жыццё*
*і ад каго сплыў у горад*

*прыйдзе час, а ён абавязкова прыйдзе, —*
*і горад злучыцца з тою вёскай*
*праглыне яе і не заўважыць нават —*
*так бывала*
*ў гэтым краі, у гэтым свеце ўжо*
*шмат разоў*
*і назва вёскі ў лепшым выпадку зробіцца*
*назвай мікрараёна*
*паступова на месцы хатаў,*
*што былі адна на сям'ю*
*з'явяцца шматпавярховікі —*
*цэлая вёска ў адным доме —*
*такія ж хмарачосы, у адным з якіх жыву я*
*а праз возера паўстане доўгі мост*
*па ім пяройдуць у горад апошнія вяскоўцы*
*а драўляныя чоўны, непатрэбныя нікому,*
*згніюць на беразе возера*
*бо іх заменяць металічныя лодкі*
*якія не будуць перавозіць людзей*
*а толькі задавольваць рыбацкія жарсці*
*новых жыхароў, што наедуць у горад —*
*былую вёску*

*яшчэ праз дваццаць гадоў*
*не стане вясковых могілак — іх знясуць*
*бо хмарачосам патрабуюць новых*
*і новых плошчаў*
*і на месцы могілак таксама*
*паўстануць дамы*
*у іх будуць жыць прыгожыя,*
*разумныя людзі*
*якія падчас дэпрэсіяў —*
*а дэпрэсіі тут заўсёдныя, як дым —*
*будуць хапаць нажы ці іншую «халодную»*
*ды «гарачую» зброю*
*каб абараніць сваю тэрыторыю*
*якую не змаглі абараніць*
*ад наступу горада*
*і гінуць, гінуць, гінуць...*
*не ўсведамляючы, чаму, навошта і адкуль*
*у гэтым горадзе бярэцца раптам*
*самагубцы*

*5.*
*а вясковыя могілкі? што могілкі...*
*ці трэба шкадаваць іх, калі —*
*уся Зямля нашая суцэльныя могілкі*
*і ўжо даўно варта пачынаць думаць*
*што радзіма нашая не тая вёсачка*
*і зусім не той горад*
*а планета....*
*планета Зямля*
*і няма на ёй*
*ні іудзея, ні эліна*
*ні беларуса, ні ліцвіна*
*а ёсць проста чалавекі*
*проста людзі*
*родныя і чужыя*
*розныя знешне, але аднолькавыя ўнутры*
*незалежна ад колеру скуры*
*і разрэзу вачэй*
*і ў кожнага з іх была некалі вёсачка*
*на беразе возера ці ракі*
*і быў горад, які забіраў людзей*
*і былі хмаркі, якім яны зайздросцілі*
*і ёсць адна на ўсіх будучыня —*
*вярнуцца ў планету Зямля*
*каб блукаць разам з ёй між зор*
*і шкадаваць толькі аб адным*
*што позна зразумелі гэта...*

*бо*
*урэшце рэшт*
*усё зарасце травой*
*і нават птушкі будуць тут*
*маўчаць бы намаляваныя.*



**Няма нічога дзіўнага ў тым, што вырас ён выдатным выдумшчыкам, высакакласным фантазёрам. Хоць некаторыя, асабліва крыўдлівыя, называлі яго прайдзісветам і брахуном. Яго любілі дзяўчаты і не любілі міліцыянты**

# Фата-маргана



Анатоль САНАЦЕНКА

Грыша Савельеў быў памаўзлівым дзіцем. Да гэтага часу памятаю (а прайшло ўжо трыццаць гадоў) свіст папругі, якой у выхаваўчых мэтах карыстаўся яго бацька, — кіроўца-дальнабойнік, змрочны, каротканогі мужчына з вечным пахам мазуту, якім набрыняла яго рыпучая скураная куртка.

Сям'я Грышы жыла над намі, дом быў панэльны, сцены, пліты перакрыцця — тонкія, як папера. Гукі ўваходзілі ў кватэру насуперак нашай волі. Можна сказаць, Савельевы жылі разам з намі, як і тыя шустрыя рудыя прусакі, што і ў будні, і ў святы прыбягалі да нас — ад іх.

І наслухаліся мы ўсякага. І сталі міжвольнымі сведкамі іх хатніх драм і камедый, галоўным героем якіх нязменна быў, вядома, сябар майго дзяцінства — Грышка.

Думаю, што менавіта тады, вымушана праслухоўваючы майстар-клас яго бацькі па абсцэннай лексіцы, і зацікавіўся я прафесійнай філалогіяй і стаў яе вывучаць, што вызначыла маю долю, стала маім лёсам...

Але гэта было потым. Пакуль жа я быў дзіцем і — сведкам жыцця Грышы Савельева.

Думаецца, дзяцінства Грышы было шэрым, сумным часам (калі не лічыць, вядома, скандалы, перыядычны мардабой і крыкі бацькоў), без усялякага, так бы мовіць, боства і натхнення.

Пасрэднае такое савецкае дзяцінства, якое Грышка прыхарошваў сабе рознымі выдумкамі і байкамі. Часамі — даволі небяспечнымі, паколькі ў сваіх «фантазізмах» мой юны сябар быў зусім нястрымным. Зусім.

Не раз, не раз лупцавалі яго за рознакаліберныя выдумкі.

Памятаю, як падлеткам, гадоў у дванаццаць, цягнуў я яго — ён у той час шморгаў разбітым носам і пускаў чырвоныя бурбалкі — з двара ў наш пад'езд. І як ён, трымаючыся за маё плячо, паказваў у цемру вуліцы непрыстойную канфігурацыю з пальцаў і, спатыкаючыся ў словах, ледзьве варушачы азызлым языком і разбітымі вуснамі, пагрозліва казаў камусьці: «У-у-у! Вы яшчэ пра мяне даведаецеся!».

(У той раз яму дасталося за ілжывае паведамленне аб любоўнай сувязі нашых суседзяў).

Бацька Грышкі, ведаючы яго звычкі, у гэты дваравы выхаваўчы працэс — да пары да часу — не ўмешваўся. «Заслужыў!» — казаў ён у такіх выпадках і падліваў сабе «беленькай».

Іншым разам вялікаўзроставых «адарві-кату-хвост», мачо Мцэнскага, гэта значыць — нашага, павета, лідэр раённай групоўкі, вельмі хутка туп-тупатупаў у сваіх скінхэдаўскіх берцах па ўсім праспекце Леніна за Грышкам (які між тым уцякаў нашмат лепш,чым заяц), — з хрыплым лямантам: «Павешу, курва!..». А таксама — з яшчэ такімі ж фразеалагічнымі абаротамі — устойлівымі, не зусім устойлівымі і — прыдуманымі ім на хаду, якія немагчыма, немагчыма прывесці тут...

Аказалася, Грышка, ад няма чаго рабіць, расчапаваў у цеснай, як пятля, кампаніі аб тым, што наш мачо і без пяці хвілін «аўтарытэт», так бы мовіць, нетрадыцыйна арыентаваны.

Не ведаю, як майго сябра Грышку тады не прыбілі. Здавалася, ён як ніколі быў блізкі да гэтага...

Праўда, пагаворвалі, што Савельеў-старэйшы, змрочны каржакаваты мужчына з пахам мазуту, і сам быў у юнацтве той яшчэ мэн. Маўляў, засталіся «сувязі»; ён нібыта выйшаў на самы «зладзейскі» верх; адкупіўся, дамовіўся, ці што іншае...

Мне — асабіста — гэта невядома. Памятаю толькі, што пасля той гісторыі Грышка доўга нікому не трапляўся на вочы...

А з'явіўшыся, «даверна» распавёў мне, што быў выкрадзены іншапланецянамі і ўвесь гэты час правёў на іх караблі.

Вось так! Былі яшчэ і іншыя падобныя байкі: пра часавую шчыліну, у якую ён, нібыта, выпадкова праваліўся; пра тое, як на рыбалцы на возеры перад ім раптоўна паўстаў град Кіцеж мясцовай вытворчасці (плод савецкага выхавання Грышкі) — і званы звінелі, вітаючы Грышку...

Вось і яшчэ адзін успамін з тых гадоў: раён абкладзены, за 13-гадовым Грышкам палюе ўся мясцовая міліцыя, на чале з мясістым, чырванашчокім падпалкоўнікам — крыклівым Пятром Іванавічам, — каб «дапытаць з прыхільнасцю»: ці не ім, выпадкова, было пакладзена на рэйкі мясцовай чыгункі (накірунку СССР — камунізм) каля кілаграма цвікоў-«сотак»?

Ім, ім. І — не выпадкова. Пра гэта я даведаўся шмат пазней — ад самога Грышы.

А тады яго не знайшлі — адседзеўся ў бабулі ў вёсцы і, як ні ў чым ні бывала, заявіўся першага верасня — проста ў школу...

Выразна памятаю, што часам мне і самому хацелася, так бы мовіць, уласнымі рукамі... не зважаючы на асобы... прыкласціся. Добра так прыкласціся, шчыра... Бо мой дваровы сябар часам быў сапраўды занадта невыносным чалавекам. Не-вы-но-сным!

Не раз і не два, з ягонай ласкі, мне даводзілася не толькі апраўдвацца, але і — адмахвацца ад дваровай шпаны; мец цяжкія, як чыгун, гутаркі з бацькамі і настаўнікамі... Прычым у кожным з гэтых выпадкаў я быў зусім ні пры чым...

Так вось і прайшло дзяцінства нашага Грышкі. Якога — на пятнаццатым годзе легендарнага цяпер ужо яго жыцця — на вуліцы пачалі праводзіць грубаватай прымаўкай: «Грышка, ні дна табе, ні пакрышкі»... І няма нічога дзіўнага ў тым, што вырас ён выдатным выдумшчыкам, высакакласным фантазёрам. Хоць некаторыя, асабліва крыўдлівыя, называлі яго прайдзісветам і брахуном.

Яго любілі дзяўчаты і не любілі міліцыянты. Дзяўчаты, выяўляючы на сабе (не адразу, не адразу!), на сваіх цудоўных вушках, чарговую порцыю спагецці, яму даравалі (быў час дэфіцыту: як на спагеці, так і на «арыгінальных» людзей).

Міліцыянты — не, не любілі яго, мякка кажучы. І — зусім, зусім не выбачалі. Не маглі яны, міліцыянты, даравацць «Рыгору Міхайлавічу» таго, што — перыядычна — ім даводзілася шукаць неіснуючыя трупы (змяняючы голас, ён тэлефанаваў у пастарунак з вулічнага тэлефона). Ці — «размініраваць» падазроныя скруткі, якія ён (як яны небеспадстаўна падазравалі) — пакідаў то там, то сям: на вакзалах, у парках, у дзяржаўных савецкіх установах...

Вось толькі некаторыя факты... Два ці тры разы ў тэатры драмы і камедыі спынялі спектакль, каб праверыць папяровы пакет, перацяты аборкай, які драматычна і ўрачыста ляжыць на першым шэрагу, з надпісам (выразаныя з газеты «Праўда» друкаваныя літары): «Бомба (напісанаму —верыць!)»... Бясконцае мноства разоў эвакуіравалі школы і розныя канторы...

Асаблівае яго дасягненне — эвакуацыя ўсяго гарвыканкама, пад нецэнзурную лаянку (філалогія, спадары, філалогія!) яго старшыні. Які, як распавядалі потым, у той час намерыўся добранька выпіць і закусіць — у сваім пакоі, што быў ззаду кабінета (адзначаючы свой «фінансавы» ўчынак, які «прадбачліва» мае асобны артыкул у крымінальным кодэксе)...

У той дзень у калідоры гарвыканкама быў знойдзены скрутак з ганарлівым «газетным» надпісам «Бомба для камуністаў». І хоць усім было ўжо зразумела, што ніякай бомбы там няма, што гэта, мабыць, зноў Грыша дурэе, — адпаведныя службы ўсё ж такі вырашылі папрасіць усіх пакінуць будынак. Ад граху і камунізму далей.

Аднак за руку Грышку так і не схапілі. Ні разу! А сам ён, зразумела, не прызнаваўся.

У васямнаццаць гадоў у яго хадзе і звычках здарыліся драматычныя змены: скочыў з другога паверха з парасонам (ужо не памятаю, што ён там разыгрываў), сур'ёзна пашкодзіў ногі... Стаў хадзіць «качкай», у раскірачку. А ўсім распавядаў, што гэта ён скокнуў з парашутам — з самалёта ДТСААФ, — але парашут не раскрыўся; прыйшлося, маўляў, прызямляцца на ногі.

Пасля гэтага выпадку ён неяк прыціх на час... Гэта значыць — нікога не мініраваў.

Потым я паехаў вучыцца ў іншы горад. Даходзілі адрывістыя чуткі пра новыя штукарствы Грышкі...

У большасці яны былі звязаны з жаночым полам. Быццам бы, знаёмячыся з дзяўчатамі, ён прадстаўляўся ім то агентам заходніх спецслужбаў (а ўжо быў час «перабудовы»), то — афіцэрам мясцовых, такіх жа. «Вербаваў» іх. З дапамогай Венеры, Афрадыты й іншых язычніцкіх багоў. У выніку дзесьці здарыліся дзеці, дзесьці — аборты...

Прайшло некалькі гадоў. Я вярнуўся ў мой горад, знаёмы да слёз (прычым слёз рознага кшталту, у асноўным, — ад смеху).

Грыша таксама яшчэ быў тут. Ён ужо дасягнуў новага ўзроўню ў сваіх выдумках і «пераўвасабленнях».

Заняўся «бізнэсам» (а час, паўтараем, ужо быў іншы, «перабудовачны»). Кажуць, ён браў тавар на рэалізацыю — і не вяртаў. Ні тавару, ні грошай. Закрываў фірму — і бывай!.. Тое ж самае — з банкаўскімі крэдытамі і з пазычанымі яму грашыма...

Яго лавілі, вывозілі ў лес; «я пажартаваў, пажартаваў» — звыкла запэўніваў Грыша і толькі пасля гэтага вяртаў — «тое, што засталося».

А потым — зноў браў, зноў закрываў і адкрываў свае фірмы, прыкідваючыся то банкрутам, то птушкай-феніксам мясцовага бізнэсу...

Доўга так, вядома, працягвацца не магло. Яго — ці пасадзілі б, ці — сапраўды — прыстукнулі б дзе-небудзь: бо часы наступілі жорсткія. Нежартоўныя часы!

Мабыць, таму Грыша і задумаў свае апошнія ўцёкі, сваё апошняе знікненне.

Распавядаюць, ён адкрыў — на пашпарты розных людзей — адразу некалькі прыватных прадпрыемстваў, набраў крэдытаў, тавараў... Як ніколі шмат. І — знік.

У яго пакоі была знойдзена няўцямная запіска: «Я сыходжу... у іншы, лепшы свет... Просьба — не шукаць... Яшчэ сустрэнемся!..»

Для мяне дагэтуль застаецца загадкай, як ён здолеў пракруціць гэты свой апошні фокус, гэты фарс...

Не думаць жа, насамрэч, што ён сапраўды здолеў знікнуць, сыйсці ў адзін з уяўных, мройных светаў...

І што гэта значыць — «я сыходжу»; і чаму нельга шукаць; і калі і дзе сустрэнемся —незразумела...

Вышук усё ж быў абвешчаны. Але нічога добрага ён не даў. Праз два тыдні ў рацэ вылавілі тапельца падобных параметраў; усе чамусьці вырашылі, што гэта і ёсць наш няшчасны Грыша...

Ад тых падзей прайшло ўжо дваццаць гадоў. Але да гэтага часу яшчэ трапляюцца мне людзі (ім я даваряю), якія распавядаюць: нібыта бачылі яго — ладна ўжо пастарэлага і пакоцанага лёсам — у розных месцах.

Хтосьці — у Аўстраліі, хтосьці — у Ізраілі, хтосьці — у Нямеччыне; у Польшчы, Нарвегіі, Галандыі...

Бачаць яго час ад часу і ў Тамбоўскай вобласці, і ў Казахстане, і ва Ўкраіне... Быццам бы хтосьці нават размаўляў з ім, задаваў пытанні...

Чорт цябе раздзяры, Грыша, гэта ты?!.

# «...Натуральны, як лінія небасхілу»

## Два фрагменты з архіўнай аповесці пра Максіма Танка



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

### Марыін ліст

5 лютага 1931 года ў Тчэве польская паліцыя арыштавала Браніслава Тарашкевіча, і ў паперах арыштаванага сярод шматлікіх запісаў быў знойдзены і запіс пра маладога Максіма Танка: «Скурко — смелы хлопец, вучань беларускай гімназіі, адзін раз ездзіў у Слонімскі павет, дзе жыве брат Дварчаніна...»

Вядома, карныя органы звярнулі ўвагу на гэтыя радкі і пад час судовых працэсаў над паэтам яго абвінавачвалі і ў тым, што ён быў кур'ерам і па загадзе Б. Тарашкевіча развозіў па Заходняй Беларусі забароненую літаратуру.

Тое, што ў згаданых паперах паэт быў пазначаны проста як «Скурко» (толькі прозвішча без імя і адраса), дало яму добрую магчымасць аднекваца перад следствам — маўляў, Скуркоў (і хлопцаў, і дзяўчат!) у Беларусі вельмі шмат, і гэта не я быў памочнікам у арыштаванага палітыка, а нехта іншы...

Трэба сказаць, што Б. Тарашкевіч іншы раз натаваў не толькі імёны і прозвішчы сваіх маладых актывістаў — адрасы таксама.

Вядома, для паліцыі такія падрабязныя нататкі з'явіліся неверагодна-каштоўным падарункам, і гэта, на жаль, значыла, што для некаторых заходнебеларускіх юнакоў і дзяўчат запісы лідара «Грамады» абярнуліся вялікай бядой.

Вось толькі адзін яскравы прыклад:

«Пісьмо ў рэдакцыю[1].

Паважаны гр. Рэдактар!

Гэтым прашу Вас не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце наступнае:

Будучы па паходжанню беларускай і атрымаўшы выхаваньне ў Віленскай Беларускай Гімназіі, я ўсю сваю працу была гатовай аддаць на карысьць Краю і беларускага народу. Апошнія тры гады я займала дзяржаўную пасаду, працуючы на пошце ў Вільні <...>

Працуючы на ўрадавай пасадзе, я абсалютна не адчувала ніякіх рэпрэсыяў з боку кіраўніцтва і, як гэта ня дзіўна, рэпрэсыі гэтыя былі выкліканы, дзякуючы палітычнай працы некаторых бел. дзеячоў, карысьць якое для беларускае справы зьяўляецца вельмі сумлійнай. 13 лютага г.г.[2] пасьля рэвізыі ў маім памешканьні, паміма таго, што абсалютна нічога ня знойдзена, затрымана мяне ў арышце аж да 16 лютага г.г., а дзеля таго, што я не зьявілася да працы ў працягу двух дзён, — на аснове службовых рэгулямінаў — была звольнена з пасады. Цяпер асталася бяз усякіх матэрыяльных сродкаў. Здарылася гэта толькі таму, што п. Тарашкевічу, як відаць для нейкіх яго палітычных мэтаў, аказалася патрэбным і маё прозьвішча з адрасам, якое, як кажуць, было знойдзена ў яго партфэлі пры арышце ў Тчэве. Аднак сьледзтва не знайшло нічога кампрымітуючага процiў мяне, і я магла быць у хуткім часе зусім рэабілітавана, каб не наступны факт: у паперах нейкае п. Скуркі, якой абсалютна ня ведаю, ізноў было знойдзена маё прозьвішча.

Рашуча пратэстую процiў правакацыйнага ўжывання з боку каго-б то ня было ў сваіх «сьпісках» без маёй згоды ня ведама для якой мэты майго прозьвішча і адрасу <...>

З пашанай М. Мамчыць[3].

Вільня, 23 красавіка 1931 г.»

Імя М. Мамчыц сапраўды сустракаецца ў блакнотных нататках Б. Тарашкевіча, якія былі старанна апрацаваны дэфензівай.

На 3-й старонцы пратакола агляду, складзенага паводле зместу гэтых нататак судовым следчым Язэпам Булгакам, можна двойчы прачытаць адзін і той жа радок: «У Вільні, Філарэцкая, 18, Марыя Мамчыц...»

Пані Скурко ці проста Скурчанка, якую згадвае ў сваім лісце Марыя Мамчыц, таксама фігуруе ў запісах Б. Тарашкевіча — і ўпамінаецца яна лідарам «Грамады» не два разы, а значна больш.

На 12-й старонцы можна даведацца, што клікаць яе таксама ж Марыя і што яна з'яўляецца студэнткай (мяркую, Віленскага ўніверсітэта), вывучае матэматыку на 3-м курсе.

А на 15-й старонцы пратакола ўжо адзначана, што студэнтка Скурчанка ў ліку іншых студэнтаў узята пад варту; думаецца, паліцыя тады і знайшла ў яе паперах згадку пра Марыю Мамчыц.

Як бачна, становішча было вельмі драматычнае.

Марыя Мамчыц (проста шкада яе!) спазналася з бядою, на некалькі дзён апынулася ў казённым доме, страціла працу, — «...асталася бяз усякіх матэрыяльных сродкаў...»

Яе ліст — крык душы!

У сваёй бядзе яна абвінавачвала лідара «Грамады» і з ім звязаную студэнтку, і, спачуваючы Марыі Мамчыц, былой працаўніцы Віленскай пошты, выхаванцы беларускай гімназіі, даводзіцца толькі пашкадаваць, што Б. Тарашкевіч і не падумаў нават хоць бы як зашыфраваць імёны і адрасы сваіх выканаўцаў.

Б. Тарашкевіча затрымалі, як вышэй адзначана, 5 лютага 1931 года, і ўжо праз тыдзень, 13 лютага, была забрана (і, трэба думаць, не толькі яна адна!) Марыя Мамчыц — яе арыштавалі яшчэ задоўга да таго, як запісамі неабачлівага нашага палітыка заняўся следчы Язэп Булгак, які перш за ўсё падкрэсліваў у гэтых злашчасных занатоўках — прозвішчы і адрасы.

Не чакаючы перакладу нататак Б. Тарашкевіча, як і не чакаючы вынікаў працы следчага Я. Булгака, паліцыя і па-беларуску расчытала тое, што трэ было расчытаць.

А следчы гарбеў над канфіскаванымі блакнотамі з 1-га і па 23 красавіка таго ж 1931 года — і менавіта 23 красавіка якраз і выйшаў «Беларускі Звон» з Марыіным пісьмом...

Здаецца, у гэтай драме ўсё ясна, але паўстаюць пытанні: «Ці сама Марыя Мамчыц напісала ліст у газету? А мо яе прымусіла гэта зрабіць дэфензіва?»

Мяркуючы па стылі, магчыма, нехта (хто не любіў Б. Тарашкевіча!) палітычна адрэдагаваў пісьмо, бо кідаецца ў вочы зусім «недзявочы» пафас публікацыі, асабліва яе канчатковы вынік: праца лідара «Грамады» і яму падобных не толькі не карысная, але і шкодная для беларускага народа!

Праясню гэтую думку: шкодная (на думку аўтаркі ці аўтараў?!) перш за ўсё таму, што Б. Тарашкевіч не йшоў на кампрамісы з уладай.

І тут зусім невыпадковым з'яўляецца тое, што выступленне Марыі Мамчыц надрукавана ў «Беларускім звоне» — рупары Цэнтрасаюза, структуры, якая якраз і спрабавала наладзіць супрацоўніцтва з Пілсудскім.

А яшчэ пытанні могуць быць і такія:

«Ці сапраўды М. Мамчыц вяла супольную працу з Б. Тарашкевічам? А мо і напраўду без яе згоды прозвішча Марыі было правакацыйна скарыстана, а сама яна з лідарам «Грамады» нават і знаёмай не была?!»

Адносна правакацыі скажу: так, Б. Тарашкевіч быў неабачлівы, часам да ўласнай згубы неасцярожным, аднак жа правакацыямі не займаўся; беларускія гімназісты яго любілі і самаахвярна яму дапамагалі.

Думаю, што і паштовая працаўніца Марыя Мамчыц уступіла ў небяспечную палітычную работу па сваёй волі, яе ніхто не прымушаў, яна ж «...усю сваю працу была гатовай аддаць на карысьць Краю і беларускаму народу...»

Аднак бяда перавысіла яе сілы, таму і ўзнік ён — адчайны ліст у «Беларускім звоне».

Зноў скажу: вельмі шкада дзяўчыну, і не схаваю прыкрай незадаволенасці палітыкамі: падстаўляючы свой лоб, не губіце пры гэтым чужыя душы...

### «Пясьняр вастрогу»

Словазлучэнне ўзята ў двукоссе не мной — такую атэстацыю паэт займеў ад свайго непрыяцеля Макара Краўцова (Касцевіча), які часам выступаў пад псеўданімам «Не-стары».

У сваім допісе-рэцэнзіі «З выдавецкай нівы» (газета «Родны край», № 4 (92), Вільня, 11 красавіка 1936 г.) «Не-стары» раскрытыкаваў Максіма Танка як творцу — ён, маўляў, не валодае ні граматыкай, ні беларускай мовай, ні рытмікай і сыпле сваёй «паэзіяй», як з мяшка.

Вядома ж, такое, мякка кажучы, недалікатнае выступленне зачапіла самалюбства маладога песняра, і ён тут жа адказаў «Не-старому» вершам «Крытык» (газета «Наша Воля», № 7 (8), Вільня, 2 траўня 1936 г.), эпіграфам да якога ўзяў радкі з непрыхільнай рэцэнзіі: «...дык здаецца, гэта ўжо ясна для кожнай вёскі...»:

*Як толькі падняўся наш крытык з калыскі,*
*хадзіці на задніх ён лапках пачаў,*
*няблага вылізваў панскія міскі*
*і косьці індычак з стала абгрызаў.*

*Падросшы, ён к людзям*
*пачаў прыглядацца*
*(ён сэрцам і носам круціў,*
*як хвастом),*
*навучыўся ён хутка кусаць,*
*агрызацца,*
*хадзіці з маленькім ад кляпай*
*значком.*

*Няраз яго гладзіла псярня*
*па твары,*
*таму, што кусацца ўмеў*
*найніжэй, —*
*бліщэў яго весела нос самаварам,*
*і поўная міска ляжала касьцей.*

*Памрэ, — пахаваюць. Засыпаць*
*паможам.*
*Усе вершаплёты прыйдзём*
*грамадой*
*і оду, як конскую скабу, паложым,*
*каб меў ён што грызьці*
*і там пад зямлёй.*

М. Краўцоў, крытыкуючы, заставаўся ўсё-ткі ў межах этыкі — Максім жа Танк, як бачна, гэтыя межы пераступіў.

Паводле паэта, ягоны крытык — сабачка, які перад панамі ходзіць на задніх лапках і мае то адзінкавыя «...косьці індычак...», а то нават і поўную міску касцей.

Відавочны намёк на пашпартнае найменне М. Краўцова — Касцевіч!

А яшчэ гэты крытык носіць пад штрыфлем (кляпай) маленькі значок — то-бок, з'яўляецца агентам дэфензівы!

Словам, адказ Максіма Танка выйшаў непрыгожы, нават вельмі непрыгожы, бо не быў патрыёт Беларусі М. Краўцоў сакрэтным супрацоўнікам польскай палітычнай паліцыі!

Што й казаць, пакрыўджаны аўтар верша ў сваім несамавітым вузкапартыйным пафасе хапіў цераз край!

За падобнае, дарэчы, выклікаюць на дуэль, і М. Краўцоў мог бы накіраваць Максіму Танку і картэль, бо меў схільнасць да дуэлей.

Аднойчы ж клікаў на двубой самога Анатона Луцкевіча!

*«Грамадзяніну Антону Луцкевічу.*

*Мы, ніжэй падпісаные, упаважнены Грамадз. [янінам. — Л. Д.-М.] Макарам Косьцевічэм перадаць Вам яго вызаў на паядынак за зьнявагу, зробленаю яму Вамі ўчора ўвечары 25-ІІІ-22.*

*Дзеля гэтага просім Вас сёньня 26-ІІІ-22 а 7 гадз. увечары прыслаць сваіх секундантаў у Бел. Муз. Др. Гурток[4] (Біскупская 12) для перагавораў.*

*Палк.[оўнік] Канапацкі,*
*В. Більдзюкевіч.*
*26-ІІІ-22,*
*Вільня,*
*1 гадзіна папалудні» (LCVA F. 281, Ap. 2, B. 32, L. 67).*

Такое трывожнае пасланне Антону Луцкевічу — тварцу нашай нацыянальнай дзяржаўнасці, падпісанае беларускім вайскоўцам Гасанам Канапацкім і нейкім В. Більдзюкевічам (у 1920-я гады на віленскім грунце быў вядомы каапературы і эканаміст Адам Більдзюкевіч).

Гэтыя людзі выступілі пасярэднікамі М. Краўцова.

Дык што здарылася «...учора ўвечары 25-ІІІ-22...»?

Заўважу, здарылася не ў будзень, а 25 сакавіка — на святкаванні чатырох угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі!

Гэта, безумоўна, тэма асобнага твора, таму, не паглыбляючыся ў яе, коратка скажу: тады, за святочным сталом, гарачы М. Краўцоў з намерам папракнуў А. Луцкевіча, што той упачатку 1919 года на Парыжскую мірную канферэнцыю збіраўся ехаць з літоўскім пашпартам.

Як, маўляў, кіраўнік беларускай дэлегацыі (ён жа кіраўнік беларускага ўрада!) мог пайсці на такое?!

М. Краўцоў знарок маленькую праўду прысыпаў вялікай няпраўдай, бо А. Луцкевіч, просячы літоўскі пашпарт, усё-ткі прыехаў у Парыж з іншым дакументам — не літоўскім.

Успыхнула спрэчка, падобная на сварку.

Баронячы сябе, А. Луцкевіч нагадаў М. Краўцову, як ён 24 сакавіка 1918 года ўсё яшчэ вагаўся: галасаваць за незалежнасць Беларусі ці не галасаваць...

Такая была прычына той дуэлі, якая, дзякаваць Богу, не адбылася, і не адбылася, мусіць, таму, што А. Луцкевіч пільнаваўся саслоўных правілаў (шляхціц не павінен прымаць выклік мужыка!), таму М. Краўцоў ягоных секундантаў так і не дачакаўся.

Не завяршылася паядынкам і сварка М. Краўцова з Максімам Танкам, аўтар публікацыі «З выдавецкай нівы» стрымаў сябе, што таксама добра.

Пэўна, «Не-стары» палічыў, што ён, чалавек з вайсковым вопытам, не павінен страляць у паэта, які не служыў у арміі.

1 Газета «Беларускі Звон», № 9, Вільня, 23 красавіка 1931 г., с. 4; правапіс захаваны.
2 Гаворка тут пра 1931 год.
3 Мусіць, прозвішча надрукавана ў газеце з памылкай, бо па-беларуску трэба ўсё ж пісаць без мяккага знака — Мамчыц.
4 Маецца на ўвазе Беларускі Музычна-Драматычны Гурток у Вільні.

# Кнігіня ў крышталёвым садзе

**Абсалютная свабода ад умоўнасцяў — такая рэдкая з'ява, што сутыкаючыся з ёю, бянтэжышся. Кацярына Лях (Радыё Свабода) піша пра зборнік Людкі Сільновай (серыя Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»).**

«Горад Мілаград» — апафеоз унутранай разняволенасці, якая выліваецца ў неапісальным захапленні жыццём. Між радкоў чытаеш яшчэ й абыякавасць аўтаркі да меркаванняў занудлівых крытыкаў. Нават чытач тут — элемент неабавязковы. Песня нарадзілася — і ўсё на тым. Нехта пачуў? Добра. Пры тым, што гэта добра не аўтарцы, а таму, хто пачуў. Ёй і так хораша.

Гэта кніга, у якой першасныя не вершы, а сам аўтар, унікальнае светабачанне.

Вядома: мастака ад рамесніка-пачаткоўца адрознівае ступень разняволенасці. Ёсць такія творы, дзе ўсё роўна і гладка. Радкі падагнаныя, рыфмы дакладныя. Пад шкло і любавацца. Праўда, любавацца чамусь не хочацца. Бо ёсць у няправільнасці (умоўнай, вядома, бо што такое правільна?) нешта ад таямніцы сусвету. Радкі, «быццам гук вандроўнай ліры, лёгкі, як уздых зямлі».

Дзіця танцуе так, быццам ніхто яго не бачыць. Людка Сільнова гэтаксама высноўвае паэзію. Яе дзіцячасць паўстае дзяцінствам чалавецтва, яго светлай парой, калі ўсё было цудам, калі кожны, без пасрэдніцтва «спецыяліста», мог размаўляць з Найвышэйшым (няважна — чым менавіта), дзе кожны быў шаман і творца. Незакаснелы погляд на свет зачароўвае і нават трошку палохае, бо ты выходзіш за межы лагічнай сувымернасці рэчаў, мусіш даверыцца інтуіцыі, ісці наўслеп, арыентуючыся адно на голас аўтара.

Падганяць вершы Людкі Сільновай пад адну характарыстыку — значыць паводзіцца несумленна. Альбомныя накіды і баладныя стылізацыі, оды пабытавым радасцям і лірычныя шчырасці, жаночыя споведы побач з міфамі ды казкамі — здавалася б, дэструктыўная для зборніка сумесь. І ўсё ж суседства такіх твораў больш чым гарманічнае: яны вырастаюць з аднаго міфатворчага кораню.

Міфалагічнае мысленне Людкі Сільновай — з'ява ўнікальная. Зазвычай аўтар, які прагне казкі, вяртаецца ў мінуўшчыну, адпрэчвае выгоды сённяшняга часу на карысць цудам сівой даўніны. Людка Сільнова перавярнула звыклую схему дагары нагамі: без вяртання ў старадаўні час перакройвае сучаснасць. Сённяшні Менск робіцца такім жа загадкавым, як суворыя замкі сярэднявечча, як ваўчыная Вільня, як велічны Полацак часоў нараджэння княства. Вокладка дае ўяўленне пра Мілаград як пра горад міфічны, фэнтэзійны. Змест раскрывае адваротнае: Мілаград — сучасны горад, убачаны вачыма чалавека па-за часам.

Так, гэта кніга пра наш час, напісаная госцяй з мінуўшчыны (ці іншай планеты?). Так меркаваць пра аўтарку дазваляе яе адмысловы светапогляд. Казачнасць — але не інфантыльнасць, што прыводзіць да эскапізму. Жыццё ў сваім міфалагізаваным вымярэнні для аўтаркі не эскапізм, а цалкам натуральная рэч. Што само па сабе — фантастыка.

Усведамленьне такога дзіва адварочвае ўсякае жаданне разважаць пра літаратурныя якасці зборніка і абстрактны мастацкі ўзровень. Зразумела, у любым зборніку любога аўтара, без выключэнняў, будуць творы-вяршыні і прахадныя тэксты.

Мяне цікавіць іншае. Чаму так узрушваюць гэтыя вершы, часам камічныя, часам узвышаныя, часам амаль дзіцячыя? І, здаецца, справа вось у чым. Большасць паэтаў (вызначэнне ўмоўнае і ўзятае дзеля зручнасці), выбітных, геніяльных, вытанчаных, а з імі — натоўп эпігонаў, глядзіць на свет з аднаго ракурсу ці хоць бы прыкладна на адным узроўні. Яны бачаць адну і тую ж карцінку і сілу таленту прыкладаюць на тое, каб па-свойму яе апісаць. Любяць ці не любяць рыфму, расстаўляюць у рознай чарговасці паняткі «Бог — любоў — Радзіма — паэт», звяртаюцца да набыткаў папярэднікаў ці ідуць на злом галавы — у выніку мы бачым адзін і той жа свет. Людка Сільнова нейкім чынам не патрапіла на гэтую сярэднестатыстычную лінію агляду. Ракурс яе бачання зусім іншы.

Творчасць паэткі звышсугестыўная. Дасягаецца такі эфект проста: яна пераносіць чытача ў свой свет замест таго, каб тлумачыць, як жа яго адкрыць. Тут як з урокамі плавання: вам не тлумачаць, як навучыцца, не распісваюць рухі ў тэорыі — вывозяць на сярэдзіну ракі і кідаюць на хвалі. Плыві!

Ёсць у вершах Людкі Сільновай нешта ад паэзіі «блажэнных». На розум прыходзіць выказванне Ахматавай пра «сор», з якога растуць вершы. Але датычна кнігі Сільновай яно будзе жудасна несправядлівым: у яе свеце «сору» папросту не існуе. Ёсць рэчы без ацэнкі, і кожную ты бачыш нібы ўпершыню. Людка Сільнова абнуляе звыклую шкалу каштоўнасцяў і наноў называе рэчы, надаючы кожнай абсалютную вартасць.

Усё гэта магло б павярнуцца творчай катастрофай, калі б не выключная натуральнасць




гучаньня верша, надзвычайнае валоданне аўтаркі гукапісам. Непадробнасць гэтая адчуваецца інстынктыўна. Тут як у Станіслаўскага: вершы альбо не. То бок, вершы.

У Насты Кудасавай, якая таксама перастварае свет вербальна, ёсць вершы замовы, народжаныя пачуццём і жаданнем яго абараніць. У Людкі Сільновай жа замовы — стыль расповеду. Кожная рэч — ад гораду ў цэлым да асобнай кветкі — сцвярджаецца ў рэальнасці праз магічны спеў. Людка Сільнова прыроджаны містык.

*Твайго мяча*
*Жалезныя карункі*
*Зазналі смерць*
*У часу пацалунках...*
*Куды цяпер*
*Набор крывых манет?..*
*Крану рукой*
*Шурпаты твой партрэт.*

Балада пра спачылага героя? Спеў засмучанай каханкі?

Усяго толькі паход у музей. Без пазнакі аўтарства асобныя тэксты можна лёгка прыняць за адаптаваныя для сучаснага чытача старажытныя хваласпевы.

Любую падзею яна апявае нароўні з вялікай бітвай ці іншым пераломным момантам у біяграфіі чалавецтва. Акром жартаў: прагляд тэлевізара перад сном па гучанні не саступае асобным фрагментам «Песні песняў». Бібліятэка — месца працы — ператвараецца ў княжнае княства таемнасці, дзе сама Сільнова — кнігіня. З такім пафасам паэты даўніны ўсхвалялі Александрыю, ці старажытную Трою, ці Дэльфы. І ўсё гэта — без адцення іроніі. І ўсяму вершы.

Цэласнасць фантастычнага свету Сільновай пацвярджаецца яшчэ і тым, што горад у яе не супрацьпастаўляецца прыродзе: ён лагічны працяг светастварэньня.

Зборнік жыве адзіным рытмам (многія вершы паўтараюць адзін і той жа памер), што сведчыць, аднак, не пра творчую зашоранасць аўтара ці абмежаваны тэхнічныя магчымасці, а пра суцэльнасць яе творчага свету.

Адна суцэльная песня, «адвечная песня» — але не барацьбы чалавека за існаванне, а гармоніі са светам і Часам.

# «Неадступнасць» Міколы Гіля

**Калі б аўтарам гэтай кнігі быў малады паэт, то выданне можна было б смела назваць эксперыментальным.**

Маўляў, творца сам сабе кінуў выклік ці пабіўся аб заклад з калегам, што здолее ўкласці цэлую кнігу толькі з васьмірадкоўяў, пры гэтым кожны верш мусіць складацца з двух чатырохрадковых слупкоў.

Аматары лаканічнай формы толькі пасміюцца, маўляў, ніякі гэта не выклік, і не эксперымент, а звыклы стыль. Але для творцаў, якія маюць схільнасць да пісання доўгіх вершаў ды паэм, гэта можа стацца складанай задачай: як у такім маленькім аб'ёме змясціць усё багацце смелых вобразаў і новых ідэй? Але Мікола Гіль у сваёй кнізе паэзіі даказвае, што ўсё цалкам магчыма...

Ёсць тут і развагі пра сучаснасць, нават заўвагі нашаму часу і маладому пакаленню. Ёсць замалёўкі-пейзажы і роздумы пра лёс радзімы. А ёсць і глыбока асабістыя вершы, што адкрываюць пачуцці лірычнага героя ў сучаснасці ці праз успаміны пераносяць у гады яго маладосці. Так, чытач адразу адчувае, што аўтар — сталы чалавек. Ён жыве клопатам пра дзяцей і ўнукаў, схільны хутчэй падводзіць жыццёвыя вынікі, чым будаваць планы на будучыню. А яшчэ — ён мастак, здольны пабачыць прыгажосць нават у дробязях, і выдатны філосаф, мудрэц, чыя мудрасць падмацоўваецца жыццёвымі назіраннямі. Паэт разважае не толькі пра бытавыя рэчы, зямныя, але і пра больш узвышаныя, філасофскія паняцці, напрыклад, суаднясенне ўзросту чалавека і хуткасці бегу часу...

Вершы Міколы Гіля з кнігі «Неадступнасць» — цалкам традыцыйныя для беларускай паэзіі. Строгі памер, рыфма. І так — страфа за страфой, верш за вершам. Сумна? Не. Так, тут ёсць пэўная аднастайнасць, але яна — зусім не хіба кнігі. Гэта пазнака таго, што аўтар умее сказаць свае слова, выказваючы павагу да творцаў-папярэднікаў, ён здольны выказаць уласную думку і не пакрыўдзіць тых, хто побач. І гэта не імкненне быць падобным да іншых, не жаданне зліцца з натоўпам, а вялікая творчая мудрасць, тактоўнасць. Гэтыя рысы — прыкметы голасу сталага паэта, якому для таго, каб прамаўляць гучна і цвёрда, не патрэбныя эксперыменты. Трэба толькі быць верным. Перадусім — сабе.

**Марына Весялуха, «Звязда»**

# «Саркафагі страху» Міхася Скоблы

**У выдавецтве «Кнігазбор» — новая кніга: пад адной вокладкай сабраліся ўспаміны і эсэ вядомага паэта і журналіста Міхася Скоблы. Зборнік «Саркафагі страху» стаў 84-м выпускам Бібліятэкі СБП «Кнігарня пісьменніка».**

«Саркафагі страху» Міхася Скоблы — творчая справаздача за апошнія дзесяць з лішкам гадоў літаратурнай працы, у тым ліку і як палеміста (на хвалях Беларускай службы «Радыё Свабода»), і як гісторыка літаратуры, укладальніка шэрагу кніг спадчыны беларускіх аўтараў. Як блогер, Міхась Скобла выбірае тэмы прыкметных праяваў абсурду ў сучаснай дзяржаўнай культурнай палітыцы — недабудаванасць нацыянальнага праекту і вечная асцярожнасць дзяржаўнай ідэалогіі, дваістасць стаўлення да беларускага ў беларускіх дэ-юрэ ўладаў, пастаяннае ігнараванне найвыдатнейшых постацей айчыннай культуры — усе гэтыя паказальныя рухі ўладных культуртрэгераў абавязкова трапляюць у поле зроку Міхася Скоблы.

Шмат старонак у кнізе аддадзена і памятным старонкам: успамінам пра нядаўна адышоўшых аўтараў Беларусі і Украіны: Змітра Сідаровіча, Івана Лепешава, Уладзіміра Дамашэвіча і інш. Знаходзіцца месца і нататкам на палях прачытаных кніг, водгукам на зборнікі вершаў і гістарычныя даследаванні, падарожным нарысам.

Немалая частка кнігі прысвечана Ларысе Геніюш, што і зразумела: якраз у апошняе дзесяцігоддзе Міхась Скобла стаў найбольш вядомым даследчыкам зэльвенскай аўтаркі — падрыхтаваў да друку некалькі тамоў ейнай перапіскі, двухтамовік выбраных твораў і аднатамовік у «залатой» серыі «Беларускага кнізабора», кнігу ўспамінаў і персанальны выпуск біяграфічнага альманаха «Асоба і час» пра Ларысу Геніюш. Шматгадовая праца над біяграфіяй і творчасцю Л. Геніюш спарадзіла безліч назіранняў, знаходак і нечаканых адкрыццяў, якія неадменна спадарожнічаюць напружанаму пошуку — яны адлюстраваны ў найбольш аб'ёмным тэксце кнігі — «Чайка з лётам арліным».

Напісаныя выдатным стылістам, эсэ Міхася Скоблы стануць добрым падручнікам беларускай мовы для тых маладых журналістаў, хто толькі пачынае пісаць і прадумвае свае першыя аналітычныя артыкулы.

**Прэс-служба СБП**




# Прэмія «Angelus»

**Абвешчаны новы лаўрэат літаратурнай прэміі Сярэдняй Еўропы «Angelus». Па рашэнні журы ім стаў пісьменнік Варужан Васганьян (за «Кніга шэптаў»).**

Імя пераможцы было агучана 15 кастрычніка на традыцыйнай штогадовай урачыстасці ў музычным тэатры «Capitol» ва Уроцлаве.

На прэмію сёлета прэтэндавалі сем кніг: М. Хэн, А. Янка (Польшча), У. Някляеў (Беларусь), К. Сабаляўскайтэ (Літва), А. Шляпікас (Літва), К. Тэодарэску (Румынія) і Варужан Васганьян (Румынія).

Літаратурная прэмія Цэнтральнай Еўропы «Angelus» прысуджаецца за найлепшую кнігу, якая выйшла па-польску ў папярэдні год. Выдаўцы могуць вылучаць на яе жывых аўтараў з 21 краіны Цэнтральнай Еўропы. Грашовая ўзнагарода прэміі — 150 тысячаў польскіх злотых (38 700 даляраў ЗША).

Прэмія «Angelus» прысуджаецца з 2006 года. Яе лаўрэатамі былі Юры Андруховіч, Святлана Алексіевіч, Міленка Ергавіч, Аксана Забужка, Сяргей Жадан.

Сёлета ўжо трэці год паралельна з прэміяй «Angelus» шляхам інтэрнэт-галасавання сярод удзельнікаў шорт-ліста вызначаецца лаўрэат прэміі імя Наталлі Гарбанеўскай. Сёлета пераможцам таксама стаў Варужан Васганьян.

# 90-гадовы Віні-Пух — па кіргізску

**У дзень нараджэння Віні-Пуха «Sputnik Кыргызстан» апублікаваў у «Facebook» відэа з культавым мядзведзем, які спявае па-кіргізску.**

Ролік выкладзены ў пятніцу, 14 кастрычніка. У гэты дзень створанаму ангельскім пісьменнікам Аланам Мілнам персанажу споўнілася 90 гадоў: першая кніга пра Віні-Пуха паступіла ў продаж 14 кастрычніка 1926 года. Сваё імя Віні-Пух атрымаў ад адной з цацак сына пісьменніка — Крыстафера Робіна. Медзведзяня стала адным з самых вядомых герояў дзіцячай літаратуры ХХ стагоддзя.



У 1929 годзе Алан Мілн прадаў правы на камерцыйную эксплуатацыю вобраза Віні-Пуха амерыканскаму прадзюсару Стывену Шлезінгеру, а затым іх атрымала студыя «Walt Disney», якая зрабіла яго героем сваіх мультфільмаў.

У колішнім Савецкім Саюзе гэтае медзведзяня стала вельмі папулярным пасля таго, як Барыс Заходэр пераклаў працы Алана Мілна (у 1960 годзе выйшла яго кніга «Віні-Пух і ўсе-ўсеўсе»), а таксама дзякуючы экранізацыям студыі «Саюзмультфільм».

# Памёр Дарыё Фо

**Італьянскі пісьменнік і драматург, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Дарыё Фо памёр ва ўзросце 90 гадоў. Пра смерць Фо абвясціў урад Італіі.**

Прэм'ер-міністр Італіі Матэа Рэнці адзначыў, што з сыходам Фо «краіна страціла найбуйнейшую постаць у культурным жыцці».

Прычына смерці нобелеўскага лаўрэата пакуль не паведамляецца, аднак вядома, што ў канцы верасня ён быў шпіталізаваны ў адну з бальніц Мілана.

Дарыё Фо атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры ў 1997 годзе.

# Апазіцыянер цара, сябар прэзідэнту

**У публічных выступах прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін неаднаразова цытаваў вершы Лермантава.**

Аглядальнік «Газеты.Ru» Аляксандр Братэрскі паспрабаваў растлумачыць, як трэба разумець такую прыхільнасць першай асобы дзяржавы менавіта да гэтага рускага класіка. Прэзідэнт Уладзімір Пуцін распавёў на сустрэчы з настаўнікамі, што ў яго на стале пастаянна ляжыць кніга Лермантава, і ён звяртаецца да яе, каб адарвацца ад будзённасці. Падобна, што Лермантаў сапраўды любімы паэт Пуціна — ён неаднаразова цытаваў яго ў сваіх выступах.

Пуцін прызнаўся, што яму даводзіцца часта чытаць «тое, што ён не любіць», аднак Лермантава чытае з ахвотай: «Лермантаў — для таго, каб падумаць пра штосьці і трапіць у іншы свет — карысны, прыгожы і цікавы», — сказаў Пуцін.

Пра рускага паэта Пуцін узгадаў, адказваючы на пытанне аднаго з удзельнікаў сустрэчы з лаўрэатамі Усерасійскага конкурса «Настаўнік года Расіі». Пуцін не растлумачыў, ці мае ён на ўвазе вершы паэта, ці яго знакаміты раман «Герой нашага часу», ці п'есы. Варта адзначыць, што ў мінулым годзе ў гонар 200-годдзя Лермантава ён наведаў музей-запаведнік «Тархан» у Пензенскай вобласці, а на адным з мітынгаў у сваю падтрымку ў 2012 годзе цытаваў Лермантаўскае «Барадзіно»: «Умремте ж под Москвой, как наши братья умирали! И умереть мы обещали, и клятву верности сдержали мы в Бородинский бой».

У. Пуцін выкарыстаў таксама вядомую фармулёўку Лермантава з тэкста ў памяць вайны 1812 года. Гаворачы пра сучасную сітуацыю, У. Пуцін заявіў: «Бітва за Расію працягваецца».

Успомніў прэзідэнт пра Лермантава і падчас вялікай прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанне карэспандэнта «Газета.Ru», каго ён лічыць «нацыянал-здраднікамі»: «Мы ўсе памятаем радкі Лермантава, як ён пра Барадзіно пісаў«Умремте ж под Москвой, как наши братья умирали!». Але ён пісаў і іншае: «Прощай, немытая Россия, страна рабов, страна господ, и вы, мундиры голубые, и ты, им преданный народ». Пуцін адзначыў, што Лермантаў быў «апазіцыянерам», «забастрыўшы» «Смерць паэта», звяртаючыся да тагачасных уладаў: «И вы не смоете всей вашей черной кровью поэта праведную кровь». «Ён, вядома, быў апазіцыянер да ўлады. Але я лічу, што ён быў патрыётам. Гэта вельмі тонкая грань. Бо ён быў афіцэр, быў вельмі смелы афіцэр, адважны, пад кулі ішоў за інтарэсы краіны», — сказаў Пуцін пра Лермантава на прэс-канферэнцыі 2014 года.

Верш «Смерць паэта», прысвечаны гібелі Пушкіна, як вядома, выклікаў абурэнне Мікалая І. Лермантаў быў арыштаваны і адпраўлены ў ссылку на Каўказ.

Гаворачы пра Лермантава на сустрэчы з настаўнікамі, Пуцін зноў згадаў верш «Бывай, нямытая Расія». Ён адзначыў, што гэта напісана «па дарозе на Каўказ, куды паэт ехаў змагацца за інтарэсы Расіі».

На думку палітолага Канстанціна Калачова, «інтарэс Пуціна да Лермантава — яшчэ адзін доказ складанасці ўнутранага свету прэзідэнта, у якім ёсць месца рэфлексіі».

Эксперт лічыць, што «творчасць Лермантава можна смела рэкамендаваць усім пуціназнаўцам, якія спрабуюць разабрацца ў псіхалогіі УУП».

Заходнія эксперты даўно даюць такія парады тым, хто хоча зразумець і Расію, і яе прэзідэнта. Былы камандуючы сіламі НАТА ў Еўропе генерал Джэймс Стаўрыдзіс у сваім артыкуле ў часопісе «Foreign Policy» адзначыў, што руская літаратура дапамагае лепш зразумець краіну, чым любая закрытая інфармацыя ЦРУ: «Праваслаўная вера і перакананасць у цяжкім лёсе, а таксама выратоўнай моцы чорнага гумару — усё гэта праходзіць скрозь рускую літаратуру. І ўсё гэта падыходзіць Уладзіміру Пуціну», — піша Стаўрыдзіс. Пры гэтым апанент Пуціна ўкраінскі прэзідэнт Пётр Парашэнка аддае перавагу творчасці Маякоўскага. Падчас святкавання Дня незалежнасці рэспублікі ён вымаўляў радкі паэта: «Товарищ москаль, на Украину зубов не скаль» з паэмы «Доўг Украіны».



Марына Цвятаева з мужам і дзецьмі. 1925 г.

Фота www.photo.tsvetayeva.com

# Архіў Марыны Цвятаевай

**Дом-музей Марыны Цвятаевай атрымаў у дар лісты паэткі і яе мужа Сяргея Эфрона, адрасаваныя сям'і Богенгардт.**

25 рукапісных пасланняў у канвертах захоўваліся ў сям'і сваяка Богенгардтаў Аляксандра Скрабіна і ніколі раней не публікаваліся і не паказваліся публіцы.

Перапіска ахоплівае 16 гадоў — з 1922 па 1938-ы. Яна пачалася ў цяжкі для М. Цвятаевай перыяд жыцця: у 1922 годзе сям'я вымушана прыняла рашэнне пераехаць у Прагу. Большая частка лістоў напісана самой паэткай, дзевяць адправіў Эфрон, а тры яны напісалі разам.

Доўгія гады рукапісныя тэксты знаходзіліся ў Францыі. На ўрачыстай цырымоніі перадачы лістоў акторка Аліса Грабеншчыкова прачытала некалькі ўрыўкаў з іх.

Усе пасланні з канвертамі былі набыты банкам ВТБ у жніўні 2016 года. «Цяпер галоўная задача — увесці гэтыя лісты ў навуковы ўжытак», — адзначыў А. Скрабін. Паводле яго слоў, ён яшчэ ў 2003 годзе задумаўся пра вяртанне лістоў з Францыі ў Расію, але для ажыццяўлення ідэі патрабавалася шмат часу.

31 жніўня — дзень памяці Марыны Цвятаевай, якая скончыла жыццё самагубствам у Елабузе ва ўзросце 49 гадоў. У наступным годзе будзе адзначацца 125-годдзе з дня нараджэння паэткі.

# «Новая дзіцячая кніга»

**VII штогадовы расійскі літаратурны конкурс «Новая дзіцячая кніга» абвясціў пераможцаў, паведаміла «Лента.Ру».**

Урачыстая цырымонія ўганаравання фіналістаў і пераможцаў адбылася ў Расійскай дзяржаўнай дзіцячай бібліятэцы. Конкурс праходзіў у трох асноўных намінацыях («Пазакласныя гісторыі», «Свет фэнтэзі», «Новая дзіцячая ілюстрацыя») і адной спецыяльнай («Родная прырода»).

У намінацыі «Пазакласныя гісторыі» перамагла Таццяна Русакова з Новасібірска. У намінацыі «Свет фэнтэзі» — Міла Юрына. У намінацыі «Новая дзіцячая ілюстрацыя» прэмію атрымала Іна Папаратная з Гродна.

Пераможцы атрымалі кантракт з выдавецтвам «Росмэн» на выданне рукапісу ці на ілюстраванне будучай кнігі.

На конкурс паступіла 3150 заявак з 40 краін свету.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



**Малдова, паводле Канстытуцыі, — парламенцкая рэспубліка, і таму ўсе ключавыя рашэнні прымаюць парламент і ўрад. У прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы, на самай справе, не так шмат паўнамоцтваў**

# Калі прэзідэнт — не прэзідэнт

Алег НОВІКАЎ

**Малдова ўпершыню за 20 гадоў будзе абіраць прэзідэнта ўсеагульным галасаваннем. Выбары пройдуць 30 кастрычніка. Але шмат хто лічыць гэта рэгрэсам. Сітуацыю «Новаму Часу» тлумачыць малдаўскі грамадскі актывіст Сяргей Грыгарчук.**

***— Канстытуцыйны суд Малдовы 5 сакавіка аднавіў ранейшую форму абрання прэзідэнта: цяпер яго будзе абіраць не парламент, а народ усеагульным галасаваннем. Навошта спатрэбілася рэформа?***

— Наогул, змяніць Канстытуцыю ў Малдове можна толькі двума шляхамі: альбо з дапамогай рэферэндуму, альбо галасаваннем 67 са 101 дэпутата парламента. У абодвух выпадках гэта доўгая працэдура, якая займае не менш за паўгода. І тут адбываецца сюрпрыз. 5 сакавіка Канстытуцыйны суд адмяняе цэлыя раздзелы дзеючай Канстытуцыі і ўводзіць наўпраставае абранне прэзідэнта. Чаму? Відавочна, што рашэнне пра ўсеагульнае галасаванне было саступкай для апазіцыі, спробай збіць рытм пратэстаў, якія ахапілі краіну супраць так званага «крадзяжу стагоддзя» — знікнення з рахункаў малдаўскіх банкаў каля мільярда еўра. Дасюль шмат хто лічыць, што апазіцыя дапусціла памылку, калі пагадзілася прыпыніць пратэсты ўзамен на рэформу, пагналася за нічога не вырашальнай, але знешне прэстыжнай пасадай прэзідэнта.

***— То бок, прэзідэнт у Малдове — фігура прадстаўнічая?***

— Малдова, паводле Канстытуцыі, — парламенцкая рэспубліка, і таму ўсе ключавыя рашэнні прымаюць парламент і ўрад. У прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы, на самай справе, не так шмат паўнамоцтваў. Ён нават не мае права накладаць вета на рашэнне дэпутатаў. Без перавыбараў парламента нічога ў краіне не зменіцца. Нават калі аднаму з апанентаў улады і пашанцуе, і ён усё ж стане прэзідэнтам, гэтая асоба не будзе асабліва бянтэжыць рэжым, таму што распусціць парламент без ухвалення таго самага Канстытуцыйнага суду немагчыма. Такім



**Самы вялікі рэйтынг у Дадона, які мае імідж прарасійскага палітыка**

чынам, любы вынік галасавання стабілізуе становішча яшчэ як мінімум на два гады, да наступных парламенцкіх выбараў.

***— Тым не менш, 11 чалавек падаліся кандыдатамі ў прэзідэнты Малдовы. Хто з іх мае шанцы стаць гарантам?***

— Усур'ёз разглядаюцца тры кандыдаты: Ігар Дадон з партыі сацыялістаў, патрыярх мясцовай палітыкі Марыян Лупу (Дэмакратычная партыя Малдовы) і, нарэшце, новая зорка ў лагеры дэмакратаў — Майя Санду. На цяперашні момант самы вялікі рэйтынг у Дадона, які мае імідж прарасійскага палітыка.

***— Што, у двух словах, прапануе фаварыт выбарчай кампаніі?***

— У Дадона вельмі радыкальная геапалітычная фразеалогія. Дастаткова сказаць, што ён абяцае нават скасаваць асацыяцыю краіны з ЕС і пераарыентацыю на Еўразійскі эканамічны саюз. Лідар сацыялістаў таксама абяцае вырашыць прыднястроўскае пытанне праз вяртанне да «плану Козака» — стварэння Малдоўскай федэрацыі, дзе адным з суб'ектаў будзе не прызнанае сёння Прыднястроўе. Аднак да ўсіх гэтых абяцанняў трэба ставіцца вельмі асцярожна. Дадон — стары сябра малдоўскай карумпаванай палітычнай сістэмы. Трэба ўлічыць досвед камуніста Вароніна, які дзесяць гадоў таму абяцаў нешта падобнае, а пасля, стаўшы прэзідэнтам, нічога не рэалізаваў, «кінуўшы» Крэмль. Прынамсі, у маскоўскай прэсе асаблівага аптымізму наконт фігуры Дадона няма. Нават сцвярджаюць, што малдоўская дзяржава не адбылася, і гэта так званы «failed state».

***— Такія ацэнкі характэрныя і для аматараў рэінтэграцыі Румыніі і Малдовы. Між тым вядома, што ў 2018-м будзе адзначацца сотая гадавіна анексіі Малдовы Румыніяй. Пад гэтую дату ў Бухарэсце некаторыя палітсілы рыхтуюць рымейк аб'яднання. Ці гучаць падобныя лозунгі падчас цяперашняй кампаніі?***

— Лібералы былі ў апараце кіраўніцтва рэспублікі на працягу апошніх шасці гадоў. У сувязі з гэтым праект уніі з Румыніяй і інтэграцыі ў Еўрасаюз, безумоўна, страціў некаторую прывабнасць. Акрамя таго, самі лідары юніяністаў дапускаюць вельмі маргінальныя заявы. Нядаўна Міхаіл Гімпу (лідар лібералаў) паабяцаў, што наступным крокам пасля аб'яднання Малдовы і Румыніі стане высоўванне тэрытарыяльных патрабаванняў да Украіны. Наўрад ці такія выбрыкі вітаюцца ў Еўропе. Аднак на самай справе праект «уніі» сапраўды на вачах рэалізуецца. Як жартуюць малдаване, краіна і так усё больш нагадвае Румынію, праўда, 30-х гадоў ХХ стагоддзя, калі ў Малдове былі толькі школы з чатырма класамі навучання.

***— Асноўным кандыдатам ад дэмакратаў выступае 43-гадовая Майя Санду. Гэта новае імя на палітычным рынку Малдовы. Хто яна такая, і ці здольная надаць новы імпульс руху за еўраінтэграцыю?***

— Майя Санду ўвайшла ў малдаўскую палітыку параўнальна нядаўна: чатыры гады таму, стаўшы ў ліпені 2012-га міністрам адукацыі. Пасля з'ехала ў ЗША, адкуль нечакана вярнулася ў статусе новага перспектыўнага палітыка. Асноўны пастулат яе праграмы — неабходнасць змяніць карумпаваны палітычны клас, які тармозіць рэформы. У выпадку перамогі яна абяцае перамены, якія забяспечаць празрыстасць дзяржаўнай вертыкалі. Пра яе перспектывы казаць занадта рана, паколькі не паспела яна сунуцца ў палітыку, як на яе пайшоў кампрамат, які можа шмат ёй каштаваць. Напрыклад, раптам стала вядома, што Майя чамусьці не мае арыгінала дыплому пра заканчэнне ВНУ. Ёсць яшчэ адзін момант. Інстытуцыйныя рэформы — інстытуцыйнымі рэформамі, але краінай трэба кіраваць зараз. Таму на Захадзе, падаецца, шукаюць кампрамісу з цяперашняй карумпаванай групоўкай алігарха Плахатнюка, якая, дэ-факта, кантралюе дзяржаўныя структуры.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Украіна, багатая прыроднымі рэсурсамі, вымушана закупляць паліва ў Беларусі — краіны, у якой няма ўласнай нафты. Беларускія НПЗ, у адрозненне ад украінскіх, рэнтабельныя і працуюць. Таму што замест палітычных лозунгаў Лукашэнка кіруецца прагматыкай. Мінск змог дамовіцца з Расіяй, якая пастаўляе ў Беларусь нафту бяспошлінна. Плюс Беларусь зарабляе мільярды долараў на перапродажы сваіх нафтапрадуктаў у трэція краіны, у тым ліку ва Украіну.

**«Взгляд» (Расія)**

У Еўракамісіі разгледзяць пытанне пра поўнае скасаванне санкцый супраць Беларусі. Гэта рашэнне ЕС было чаканым і прагназавалася. ЕС зрабіў высновы са сваёй няўдалай, калі не сказаць праВальнай, палітыкі ў Беларусі. Яны зразумелі, што для таго, каб уплываць, трэба мець розныя формы адносін.

**«Сегодня» (Украіна)**

Беларусь нагадвала Украіну, таму што мела ўласныя рэспубліканскія інстытуты і ідэнтычнасць, адрозную ад савецкай. У той жа час Беларусь адрознівалася ад Украіны. У ёй не было дысідэнцкага руху ў часы СССР. А ва Украіне дысідэнтаў было больш за ўсе савецкія рэспублікі — прапарцыйна колькасці насельніцтва. Гэтыя адрозненні захаваліся пасля калапсу СССР. Савецкі беларускі нацыяналізм Аляксандра Лукашэнкі заўсёды быў больш папулярны, чым этнічны нацыяналізм і патрыятызм апазіцыйных груп. Ва Украіне ж савецкая ідэнтычнасць была запатрабаваная толькі на Данбасе і ў Крыме.

**«Газета» (Украіна)**

З нашага пункту гледжання, пасля змены палітычнага кіраўніцтва ў Беларусі канфлікт «беларусы vs. літвіны» істотна абвострыцца. (...) Праблема, аднак, у тым, што акрамя «заходнікаў» прыйсці да ўлады няма каму. Так, на дадзены момант найбольш верагодным пераемнікам Лукашэнкі бачыцца цяперашні міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, які ў 2013 годзе не выключыў, што Беларусь у агляднай будучыні можа ўступіць у Еўрапейскі саюз.

**«Четыре пера» (Расія)**

Кажуць, што Крэмль распрацаваў план падзелу Беларусі на дзве часткі. Як Украіна падзяляецца на Захад і Усход, так падзяляецца і Беларусь. Віцебск, Гомель і Мінск — гэта «рускі мір», а Брэст і Гродна — Захад. Такі сцэнар магчымы толькі пасля смерці або ліквідацыі Лукашэнкі. Беларускі лідар — аўтарытарны палітык. Ён сканцэнтраваў усю паўнату ўлады ў краіне. Сістэма пабудавана так, што важныя рашэнні прымае толькі Лукашэнка. Беларусь палітычна і эканамічна залежыць ад Расіі. Але не варта лічыць, што Лукашэнка — гэта стопрацэнтная марыянетка Крамля. Ён спрабуе балансаваць паміж Украінай, Еўропай і Расіяй.

**«Эксперт» (Украіна)**

Эксперты тлумачаць жаданне афіцыйнага Мінска прыняць Еўрапейскія гульні імкненнем падняць свой імідж на сусветнай арэне. Аляксандру Лукашэнку хочацца канчаткова развітацца са статусам апошняга дыктатара Еўропы, ізгоя ў еўрапейскім грамадстве, адчуць сябе паўнавартасным і паважаным кіраўніком дзяржавы. Аднак правядзенне Еўрапейскіх гульняў зусім не абавязкова прывядзе да такога выніку. Эксперты прыгадваюць, што правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе ніяк не паўплывала на імідж Беларусі, а статус Еўрапейскіх гульняў значна ніжэй.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. Атамная бомба для Каўдыльё

Іспанскія медыя пазнаёмілі грамадства з невядомай старонкай гісторыі краіны. Высвятляецца, што яшчэ ў 1950-я гады ў Іспаніі, дзе панавала дыктатура Франка, была запушчаная праграма па вытворчасці сваёй атамнай бомбы. Інфармацыю пра праграму, натуральна, хавалі ад усіх замежных краін, і перш за ўсё, як не дзіўна, ад Злучаных Штатаў, якія былі галоўным саюзнікам Франка. Такі парадокс тлумачыцца жаданнем Мадрыда скарацiць залежнасць ад Вашынгтона. Тым не менш, напачатку 70-х гадоў пра іспанскую атамную бомбу за акіянам даведаліся, і ў Мадрыд накіраваўся асабіста дзяржсакратар Генры Кісінджэр з патрабаваннем тэрмінова замарозіць праект. У выпадку адмовы Злучаныя Штаты збіраліся ўвесці супраць Іспаніі эканамічную блакаду. Аднак у выніку канфлікт вырашыўся сам сабой за кошт радыкальных баскскіх нацыяналістаў з тэрарыстычнай групоўкі ЕТА. У 1973-м яны арганізавалі смяротны замах на адмірала Луіса Бланка, якога Франка бачыў сваім пераемнікам. Смерць дафіна выклікала ў дыктатара абыякавасць да ўсяго, што адбываецца ў краіне і ў свеце. Як следства, ён забыўся і пра ідэю-фікс атрымаць атамны фугас.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Выбары ў Літве — трывога ў Варшаве

Польская прэса прагназуе, што зараз пачынаецца самы халодны за апошнія 25 гадоў этап у адносінах Польшчы і Літвы. Такія прагнозы грунтуюцца на выніках літоўскіх парламенцкіх выбараў. Нагадаем, у Літве пераможцам стала кансерватыўная партыя «Саюз сялян і зялёных». Ад іншых літоўскіх партый яна адрозніваецца ў тым ліку практычным ігнараваннем польскага пытання. Гаворка пра правы польскай этнічнай меншасці, якая кампактна пражывае ў віленскім рэгіёне. Літоўскія грамадзяне польскага паходжання даўно дамагаюцца, каб іх прозвішчы пісаліся ў дакументах у польскім варыянце, патрабуюць вулічных шыльдаў на польскай мове і аўтаномнай сістэмы школьнай адукацыі. Папярэдні ўрад сацыял-дэмакратаў быў гатовы на перамовы па агучаных пытаннях, аднак справы да іх так і не дайшлі. Што тычыцца «Саюза сялян і зялёных», яны нават афіцыйна заявілі, што не разглядаюць польскую партыю «Выбарчая акцыя палякаў» у якасці патэнцыйнага партнёра па кааліцыі. Праўда, канчатковы курс урада адносна палякаў будзе фармавацца ў межах кааліцыі, для стварэння якой «сялянам і зялёным» патрэбны партыя-партнёр. Хто ім складзе кампанію, пакуль застаецца загадкай.

**Паводле польскай прэсы**

### ІНДЫЯ. Інда-пакістанская кінавайна

Новы канфлікт паміж Індыяй і Пакістанам здарыўся ў сферы кіно. Радыкальная партыя індуістаў пагражае спаліць усе кінатэатры, якія пакажуць стужку «Ae Dil Hai Mushkil» — свежы прадукт індыйскай кінаіндустрыі. «Ae Dil Hai Mushkil» — звычайная меладрама з элементамі камедыі, самы любімы жанр сярод індыйскіх кінагледачоў. Аднак у нацыяналістаў выклікае нянавісць не сюжэт, а тое, што ў спісе акцёраў фігуруе пакістанец Фавад Кхан. Прысутнасць пакістанца на экране, як лічаць нацыяналісты, — здзек з годнасці індусаў. Праўда, трэба прызнаць, што кінавайну пачалі не ў Дэлі, а ў Ісламабадзе, дзе ўрад пастанавіў забараніць кінапракат індыйскіх стужак. Між тым уладальнікі кампаніі, дзе была створаная «Ae Dil Hai Mushkil», не пакідаюць надзеі неяк дамовіцца з нацыяналістамі. Яны гатовыя ахвяраваць Мінабароны Індыі каля 750 мільёнаў долараў за тое, каб фільм з Фавадам Кханам маглі спакойна дэманстраваць у кінатэатрах. Акрамя таго, кінабізнес гатовы зняць фільм пра індыйскіх жаўнераў, якія нядаўна сталі ахвярамі атакі прапакістанскіх сепаратыстаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. «Забівака» як сімвал апазіцыі

У Расіі абралі талісман Чэмпіянату свету па футболе — 2018. З трох магчымых варыянтаў у галасаванні перамогу атрымаў воўк, якога назвалі «Забівака». Конкурс і яго вынікі выклікалі ў грамадстве велізарны інтарэс. Народ ахапіла мода рабіць пародыі на талісман. Найбольш папулярны мем — выяўляць сімвал чэмпіянату ў выглядзе вядома воўка з мультфільму «Ну, пачакай!». Папулярна дамалёўваць талісману пляшку гарэлкі і называць яго «Налівака», або выяўляць яго як нейкага гопніка па прозвішчы «Хадзісюдыка» і гэтак далей. Ёсць нават думка, што імя сімвалу выяўляе формулу рускага народа: «Забівака на грамадства» або «Забівака на нармальнае жыццё». Іранічную рэакцыю на ваўка шмат хто тлумачаць тым, што мянушку «Забівака» прыдумаў непапулярны чыноўнік, віцэ-прэм'ер Віталь Мутко, чыё імя асацыюецца з правалам расійскай зборнай на апошнім Мундыялі і з допінгавым скандалам, які каштаваў Расіі ўдзелу ў Алімпіядзе ў Рыа. Культуролагі кажуць, што жарты з «Забівакі» будуць набываць таксама і палітычны падтэкст. Нездарма сярод блогераў папулярная ідэя зрабіць сімвалам чэмпіянату пілу пад назвай «Распіляка».

**Паводле расійскай прэсы**

# Венесуэлу чакае Майдан

Алег НОВІКАЎ



Фота www.thelastpatriot.ca

**На палітычнай мапе свету з'явілася новая гарачая крапка. Пасля таго, як 23 кастрычніка радыкалы-чавісты разагналі сесію венесуэльскага парламента, у якім большасць мае апазіцыя, краіна апынулася на мяжы грамадзянскай канфрантацыі.**

Палітычны працэс у Венесуэле — адзін з самых арыгінальных у свеце, паколькі праходзіць на фоне не бачанага ў сучаснай гісторыі эканамічнага крызісу. Прадукты ў краіне недаступныя ў самым простым сэнсе гэтага слова — яны зніклі з крамаў. Тубыльцы, каб набыць элементарныя рэчы, накшталт цукру і рысу, вымушаныя рабіць шопінг за мяжой. У такіх умовах варта было чакаць нейкай экстрэмальнай развязкі.

Усё пачалася пасля таго, як у снежні мінулага года кааліцыя дэмакратаў (MUD) атрымала большасць (66 працэнтаў) у парламенце. Так пачалася эра супрацьстаяння паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады. Выканаўчую ўладу кантралююць чавісты. Прэзідэнт Нікалас Мадура, не маючы большасці дэпутатаў, намагаўся кіраваць краінай указамі і іншымі пастановамі, якія не патрабуюць згоды дэпутатаў. Паколькі кантраляваць паводзіны адміністрацыі дэпутаты-апазіцыянеры аказаліся не здольнымі, яны вырашылі арганізаваць рэферэндум па пытанні адстаўкі Мадура, абвінаваціўшы яго ва ўсіх правалах краіны.

Аднак улады таксама не дурныя. Праз нейкі час у штатах, дзе пры ўладзе знаходзяцца чавісты, анулявалі вынікі першага этапу збору подпісаў за правядзенне плебісцыту. Гэтыя судовыя рашэнні зрабілі немагчымым другі этап збору подпісаў, прызначаны на 26–28 кастрычніка, і як вынік — правядзенне самога рэферэндуму да канца бягучага года. Мясцовы ЦВК ужо паведаміў, што другі этап збору подпісаў адкладаецца на нявызначаны тэрмін.

Для апазіцыі прынцыпова важна, каб рэферэндум адбыўся да новага года. Пасля 10 студзеня 2017-га, нават у выпадку станоўчага адказу венесуэльцаў на пытанне аб спыненні паўнамоцтваў прэзідэнта, выбары новага кіраўніка дзяржавы ўжо не адбудуцца — па Канстытуцыі. Гэта значыць, што краіну да наступных выбараў узначаліць цяперашні віцэ-прэзідэнт, які таксама сімпатызуе чавістам. Такі сцэнар, відавочна, не задавальняе апанентаў Мадура. Таму было вырашана пайсці ва-банк — абвясціць пра намер пачаць працэдуру імпічменту прэзідэнта, абвінаваціўшы

**90%**

**насельніцтва краіны лічаць, што Венесуэла ідзе ў няправільным кірунку**

выканаўчую ўладу ў парушэнні канстытуцыйнага ладу.

Прагаласаваць за праект рэзалюцыі збіраліся 23 кастрычніка, калі ў справе з'явіўся новы фігурант — натоўп прыхільнікаў Чавеса, што гвалтоўна разагнаў дэпутатаў. Сесія была скончаная, і разам з ёй у краіне паўстала незразумелая, аднак вельмі напружаная сітуацыя. Пакуль, праўда, ніякіх канфліктаў няма. Такое ўражанне, што апаненты кансалідуюць сілы ў чаканні вырашальнай бітвы.

Натуральна, дэмакраты абвінавацілі Мадура ў аўтарытарызме і дзяржаўным перавароце. Як піша апазіцыйная газета «El Nacional», «урад зачыніў апошнюю фортку, адкуль паявяваў подых дэмакратыі. Адбыўся пераход ад аўтарытарызму, які ўсё ж дазваляў палітычную канкурэнцыю, да абсалютнай аўтарытарнай мадэлі».

Папулярны сярод венесуэльскай апазіцыі рэсурс «Efecto Cocuyo» яшчэ больш катэгарычны. «Мы знаходзімся напярэдадні ўзнікнення жудаснай дыктатуры. «Яны (улада) гуляюць з полымем сацыяльнай дынамікі. Рэферэндум разглядаўся як легальны канал, які дазваляе грамадзянам выказаць сваю незадаволенасць. Калі вы прыбераце гэты канал, у людзей застанецца толькі адзін механізм для пераменаў — выхад на вуліцы», — прагназуе адзін з аўтараў рэсурсу, спасылаючыся на дадзеныя сацыёлагаў. Паводле іх, 90 працэнтаў насельніцтва лічаць, што Венесуэла ідзе ў няправільным кірунку, 76 працэнтаў апытаных лічаць, што Мадура павінен пакінуць прэзідэнцкі офіс.

Што тычыцца лагеру Мадура, там падзеі 23 кастрычніка разглядаюць таксама як спробу дзяржперавароту — аднак арганізаванага апазіцыяй. На гэта, быццам, указваюць два моманты. Учынкі праціўнікаў Мадура чымсьці падобныя на тое, што адбывалася ў Парагваі і Бразіліі, дзе правым удалося зрынуць левых прэзідэнтаў за кошт юрыдычных працэдураў. «У Парагваі ў 2012-м меў месца парламенцкі фарс, калі быў адхілены ад улады дэмакратычна абраны Фернанда Луга. У Бразіліі некалькі месяцаў таму парламент пад выглядам барацьбы з карупцыяй скінуў дэмакратычна абраную Дзілму Русеф. Зараз нехта жадае, каб прыйшла чарга Венесуэлы», — лічыць праўладны рэсурс CELAG.

Другая зачэпка ў доказ таго, што апазіцыянеры рыхтаваўся путч — адсутнасць Мадура ў краіне. Як сведчыць гісторыя Лацінскай Амерыкі, падобная акалічнасць сапраўды спрыяе планам тых, хто марыць захапіць уладу.

Між тым, падзеі нечакана набылі новы фармат пасля таго, як у аўторак у Рыме Мадура сустрэўся з Папам Рымскім Францыскам. Ватыкан заявіў пра намер арганізаваць дыялог паміж бакамі канфлікту, з гэтай мэтай у Каракас ляціць эмісар Папы.

Першая рэакцыя ў Венесуэле на ініцыятыву Ватыкана асцярожная. «Наша прапанова — не весці ніякія перамовы, паколькі мы не прымаем любыя формы міжнароднага ўмяшання ва ўнутраныя справы Венесуэлы», — заявіў Дзіясдада Кабела, адзін з лідараў радыкалаў, што атакавалі парламент 23 кастрычніка. У сваю чаргу Ісус Тарэалба, сакратар MUD, кажа, што разглядае ідэю дыялогу як частку стратэгіі рэжыму, які намагаецца выйграць час.

Сапраўды, пры такім раскладзе час грае на карысць Мадуры. Перамовы пры пасярэдніцтве Касцёлу павінны распачацца ў нядзелю. Між тым, калі да канца цяперашняга тыдня не пачнецца другі этап збору подпісаў, рэферэндум не зможа адбыцца юрыдычна. Раней лідар венесуэльскай апазіцыі і губернатар штата Міранда Энрыке Капрылес заклікаў сваіх прыхільнікаў правесці на гэтым тыдні маштабную акцыю «Штурм Венесуэлы», каб дамагчыся правядзення рэферэндуму ў гэтым годзе. Падаецца, бліжэйшы час можа быць вырашальным для лёсу чавісцкага эксперыменту.


Фота www.philologist.livejournal.com

# Ёсць у рэвалюцыі пачатак…

Алег НОВІКАЎ

**Чаму венгерскае паўстанне 1956 года, юбілей якога адзначацца ў гэтыя дні, дасюль выклікае столькі дэбатаў і меркаванняў?**

Тое, што падзеі 1956 года ў Венгрыі — адна з ключавых падзей гісторыі мінулага стагоддзя, не выклікае сумневу. Па-сутнасці, гэта азначала пачатак дэсталінізацыі Усходняй Еўропы і запуск дэканструкцыі савецкага блоку. Тым больш дзіўна, што вакол гэтай старонкі гісторыі дасюль цягнуцца дыскусіі і дэбаты. Шмат каго не задавальняе вядомы з падручнікаў гісторыі сюжэт: у 1956-м у краіне пачаліся студэнцкія пратэсты, якія перараслі ў народную рэвалюцыю, раздушаную танкамі Жукава. Высвятляюцца незвычайныя мікраэпізоды паўстання, якія дзіўным чынам паўплывалі на ход падзей.

Напрыклад, вялікую ролю ў лёсе паўстання адыграў той факт, што напярэдадні ўсім супрацоўнікам дзяржбяспекі выдалі шыкоўныя жоўтыя боты. Як следства, калі пачаўся бунт, вызначыць у натоўпе тых, хто працуе на «кантору», стала няцяжка. Людзей у жоўтым абутку хапалі на вуліцах і адразу ж вешалі на дрэвах. Менавіта масавыя забойствы чэкістаў прымусілі Крэмль перагледзець пазіцыю наконт таго, што адбываецца ў Венгрыі. Калі раней Масква спадзявалася зрабіць стаўку на адну з груповак унутры эліты, то пасля гісторыі з ботамі выбар быў зроблены на карысць адкрытай інтэрвенцыі.

Аднак значна большы інтарэс падчас цяперашніх дэбатаў выклікаюць матывы паўстання. Напэўна, адна з самых экстравагантных версій была агучаная пару гадоў таму на старонках нямецкага выдання «Jungle World». Аўтар публікацыі лічыць, што паўстанне 1956 года стала следствам росту статуса футболу ў жыцці венгерскага грамадства. Вядома, што ў 1954-м у Швейцарыі венгерская зборная сенсацыйна прайграла фінал Чэмпіянату свету заходнім немцам, якіх раней разбівалі на першай стадыі турніру. Навіна з Берну, дзе адбываўся фінал, выклікала ў венграў глыбокую псіхалагічную траўму. Нацыю ахапіла фрустрацыя, і антыкамуністычны бунт стаў цудоўным сродкам для каналізацыі негатыўнай энергіі.

А вось у Маскве сёння лічаць, што паўстанне 1956-га было першай у гісторыі «аранжавай рэвалюцыяй». Версія грунтуецца на тым, што напачатку 50-х гадоў у Мюнхене пад дахам ЗША паўстала вядомая радыёстанцыя «Свабодная Еўропа», якая наладзіла трансляцыі на Венгрыю. Дарэчы, венгерскі МЗС ужо асудзіў кантэнт расійскіх каментатараў пра паўстанне. Паслу Расіі ў Будапешце з гэтай прычыны нават уручылі ноту.

Ідэя расійскіх СМІ цалкам спрэчная, з улікам таго, што ў венгерскім грамадстве сапраўды хапала падстаў для антыпатый на адрас рэжыму. Пры тагачасным 9-мільённым насельніцтве краіны напярэдадні паўстання ў турмах сядзелі каля 200 тысяч чалавек. Паводле палітычных матываў было вынесена каля 5 тысяч смяротных прысудаў. Пад дэпартацыі і інтэрнаванне падпалі яшчэ 700 тысяч. Разам атрымліваецца, што ад сталінізму пацярпеў кожны дзясяты венгр.

Ёсць яшчэ адзін аспект, які супярэчыць тэорыі афіцыёзных гісторыкаў Масквы. Яны самі прызнаюць, што ў чыстым выглядзе ў 1950-я гады ідэі капіталізму і дэмакратыі не мелі мабілізацыйнага патэнцыялу. Шмат хто памятаў глабальны эканамічны крызіс 1929-га. Таму, калі паўстанне выбухнула, усё ж дамінавала ідэя сацыялізму, аднак без маскоўскага дыктату. Па ўсёй краіне тады фармаваліся грамадзянскія рэўкомы і працоўныя саветы, якія пераўтвараліся ў органы рабочага самакіравання.

Узгадалі і тэорыю марксіста Івана Лоха. Вывучаючы паўстанне ў Венгрыі, ён зрабіў цікавую заўвагу: бюракратычнае рэфармаванне ва Усходняй Еўропе, а пазней і ў СССР, амаль заўсёды прыводзіла да контррэвалюцыі. Рэформа вяла да канфлікту і расколу праслойкі чыноўнікаў і апаратчыкаў, чым заўсёды рады былі скарыстацца радыкальныя праціўнікі рэжыму. У гэтым плане бацькам венгерскай рэвалюцыі выступае Мікіта Хрушчоў, які спачатку на XX з'ездзе КПСС даў старт рэформам у савецкім блоку — і ў тым ліку ў Венгрыі, — а пасля быў вымушаны іх зацiскаць.

Асобная тэма — месца антысемітызму ў праграме паўстання. Вядома, што спадарожнікам рэвалюцыйнага працэсу сапраўды былі акты гвалту над яўрэямі, якіх натоўп завочна запісаў у прыхільнікі сталінскага рэжыму. Пазней на судовым паказальным працэсе над паўстанцамі тыя апраўдвалі свае ўчынкі тэмай «сусветнай сіяніскай змовы». Шэраг гісторыкаў, і не толькі ў Маскве, на грунце гэтых фактаў намагаюцца паказаць усё паўстанне як банальны пагром. Аднак тут ёсць іншая тэорыя. Вядома, што ў кіраўніцтве паўстання было шмат яўрэяў. Сярод іх 15-гадовая Эрыка Карнелія Селеш, якая стала сімвалам паўстання і загінула, калі выносіла з-пад агню параненых байцоў.

Цікавая тэорыя пра тое, што дух антысемітызму 1956-га захаваўся ў нацыянальнай свядомасці і ўплывае на цяперашнюю палітычную павестку ў Венгрыі. Значыць, прыход да ўлады палітыкаў накшталт прэм'ера-еўрафоба Віктара Орбана трэба было чакаць. Калі верыць сацапытанням, сёння 42 працэнты венграў лічаць, што краінай кіруюць замежныя сакрэтныя цэнтры. Яшчэ 30 працэнтаў рэспандэнтаў прыпісваюць гэтую канспіратыўную ролю яўрэям. У гэтым плане цяперашні канфлікт паміж Орбанам і мільярдэрам Джорджам Сорасам (венгерскі яўрэй) падаецца шмат каму штучным і кан'юнктурным. Апошні час венгерскі афіцыёз нават абвінавачвае Сораса ў тым, што ён і іншыя яўрэі мараць пра… арабскую акупацыю Венгрыі.

Як бачым, тэорый наконт сутнасці 1956 года хапае. Аднак самае цікавае, магчыма, яшчэ наперадзе. Выступаючы 23 кастрычніка на ўрачыстым мітынгу, Віктар Орбан заклікаў не дапусціць «саветызацыі» Еўропы, якую праводзіць… Брусэль. Паралель паміж сталіністамі і брусэлькімі чыноўнікамі — гэта нешта новае. Ці працягне Орбан змагацца з Брусэлем са спасылкай на традыцыі рэвалюцыі 1956 года, пакажа час. Аднак тое, што гэты клінч толькі набірае абароты, не выклікае сумневаў. Напярэдадні юбілею будапешцкія ўлады закрылі апошнюю ў краіне буйную апазіцыйную газету і пачалі атаку на нелаяльныя СМІ ў рэгіёнах.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Радрыга Дутэртэ



Кіраўнік Філіпінаў на вачах становіцца рэінкарнацыяй Уга Чавеса, вядучага крытыка ЗША ў Трэцім свеце. Прычым непрыстойнасцямі на адрас гаспадароў Белага дому, якія не паважаюць яго брутальныя метады барацьбы з наркамафіяй, справа не абмяжоўваецца. Дутэртэ наведаў Кітай, дзе заявіў, што прыйшоў час сказаць «goodbye» на адрас Злучаных Штатаў.

Гэтае «goodbye» у амерыканскай прэсе разглядаюць як «самы вялікі геапалітычны перадзел сфераў уплыву ў Ціхім акіяне з часоў халоднай вайны» (Financial Times). Стратэгічная пераарыентацыя Манілы на Кітай будзе азначаць завочны пройгрыш ЗША ў Паўднёва-Кітайскім моры, дзе Вашынгтон аспрэчвае прэтэнзіі кітайцаў прыкладна на 40 выспаў. Важная функцыя ў схеме абароны сваіх інтарэсаў адводзілася амерыканскім базам на Філіпінах, лёс якіх цяпер пад пытаннем. Амерыканскія СМІ занепакоеныя таксама і тырадай Дутэртэ пра яго магчымы візіт да Пуціна, паколькі «Кітай, Расія, Філіпіны ідуць па агульным шляху».

Праўда, хапае і такіх, якія не вераць, што Кітай гатовы на шчыльную вайскова-палітычную кааперацыю з Дутэртэ (прынамсі, так хутка). Практыка сведчыць, што кітайская дыпламатыя будзе прыглядацца і рабіць стаўку на эканамічныя кантракты. Акрамя таго, не выключана, што Дутэртэ за кошт кантактаў з Кітаем і Расіяй проста намагаецца стварыць глебу, каб пасля балансаваць паміж вялікімі дзяржавамі, атрымліваючы з усіх бакоў розныя бонусы.

### Яя Джаме



Гамбія — маленькая малавядомая крана Афрыкі. Аднак дзякуючы прэзідэнту краіны Яя Джаме на Гамбію звярнуў увагу ўвесь свет. Справа ў тым, што Гамбія стала трэцяй запар краінай Афрыкі, якія за апошні тыдзень заявілі пра выхад з-пад юрысдыкцыі міжнароднага трыбуналу ў Гаазе. Раней такія крокі зрабілі Паўднёвая Афрыка і Бурундзі.

Свой дэмарш гамбійцы тлумачаць тым жа, што і іншыя. Маўляў, Гаага апошнім часам актыўна спрабуе прыцягнуць да адказнасць афрыканскіх палітыкаў за злачынствы супраць чалавецтва. Пры гэтым, па іх разліках, кіраўнікі як мінімум 30 заходніх краінаў павінны знаходзіцца за кратамі за злачынствы, зробленыя на тэрыторыі Чорнага кантынента за апошнія дзесяцігоддзі. Аднак у Гамбіі намагаюцца не казаць, што гаагскіх суддзяў таксама цікавяць мясцовы пракурор і міністр юстыцыі. Не выключана, што за кошт выхаду з-пад юрысдыкцыі Гаагі хоча перастрахавацца сам Яя Джаме, які знаходзіцца пры ўладзе з 1994-га і шмат чаго паспеў нарабіць.

Так ці інакш, навіны з Афрыкі выклікалі вялікую занепакоенасць у ААН. Там Гаагскі трыбунал разглядаюць як важны інструмент, які прымушае афрыканскіх сілавікоў і палітыкаў трымаць сябе ў нейкіх прававых межах. Генсек Асамблеі заклікаў афрыканцаў перагледзець свае рашэнні.

### Пётр Парашэнка



Прэзідэнт Украіны шакіраваў грамадскасць, запатрабаваўшы ад Канстытуцыйнага суда прызнаць закон Украіны «Аб пазбаўленні Віктара Януковіча звання прэзідэнта Украіны» ад 4 лютага 2015 года не адпаведным Канстытуцыі Украіны. Парашэнка лічыць, што Вярхоўная Рада не мела права прымаць такі закон.

Крок Парашэнкі вельмі дзіўны і супярэчлівы. Сапраўды, заканадаўства Украіны дазваляе прыбіраць прэзідэнтаў выключна праз працэдуру імпічменту, якой у 2014-м папросту не было. Аднак пра гэтую тэму ў Кіеве літаральна да мінулага тыдня намагаліся не казаць. Самая папулярная версія таго, што адбываецца, — Парашэнка разумее, што на другі тэрмін з цяперашнімі 12–14 працэнтамі падтрымкі пераабрацца будзе цяжка. Значна верагодней тое, што пасля заканчэння кадэнцыі ворагі могуць узняць пытанне пра законнасць яго прэзідэнцтва — у тым ліку і ў міжнародных судах. Цяпер гэтую памылку, напэўна, збіраюцца вырашыць за кошт адпаведнай пастановы Канстытуцыйнага суда, якая з аднаго боку адменіць згаданы закон, аднак пры гэтым нейкім чынам задэкларуе легітымнасць прэзідэнцтва Парашэнкі.

Аднак такая пастаноўка пытання лагічна патрабуе дасюль разглядаць Януковіча, а не Парашэнку, як сапраўднага ўкраінскага прэзідэнта. Адным словам, прэзідэнт Украіны пачаў нейкую дзіўную гульню, сутнасць якой пакуль ніхто не разумее.

## «Чутае, бачанае, пражытае» Адама Варлыгі

**Ад «У капцюрох ГПУ» Францішка Аляхновіча бярэ свой пачатак своеасаблівая лагерная мемуарыстыка, якая была працягнутая эміграцыйнымі дзеячамі пасля Другой сусветнай вайны. Можна згадаць «Ахвяраў бальшавізму» Масея Сяднёва, «Успаміны з жыцця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу» Пётры Палягошкі, «Эпізоды» Яўхіма Кіпеля ды шмат іншых.**

У гэтым шэрагу новае імя — Адам Варлыга (сапр. Язэп Гладкі, 1890–1972). Удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу, шматгадовы настаўнік на роднай Лагойшчыне, потым студэнт Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску, супрацоўнік Інстытута школьнай педагогікі пры Наркамаце асветы БССР, ён сам цудам не трапіў пад рэпрэсіі. Апынуўшыся пасля Другой сусветнай вайны ў ЗША, Адам Варлыга напісаў успаміны, значная частка якіх распавядае пра гады калектывізацыі ды знішчэнне беларускай інтэлігенцыі. Мемуары «Чутае, бачанае, пражытае» яшчэ не вядомыя публіцы, бо толькі цяпер рыхтуюцца да друку. Тэкст, што захоўваецца сёння ў БДАМЛМ, — выдатнае адлюстраванне таго, у якой атмасферы жыла беларуская інтэлігенцыя 1930-х, і як бачыліся і перажываліся рэпрэсіі іх сведкамі праз дзесяцігоддзі.

У наступным годзе пабачыць свет поўны варыянт успамінаў Адама Варлыгі.

**Наталля Гардзіенка**

# Калектывізацыя і дэпартацыя беларусаў

Адам ВАРЛЫГА
(Язэп ГЛАДКІ)



**Адам Варлыга (Язэп Гладкі)**

«Паўтара кілямэтра ад нашай вёскі на адзіноце жыў Равіна: тры сыны, дачка й двое старых. Гаспадарку канфіскавалі дарэшты, але старых, якія мелі кожны каля 70 гадоў, з дарогі адпусьцілі. Яны абое хадзілі па ваколіцы начавалі пад платамі. Калгасьнікі баяліся прымаць «кулака» нанач. Старая зімой 1936 году памерла ў Міхалкавічах пад плотам, а стары дажыў да 1941-га. Гэткая ж доля спаткала знаёмую мне шляхцянку Каралькевіч з-пад Гайны: сыноў выслалі, гаспадарку канфіскавалі, а яна засталася беспритульнай — хадзіла, старэнькая, па ваколіцы ў лахманах і галодная. Аднаго разу зімой у гайку наламала яловых лапак, зрабіла сабе пасьцель, накрылася лапкамі й заснула навекі. Толькі вясной яе знайшлі пастушкі.

Разам з тым, як партыйцы распачалі сваю перападрыхтоўку пры набліжэньні калектывізацыі, у гэты час НКВД рыхтавала па вёсках сваіх супрацоўнікаў-шпегаў. Як ужо вышэй заўважалася, нашы людзі, высланыя ў далёкія дзікія краіны, з голаду й пошасьці гінулі, а з Масквы прыходзілі на Беларусь новыя запатрабаваньні на жывую сілу. Цэнтральнае НКВД БССР рабіла гэткія раскладкі на раёны, а раённыя НКВД зьвярталася да сваіх агентаў-шпегаў на вёсках, якія й вылучалі кулакоў, агітатараў, сабатажнікаў, загранічных шпегаў ды іншых шкоднікаў. А саветам шмат патрэбна было дармовай рабочай сілы — як для сваіх нутраных патрэбаў, гэдак для аплаты й загранічных прамысловых кампаніяў. У пачатку 1930-х гадоў бальшавікі будавалі сваю флёту, ім патрэбныя былі ангельскія машыны, інжынэры, матэрыялы. Выдаткі ангельцам яны пакрывалі лесам і золатам, а дзеля гэтага расейскае НКВД патрабавала зь Беларусі работнікаў нарыхтоўваць лес, дабываць у Сібіры золата.

Гэтымі гадамі амэрыканскі прамысловец Форд будаваў у Маскве аўтамабільную фабрыку, а ў Сталінградзе — трактарную; каб заплаціць яму патрэбны былі золата й экспартны лес. Для гэтай мэты энкавэдыстыя вэрбавалі праз сваіх шпегаў вялікую колькасьць беларускага народу для кацэтаў.

Найбольш зьняволеных прайшло праз энкавэдыцкія вязьніцы зімой 1932–1933 году — тады былі шчыльна запакованы цэнтральная менская вязьніца Сутарэньне й Амэрыканка. У бэрнардынскім касьцеле былі зробленыя аж чатыры паверхі, і ўсе былі шчыльна запакованы зьняволенымі. Хадзілі чуткі, што гэтыя чатыры паверхі зрабілі сьпехам, яны былі перацяжараны ды ўваліліся, дык шмат зьняволеных было пабіта й пакалечана. На дварэ пажарнай каманды энкавэдыстыя стаялі на варце, а гэта сьведчыць, што й там былі палітычныя зьняволеныя.

Канвоі палітычных зьняволеных накіроўваліся на станцыю пераважна ўночы пры вялікай колькасьці канваіраў і міліцыйных сабак. Але 8, 9 і 10 красавіка рух палітычных зьняволеных назіраўся й сяред белага дня пры вялікім вулічным руху: зьняволеныя ішлі калёнай пасярод вуліцы, іх абклаў канвой НКВД з сабакамі. Сабакі кідаліся на грудзі зьняволеных, а гэдаксама й на публіку з краю ходнікаў. Самая страшная, самая крывавая ноч была з 9 на 10 красавіка, калі бальшавікі трымалі работнікаў на фабрыках і праводзілі з тымі гутаркі, абы заняць час. Па дарогах каля Менску снавалі войскі й фурманкі, відаць, дзеля таго, каб імі замаскаваць транспарты НКВД і калёны пешых зьняволеных, якіх вывозілі й выводзілі за места на расстрэл. У гэты час было шмат замардавана ў Менску найлепшых нашых людзей — інтэлігенцыі, сялян і работнікаў. За гэту ноч менскія вязьніцы апусьцелі ад палітычных зьняволеных. Мажліва, гэткі морд бальшавікі рабілі ў гэту ноч і ў іншых беларускіх прымежных местах. Адзін бальшавіцкі юрысты пісаў свайму знаёмаму на Беларусь, што НКВД БССР за зіму 19321–1933 году перавыканала плян дастаўкі жывой сілы ў кацэты на паўтары тысячы чалавек, — ну, напэўна ж, без тых тысяч і тысяч, што на скорую руку былі застрэлены ўночы з 9 на 10 красавіка, бо кацэты іх не атрымалі.




**Пашпарт Язэпа Гладкага (1941 г.)**

Прычына гэтай масакры была наступная. Тады ў СССР шмат працавала высокіх замежных спэцыялістых. Аднаго ангельскага інжынэра бальшавікі прысудзілі да расстрэлу за шпегаўства. Ангельскі ўрад запатрабаваў яго вызваліць. Бальшавікі адмовіліся. Тады ангельскі ўрад абʼявіў бальшавікам 48-гадзінны ўльтыматум. У той час у Менску мелася шмат тысяч палітычных зьняволеных, а Менск стаяў за 35 кілямэтраў ад граніцы. Дык вось за гэтыя 48 гадзін менскае НКВД і масакравала гэтых шмат тысяч палітычных зьняволеных. Але за 48 гадзінаў бальшавіцкі суд перасудзіў таго ангельскага інжынэра й даў яму новае пакараньне: «За 24 гадзіны пакінуць СССР бяз права звароту ў СССР на ўсё жыцьцё».

[...]

### Сьмерць брата

Калі восеньню 1931 году мяне й брата звольнілі з пасады настаўнікаў, я пакінуў сваю вёску й свой раён. Мой брат з сваёй жонкай працаваў у Швабскай школе таго ж Лагойскага раёну; жонкі з працы ня звольнілі й пакінулі на тым самым месцы. Яны мелі траіх малых дзяцей і гаспадарку: карову, падсьвінкаў, курэй, гародніну. Жонка, працуючы настаўніцай, не магла даглядзець ні дзяцей, ні гаспадаркі, а калі б збыць гэту гаспадарачку, дык жонка не змагла б пражыць зь дзяцьмі, бо месячная пэнсія настаўніка была 50 рублёў, а за пуд мукі ці асьміну бульбы плацілася 96 рублёў.

Брат прымушаны быў застацца на месцы. Ён пражыў дома год і чатыры месяцы, а 3 лютага 1933 году яго забрала НКВД і прывезла ў Менск у падвал. У дні адпачынку (а тады дні адпачынку былі па шостках: 6, 12, 18, 24, 30) можна было перадаваць бялізну й ежу. Я тады, хоць кожную ноч сам чакаў гэткіх самых «гасьцей», але ня мог утрымацца, каб ня стаць з пачкам у чаргу, бо мог дастаць некалькі пачкаў папярос ці махоркі ды вымерґаваць якіх са два кілё карткавага хлеба.

У чаргу трэбала станавіцца яшчэ зь вечара й стаяць да 8 гадзіны раньня на вуліцы. Пры пачку мусіла быць маленькая пісулька з прозьвішчам таго, хто пасылае, і зьняволенага, які падпісваў, што атрымаў, і падаваў прозьвішча таго, каму ён адсылае пусты мяшэчак. Пры гэтым брат ведаў, што я яшчэ на волі. Я амаль кожны тыдзень станавіўся ў чаргу з пачкам, але найчасьцей пачак цэлым вярталі мне назад, бо тады, як бяруць на допыты, на катаваньне, дык ніякіх пачкаў не дапускаюць, адказваюць: «У нас няма такога».

Аднаго разу пад канец сакавіка я падаў пачак, дзе была бялізна, хлеб і папяросы. Брат назад да мяне ўлажыў у гэту самую маю торбу брудную бялізну й маленькую пісульку, дзе было напісана: «Атрымаў. Дзякую. Я два разы самлеў. Шануйце сваё здароўе». Тут шыфр няхітры: два разы самлеў у часе катаваньня. «Шануйце сваё здароўе» азначае: «Сюды, дзе цяпер я, старайцеся не пападацца». А ягоная перададзеная брудная бялізна была падраная на шматочкі. Я, ідучы ў чаргу з пачкам, надзяваў вушатую шапку й падвязваў вушы, надзяваў кажушок ды настаўляў каўнер, а на ногі абуваў валёнкі.

Аднаго разу, так прыбраўшыся, стаю ўжо недалёка вакенца, ды нешта закарцела глянуць на бок, аж якраз мой позірк спаткаўся з позіркам знаёмага энкавэдыстага, які жыў на суседнім двары й прыходзіў да жыдка, зь якім я быў на кватэры. Ён добра мяне знаў, ведаў, што я студэнт і настаўнік. Як па камандзе мы адвярнуліся адзін ад аднаго. Я думаю: «Цяпер усё скончана, ён мяне выдасьць, і мяне звольняць з інстытуту ды з настаўніцкай пасады». Аж пасьля гэтага той энкавэдысты не пайшоў на нашу кватэру да жыдка, а калі выпадкова мы спаткаліся на вуліцы ці ў трамваі, дык не глядзелі адзін на аднаго.

Каля 10 красавіка брата ў склепе НКВД ня стала, бо, калі 12 красавіка яму жонка прывезла адзежу, дык сказалі, што яго няма. Яго няма й да гэтага часу.

Праз тыдзень пасьля гэтага жонку брата звольнілі з работы, забралі карову, падсьвінкі, куры, пчолы, адзежу й нават запасы збожжа й мукі, а ёй сказалі зь дзецьмі выехаць на Далёкую Поўнач, але яна выехала ў Смаленшчыну, дзе мела сваякоў.

[...]

Для мяне самога, а гэдаксама й для ўсіх іншых было дзіўным, чаму гэта брат загінуў, а я ацалеў, бо мы абодва былі роўнымі вінавайцамі: разам працавалі, разам нас звольнілі з настаўніцкай працы, абодва былі занесены ў сакрэтныя сьпісы НКВД. Але я пасьля прыйшоў да высновы, што ад загубы мяне выратавала толькі тое, што я пакінуў Лагойскі раён. Кожнае раённае НКВД рэгістравала падазроных людзей свайго раёну, а калі гэты падазроны, што быў у сьпісах НКВД, выбыў з гэтага раёну, дык яго з гэтых сьпісаў выкрэсьлівалі й не цікавіліся, куды ён выехаў.

У часе вайны, у 1943 годзе, мне давялося спаткаць аднаго чалавека, які з маім братам сядзеў у Сутарэньні — у менскім НКВД, а пасьля быў высланы на Беламорканал. Я ў яго пытаўся, ці казаў яму брат, у чым яго абвінавачвалі, калі дапытвалі. Той адказаў, што брата патрабавалі, каб прызнаўся, дзе кулямёты схаваў.

Аднаго майго сваяка былі выкінулі з партыі камуністых. Ён з маім братам з малых гадоў не спатыкаўся й ня ведаў, за што брата забралі і ў чым абвінавачвалі. Дык сьледчы яму сказаў: «Казіміра Гладкага абвінавачвалі ва ўкраінскім нацыяналізьме».

# Хто вінаваты ў змарненні беларускай мовы?

**Гэты ліст на цудоўнай беларускай мове мы атрымалі ад вязня Глыбоцкай папраўчай калоніі №13 Ігара Златагурскага і вырашылі яго надрукаваць з невялікімі скарачэннямі. У чымсьці можна пагадзіцца з меркаваннем Ігара, у чымсьці паспрачацца. Запрашаем да працягу дыскусіі.**

Другі раз цягам года «Новы Час» друкуе прасякнуты шчырым болем за сучасны стан беларускай мовы і будучыню беларускай нацыі крык душы вельмі шаноўных асобаў — прафесараў Леаніда Лыча і Міколы Савіцкага. Усё закінутае імі ў бок існай улады — праўда. Але ёсць і іншыя, хто вінаваты ў змарненні беларускай мовы не менш за ўладу. Калі б на пытанне «хто вінаваты ў занападзе нашай мовы?» давялося адказваць мне, то, не вагаючыся ані хвіліны, сказаў бы: асабіста я і мае продкі.

Напрыканцы мінулага стагоддзя я шчыра вітаў пачатак нацыянальнага Адраджэння, бо лічыў сябе неабыякавым да беларускай гісторыі, культуры і мовы чалавекам. Але беларускай мовай не карыстаўся наогул, хаця добра ўсведамляў важнасць і неабходнасць гэтага. Усё чакаў: як пачнуць іншыя, дык і я падхаплю. А пакуль усе вакол размаўляюць па-руску, дык неяк... няёмка.

Спатрэбілася апынуцца за кратамі, каб убачыць сябе сапраўднага і, у шэрагу іншага, прызнацца самому сабе, што тая мая любоў да беларускай мовы была вонкавай, а ў сапраўднасці я быў да мовы абыякавы. І толькі гэтая абыякавасць, а не штосьці іншае, і замінала пачаць гаманіць па-беларуску. Прынамсі, у коле радзіны ды бліжэйшага атачэння.

Зараз я цвёрда ведаю, што пачні я тады размаўляць на беларускай мове — сёння ёю карысталіся б сама меней некалькі чалавек, якія ў сваю чаргу прыцягнулі б іншых.

Прачытаўшы напісанае, можна паблажліва паціснуць плячыма: маўляў, прыватны выпадак, што з таго да агульнага стану беларускай мовы? Але прыпыніцеся на хвіліначку, падумайце і прызнайцеся ціхенька, нягучна, самі сабе: ці не ёсць вы, ці вашы сябры са знаёмымі, такімі ж «свядомымі» беларусамі, як я? І калі так, ці варта закідаць уладзе тое, чаго мы не хочам рабіць самі? Прынамсі, большасць з нас.

Давайце возьмем лічбу тых, хто ўзяў удзел у арганізаваным курсамі «Мова нанова» сецiўным перапісе беларускамоўных людзей. Дзеля адпаведнасці рэчаіснасці памножым яе на каэфіцыент ад дзесяці да ста (залежна ад узроўню асабістага аптымізму), і набяром смеласці прызнаць — толькі гэтыя людзі і маюць права называцца беларускім народам, толькі для іх беларуская мова і сапраўды ёсць каштоўнасцю. Усе астатнія — проста насельніцтва Беларусі. І каштоўнасці, і інтарэсы народа не заўсёды супадаюць з каштоўнасцямі і інтарэсамі насельніцтва. Не толькі ў нас, па ўсім свеце. Вас ніколі не дзівілі вялікія лічбы тых, хто ў дзяржаўных перапісах насельніцтва Беларусі не толькі пазначалі беларускую роднаю моваю, але і сцвярджалі, што размаўляюць на ёй дома? Паводле апошняга перапісу, такіх набралася ажно 51%, ды ўсе мы ведаем, што ў хатнім ужытку беларускай мовы ледзь не нуль!

Для мяне гэты парадокс тлумачыцца проста: я, мае бацькі і дзяды з бабкамі падчас перапісаў таксама называлі беларускую мову роднай і дэкларавалі яе штодзённы ўжытак. Хаця, насамрэч, карысталіся рускай, ці, у выпадку старэйшых, — «трасянкаю», але толькі на вёсцы — у горадзе і яны старанна пераходзілі на «гарадскую», рускую. Іншым словам, мы хлусілі. Калі зважаць на лічбы перапісаў — не толькі мы.

Таму прызнаем, што беларуская мова змізарнела дзякуючы агульным намаганням як уладаў (польскіх, рускіх у мінулым, ці сучасных беларускіх), так і самога беларускага насельніцтва.

Мая нябожчыца матуля перайшла на рускую мову не столькі таму, што па заканчэнні вясковай беларускамоўнай васьмігодкі змушаная была давучвацца ў гарадской дзясяцігодцы, дзе выкладанне вялося выключна на рускай, ды працягваць навучанне ў таксама рускамоўным тэхнікуму. Куды болей да гэтага спрычынілася тое, што і падчас навучання і наступнага сталага жыцця ў горадзе яна дужа саромелася сваёй «вясковай», — як называла яе, — гаворкі. Ёй усё здавалася, — шчыра прызналася аднойчы, — што глядзяць на яе, як на «дурнога беларуса»!!!

Пра тое, што значная колькасць беларускага насельніцтва да нашага часу саромеецца сваёй беларускай мовы, пісалі, у прыватнасці, выбітны беларускі навуковец Мікола Улашчык («Віцкаўшчына. Рэвалюцыя ў мяне») і сучасная беларуская даследчыца Ганна Энгельніг («Простыя рабочыя людзі — хрысціяне»), ды іншыя. Гэта можна лічыць дадзеным навуковым фактам, і нельга не зважаць на яго, калі і сапраўды існуе жаданне даць рады з сучасным станам беларускай мовы і паспрыяць нарэшце паўстанню беларускага народа з беларускага насельніцтва. На жаль, і да народа мы яшчэ не дараслі, не мусім маніць самім сабе.

Паводле разумення, якое ўсталявалася ў сучаснай гістарычнай навуцы, «нацыя» і «народ» з'яўляюцца прадуктам буржуазных рэвалюцый новага часу. Нацыю, народ утвараюць перш за ўсё «буржуа» — месцічы і жыхары гарадоў. Гарадоў, а не вёсак. У гэтым сэнсе нам, беларусам, дужа не пашанцавала. «Нашы» гарады з вядомых чыннікаў не адно стагоддзе, аж да апошняй вайны, былі «беларускімі» адно па прыналежнасці да тэрыторыі. Нават у колькасным вымярэнні да лічбы жыхароў. У сацыяльным жа плане беларусы ў «беларускіх» гарадах утваралі найніжэйшыя пласты грамадства, — за невялікім выключэннем.

Сацыяльны верх належаў пераважна палякам ды расіянам (у залежнасці ад гістарычных акалічнасцяў). Сімвалам улады, сацыяльнага поспеху, сталіся «панскія» мовы — польская ці руская. Пазнакай маргінальнасці — «простая» беларуская. Вызначэнне сябе беларусам сведчыла ў вачах саміх (!) простых беларусаў пра ўласную сацыяльную прыніжанасць. Падняцца па сацыяльным «ліфце» азначала апалячыцца ці зрусіфікавацца. Зноў жа, за рэдкім выключэннем.




Беларускімі (на жаль, адно ў этнічным сэнсе) нашы гарады пачалі станавіцца толькі дзякуючы апошняй вайне (цынічна, але праўда), калі папярэдняе насельніцтва ці загінула, як у выпадку з габрэямі, ці было дэпартаванае (рэпатрыяванае), як у выпадку з палякамі.

Ды толькі гэта ўжо быў трывалы савецкі час. І ў першую чаргу гэта былі савецкія, і толькі ў другую — беларускія гарады. У іх па вызначэнні не было месца для магчымай беларускай «буржуазіі». У іх не было месца нават для нацыянальнай (!) беларускай інтэлігенцыі, а толькі для савецкай (!) беларускай інтэлігенцыі.

І за савецкім часам моваю гарадскіх вярхоў — партыйнай і савецкай бюракратыі, прамысловай інтэлігенцыі — засталася руская. Умоў для стварэння беларускага народа ў праўдзівым сэнсе гэтага панятку не існавала. Яны з'явіліся толькі на развале былой савецкай дзяржавы, калі выхадцы з беларускіх вёсак атрымалі нарэшце шанец стацца непадробнымі буржуа ўжо без аніякіх двукоссяў.

Незалежна ад нашага жадання існуюць пэўныя гістарычныя законы, паводле якіх паўсталі іншыя народы. Найлепшым для ўсіх нас будзе як мага хутчэй усвядоміць, што мы належым да так званых «спазніўшыхся» нацый. Праўдзівей, яшчэ толькі маем шанец ёй стацца. І з'яўленне ў гарадах курсаў кшталту «Мова нанова», пэўны ўздым цікавасці да беларушчыны, свайго, адрознага ад чужога, і ёсць закладам, што беларускі народ можа спраўдзіцца.

Марна заклікаць дзейсную ўладу павярнуцца нарэшце да беларускай мовы тварам. Гэтага аніколі не адбудзецца! Не толькі праз тое, што ў пэўным узросце людзі ўжо не ў стане змяніць свае светапогляды. Некалі наша ўлада ахвяравала беларускай мовай і шэрагам іншага дзеля свайго ўсталявання. Вялізная рэшта беларускага насельніцтва, што высунула яе наверх, зрабіла ў складаны час тое самае дзеля ўласнага выжывання. Толькі такім чынам для іх было магчыма залезці ў расійскую кішэню. За дваццаць два гады наша краіна прайшла па коле і вярнулася ў кропку, дзе і перад той самаю ўладаю, і перад тым жа самым насельніцтвам нанова паўсталі амаль тыя ж выклікі. Усяго толькі розніцы, што ўлада занепакоеная не ўсталяваннем, а самазахаваннем. Дык з чаго ўлада і насельніцтва мусяць мяняць сваё стаўленне да беларускай мовы? З дапамогаю мовы яшчэ аніхто не нагадаваў пуза...

Толькі пры адной умове з вуснаў беларускай улады загучыць беларуская мова, і яна пачне дбаць пра яе — калі ва ўладу прыйдуць носьбіты гэтай мовы. Але нават пры ўладзе яны мусяць памятаць, што іх захады па пашырэнні ўжытку беларускай мовы не надта будуць вітаць тыя, каго гэта датkнецца. Як, да прыкладу, паставяцца да магчымай беларусізацыі сваіх установаў большасць звычайных выхавацелек дзіцячых садкоў? А настаўнікі, якія пры заробках, што застануцца тымі самымі (то бок невялікімі), займеюць пры гэтым багата дадатковага клопату? Адказ відавочны — беларускае насельніцтва ад пачатку 1990-х гадоў змянілася не дужа. І вінаваціць людзей за тое, што маюць адрозныя ад нашых каштоўнасці — справа марная.

Падаецца, на сёння існуе толькі адзіны шлях распаўсюду беларускай мовы. Я нарэшце ўсвядоміў, што так аніколі і не дачакаюся, каб вакол мяне загучала беларуская мова, пакуль не пачну размаўляць на ёй сам. Ужо амаль месяц — першага разу за ўсё сваё немалое жыццё — намагаюся як часцей размаўляць з людзьмі па-беларуску. Гаманю, перамагаючы няёмкасць, але ўжо толькі ад разумення, што гаворка мая куды больш удае на «трасянку», чымсьці на беларускую мову. Ды з кожным днём адчуваю, як усё нязмушаней ільецца — цяпер ужо насамрэч! — роднае слова.

Вядома, былі, ёсць і будуць крыху здзіўленыя і ўсмешлівыя позіркі з прыхаваным: «Ды навошта табе?!» Тым нечаканей было аднойчы ўбачыць, як пачырванеў, напружыўся адзін дашчэнту (!) зрусіфікаваны чалавек і... раптам адказаў мне на ламанай, але беларускай мове! А крыху пазней ужо другі, таксама вялікі прыхільнік расейшчыны, пажартаваў: «Так, глядзі, і я пачну па-беларуску размаўляць!» Ды ўсе мы ведаем, што ў кожным жарце прытоеная таксама і рэшта праўды.

**Ігар Златагурскі, вязень ПК №13**

**РУСІФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСІ**
**у лічбах**

**99,9%**
беларускіх студэнтаў ВНУ навучаюць на рускай мове

**86%**
беларускіх школьнікаў навучаюць на рускай мове

**90%**
беларускіх дзетак выхоўваюць у яслях і садках на рускай мове

на 2015 г.




# «Фабіа Лепорэ джаз квартэт» хутка ў Беларусі!

**У рамках «Года культуры 2016» і культурнага абмену з краінамі ЕС музыкі «Фабіа Лепорэ джаз квартэт» у падтрымку свайго новага CD прадставяць канцэрт «Pausa Caffè», прысвечаны 80-годдзю італьянскага джазу.**

Гэтая праграма ўжо была прадстаўлена ў Італіі, дзе атрымала захопленыя водгукі публікі і італьянскіх музычных крытыкаў. Пазней праграма была паказаная ў Ганконгу, Кантоне, на XII міжнародным джазавым фестывалі ў г. Банска (Балгарыя), у Аргенціне, а цяпер яе могуць пачуць у Беларусі. Склад «Фабіа Лепорэ джаз квартэту»: Фабіа Лепорэ — лідар-вакал (тэнар); Дзіна Пласмаці — гітара; Джанлука Франкав'еры — бас; Фабіа Дэла Фолы — ударныя.

Фабіа Лепорэ — вядомы джазавы вакаліст (тэнар), які быў з канцэртамі ў 35 краінах свету. Прымаў удзел у шматлікіх музычных праектах (апошні тэлепраект італьянскага тэлебачання Rai2 «Italia's Got Talent 2016»).

Выступаў у канцэртах з сусветнымі зоркамі, такімі, як Даян Уорвік (ЗША) і вядучымі еўрапейскімі аркестрамі, у тым ліку з аркестрам правінцыі Бары, у суправаджэнні якога праходзяць канцэрты ў Італіі. Выконваў галоўныя партыі ў мюзіклах «Адысей» (тэатр Салерна, 2008) у ролі Эумео, «Вестсайдская гісторыя» (тэатр Бары, 2008) у ролі Тоні.

Беларускаму гледачу Фабіа Лепорэ вядомы па выступе на адкрыцці Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску ў 2014 годзе.

У канцэртнай праграме «BELARUS TOUR 2016» у Мінску, Віцебску, Гомелі артыст выканае творы, якія ўвайшлі ў яго CD з аднайменнай назвай «Pausa Caffè». Прагучаць кавер-версіі твораў Эніа Марыконэ, Генры Манчыні, іншых італьянскіх кампазітараў і кавер-версіі песень Ферэра і Стыва Уандэра (ЗША).

Першы выступ адбудзецца ў Мінску ў Палацы культуры ветэранаў 14 лістапада а 19.00. Турнэ адбудзецца пры садзейнічанні беларускага МЗС і Пасольства Італіі ў Беларусі.

# Новая кніга краязнаўцы

Зінаіда ЦІМОШАК

**У Слуцкай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі вядомага мастака-краязнаўцы Ігара Цітkоўскага «Слуцк. Гісторыя горада ў помніках архітэктуры».**

Гэта ўжо не першая кніга выкладчыка мастацкай школы Ігара Цітkоўскага па гісторыі Случчыны. Кніга «Мастакі і ўмельцы» з'явілася яшчэ ў 1995 годзе. Пазней былі падрыхтаваны і выдадзены даведнікі «Помнікі архітэктуры Слуцка» (Слуцк, 1997), «Храмы горада Слуцка. Мінуўшчына і сучаснасць» (Слуцк, 2003), «Случчына. Уладары краю. X–XIX стагоддзі» (Слуцк, 2004), «Мастакі Случчыны» (Слуцк, 2006), «Слуцк. Гісторыя горада ў помніках архітэктуры» (Мінск, 2015).

Прымаў мастак-краязнаўца ўдзел і ў стварэнні двух тамоў гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць. Слуцкі раён, Слуцк», якая выйшла ў 2000–2001 гадах.

Па словах самога аўтара, новая кніга — працяг і развіццё тэмы, прысвечанай помнікам архітэктуры Слуцка.

— Час не стаіць на месцы, — сказаў аўтар. — З'явілася новая інфармацыя, а штосьці прыйшлося і падкарэктаваць. Гістарычныя крыніцы нярэдка даюць супярэчлівыя звесткі, а зараз ёсць магчымасць працаваць у розных архівах, у тым ліку і замежных. Захацелася ажывіць кнігу новымі персанажамі і надаць новы фармат.

Па словах аўтара, мэтай працы з'яўляецца папулярызацыя гісторыі горада. Кніга разлічана на школьнікаў, студэнтаў і ўсіх зацікаўленых асобаў.

У манаграфіі прыводзяцца звесткі пра 54 архітэктурныя аб'екты, што былі ў Слуцку раней, і пра тыя, якія існуюць зараз. Гэта помнікі грамадзянскай, абарончай і храмавай архітэктуры. Колькасць помнікаў і іх апісанне на старонках уражвае. Кніга — гэта сапраўдная вандроўка па старонках гісторыі Случчыны. На жаль, у Слуцку няшмат захавалася гістарычных помнікаў, паколькі старажытны Слуцк быў пабудаваны з дрэва. Над знішчэннем драўляных культавых будынкаў папрацавалі час, пажары, наступствы розных войнаў. У 1930-я гады бальшавікамі ў гістарычным цэнтры горада ўжо свядома быў узарваны Мікалаеўскі сабор. Некаторыя помнікі архітэктуры зніклі з твару горада ўжо ў 70-я і 80-я гады мінулага стагоддзя.




Падчас правядзення дажынак былі знішчаны будынкі гарадской бальніцы, пабудаваныя ў пачатку XX стагоддзя.

Кніга выйшла накладам у 250 экземпляраў у мінскім выдавецтве «Смэлтак». Матэрыяльную падтрымку для выдання кнігі аказала мінская кампанія «Твая сталіца», якой кіруе Уладзімір Давідовіч, былы жыхар Слуцка.

«Я лічу, што без нацыяльна-культурнага адраджэння немагчыма развіццё нават беларускай эканомікі, — сказаў у каментары НЧ Уладзімір Давідовіч. — Па магчымасці мы падтрымліваем розныя культуралагічныя праекты, аказваем падтрымку тэатру беларускай драматургіі. Хацелася б, каб дзеці і ўнукі не з'язджалі на Захад, а раслі на роднай зямлі, ведалі яе гісторыю і мову, ганарыліся сваёй сучаснай Радзімай».

# «А запражыце каня варанога»

Павел АКСІНОВІЧ

**Спеўныя сходы — выдатная магчымасць даведацца пра музычныя творы і творцаў, навучыцца выконваць народныя песні і проста з карысцю і прыемна правесці вольны час.**

У мінскім Палацы мастацтва 23 кастрычніка спеўны сход прысвяціў вечар народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну і яго зборніку фальклору «Песні матчыны з Вушаччыны».

Сярод арганізатараў ініцыятывы былі гурт «Re1ikt» і саліст гурта «Vuraj» Сяргей Доўгушаў. Сяргей і стаў настаўнікам вечара: музыка вучыў не толькі рытміцы спеваў, але і пастаноўцы правільных гукаў, што важна для харавога вакалу. Сяргею дапамагаў баяніст Яўген Курыльчык.

Пасля выканання некалькіх песень у холе палацу ўдзельнікаў запрасілі ў канферэнц-залу на канцэрт «Re1ikt». Музыкі літаральна пару дзён таму прадставілі свой новы альбом «Kufar». Падчас выступу яны зноў сыгралі «Дробненькі дожджык» Барадуліна.

Наступны спеўны сход быў прысвечаны творчасці беларускага кампазітара Станіслава Манюшкі. Ён адбыўся 25 кастрычніка ў галерэі «Ў». У яго ўдзельнікаў была магчымасць пазнаёміцца з жыццём і музычнай творчасцю выбітнага кампазітара. Манюшка, які нарадзіўся ў фальварку Убель на Міншчыне, з маленства адчуў хараство беларускага фальклору, асабліва песні. І потым цягам усяго жыцця, жывучы ў Вільні і Варшаве, ён шчодра чэрпаў з крыніцы беларускай народнай творчасці.

Удзельнікі спеўнага сходу развучылі і заспявалі разам з мастацкім кіраўніком і вядучым Сяржуком Доўгушавым песні на музыку Манюшкі. Запрошаным госцем сходу быў прафесар Віктар Скарабагатаў.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня
Всего
Кассир

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143, Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. Код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда, (8 029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек, квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1046

Падпісана да друку 28.10.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.